# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 3 ( 51)** **ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ** **2010 г.**


# *Новае аблічча Ліды*



*Вадзім Вераб'ёў*. **Адэля з Устроні - першая беларускамоўная паэтка Беларусі.** *Аловак. 2010 г.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

**№ 3 ( 51 )** **ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ** **2010 г.**

## У НУМАРЫ:



*На першай старонцы выкладкі здымак невядомага аўтара з аднаго з лідскіх сайтаў.*





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік і навуковы кансультант
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

231293, Лідскі р-н, в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 300 асобнікаў**
**9,5 друк. аркушаў**

**Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.**
**Замова № 19**
**Часопіс падпісаны да друку 30. 09. 2010 г.**
**Часопіс надрукаваны 24.04.2011 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 2680 руб.**
**індывід. 6 мес.- 5360 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

ISSN 2218-1792





# КРОНІКА ЛІДЫ



19 чэрвеня 2010 года кіраўніком неафіцыйнага Саюза палякаў на Беларусі абрана Анжаліка Арэхва з Ліды.



1 ліпеня медаль "За працоўныя заслугі" атрымаў механізатар РСУП "Мажэйкава" **Антановіч Юрый Віктаравіч.**

7 ліпеня 2010 года ў Лідзе выйшла кніга паэзіі лідскага паэта **Івана Гушчынскага** "Ідзі і вяртайся". 92 ст. Наклад 100 асобнікаў.





19 ліпеня адбылася кансэкрацыя касцёла Святой Сям'і па вул. Тухачэўскага.







30 ліпеня здадзены жылы дом па вул. Лётнай, 1б на 115 кватэр.

У жніўні 2010 года ў Маскве ў выдавецкім доме ТАА "Рытм" выйшла кніга лідскага краязнаўца **Міколы Дзікевіча** "Дзітрыкі. Згукі заснуўшай цывілізацыі". 200 ст. Наклад 500 асобнікаў.






У жніўні 2010 года ў Менску ў выдавецтве “Кнігазбор” выйшла кніга паэзіі лідскага паэта **Алеся Стадуба** “Шэпты крыл. Вершы, трыялеты, прысвячэнні, пераклады”.
116 ст. Наклад 100 асобнікаў.




У верасні 2010 года РУП “Белпошта” выпусціла блок з 9 марак з выяваю герба Ліды.



У верасні 2010 года РУП “Белпошта” выпусціла мастацкі канверт з мастацкім аркушам для ліста з выявай Лідскага замка.



У верасні 2010 года РУП “Белпошта” выпусціла мастацкі канверт да “Дажынак - 2010” са стылізаванай выявай Лідскага замка.




У верасні 2010 года ў выдавецтве “Беларусь”, г. Менск, выйшаў фотаальбом лідскага фотамастака **Ігара Пешахонава** “Лідскі край”.
224 ст. Наклад 3000 асобнікаў.




У верасні 2010 года ў Гародні выдадзены камплект з 10 паштовак “Знакамітыя месцы Гарадзеншчыны”. У камплекце 4 паштоўкі прысвечаны Лідзе. Лідскія паштоўкі створаны на аснове фотаздымкаў лідскага фатографа **Лілеі Лапшыной**. Наклад 1000 камплектаў.




У верасні 2010 года ў Лідзе выйшаў мастацкі альбом-буклет “Лидский район “Дожинки - 2010”.

# Літаратурны музей у Лідзе

22 верасня 2010 года ў Лідзе адкрыты Літаратурны музей. Музей адкрыты як філіял Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Шматгадовая эпапея закончылася.

Музей адкрыўся ў доміку каля замка, у якім у 1939 - 1941 гадах жыў беларускі паэт Валянцін Таўлай. Домік ацалеў у вайну, быў прыведзены ў парадак, абкладзены цэглай у канцы 70-х - пачатку 80-х гадоў 20-га стагоддзя. Тут доўгі час размяшчаўся лідскі спорткамітэт. І ўвесь гэты час грамадскасць горада, Лідская гарадская арганізацыя ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", літаратурныя аб'яднанні дабіваліся адкрыцця тут менавіта літаратурнага музея, бо былі ідэі адкрыць нешта кшталту дома славы для





*Лідскія класікі*






***Падчас адкрыцця музея. На пярэднім плане дырэктар Лідскага гістарычна-мастацкага музея Ганна Драб, а таксама лідскія паэты Валера Мацулевіч, Міхась Мельнік, Іван Гушчынскі, Пятро Макарэвіч.***

ўшанавання знакамітых людзей Лідчыны.

Аднак пры садзеянні раённых уладаў у 2004 годзе сітуацыя зрушылася ў бок музея, паступова быў выселены спорткамітэт, прапрацавана канцэпцыя, праведзены капітальны рамонт, і музей адкрыўся.

На адкрыццё музея прыйшлі яго супрацоўнікі, лідскія літаратары розных пакаленняў, журналісты.

У малым холе вывешаны партрэты класікаў, хто так ці інакш звязаны з Лідай. Асаблівую цікавасць выклікае партрэт Адэлі з Устроні, які паказаны ўпершыню. Партрэт узноўлены лідскім мастаком і скульптарам Вадзімам Вераб'ёвым. Тут жа партрэты Францішка Багушэвіча, Цёткі, Янкі Купалы, Ніны Тарас, Уладзіміра Корбана, Кастуся Тарасава, Земавіта Фядэцкага, Ежы Путрамента. Некаторыя з іх практычна не вядомыя ў шырокай Беларусі.

**Адэля з Устроні** (Устроні - лідскія землі за Нёманам), першая беларуская паэтэса якая напісала на лацініцы па-беларуску паэму "Мачаха" (1850) і на польскай мове - верш "Кракаў" (1850). Рукапіс паэмы быў знойдзены Адамам Мальдзісам у Кракаўскай Ягелонскай універсітэцкай бібліятэцы і надрукаваны адрыўкамі ў 1974 годзе, і цалкам у 1986 годзе (Краю мой - Нёман, Мн., 1986, с. 239-242).

*Я ж сіротка ў роднай хатцы!*
*Не схінуся к чужой матцы!*
*Бо яна ж мне чужа чужым!*
*Не злажуся і слоўцам адным.*
*Ці душа твая не гляне,*
*Як яна мяне ганяе.*
*Ты мне з мілым абручыла*
*І звянчыла бы, каб жыла.*

**Земавіт Фядэцкі** нарадзіўся 22 жніўня 1923 года **ў Лябёдцы на Лідчыне**. Тут правёў дзяцінства і перажыў вайну. У вёсцы Феліксава ў 1942 годзе сабраў і апрацаваў вялікую колькасць беларускіх народных песень, якія выдаў у 1992 годзе пад назвай "Цёплыя вечары ... ды халодныя ранкі... czyli co spiewano w Feliksowie". З лёгкай рукі аўтара кніга трапіла ў многія краіны свету, аж да Новай Зеландыі. У Італіі зборнік назвалі "песнямі Атлантыды".

У 1948 - 1950 гадах Земавіт Фядэцкі працаваў шэфам рэдакцыі рускай літаратуры ў выдавецтве "Czytelnik" ("Чытач"). У 1950 годзе супрацоўнічаў са штомесячнікам "Tworczosc" ("Творчасць"). У тым жа 1950 годзе стаў аташэ па культуры польскай амбасады ў Расіі. Дзякуючы знаёмству з Барысам Пастарнакам прывёз у Польшчу асобнік "Доктара Жывага" і надрукаваў у 1957 годзе фрагмент у штоквартальніку "Opinie" ("Водгукі"). Гэта была першая ў свеце публікацыя тэксту Пастэрнака (часопіс быў закрыты пасля выхаду другога нумару). Працаваў таксама карэспандэнтам "Рэчыпаспалітай" у Маскве.

Земавіт Фядэцкі садзейнічаў культурнаму збліжэнню Польшчы і Савецкага Саюза, перакладаючы на польскую мову творы паэзіі і прозы , у т. л. Аляксандра Купрына, Юрыя Тунянава, Міхаіла Булгакава, Юрыя Трыфанава, Мікалая Забалоцкага, Сяргея Ясеніна і Ўладзіміра Высоцкага, а таксама зусім невядомую ў Польшчы творчасць Ісака Бабеля і Марыны Цвятаевай.



***Пра Земавіта Фядэцкага ўспамінае найстарэйшы літаратар Лідчыны Алесь Жалкоўскі***

Свайму адкрыццю ў Польшчы яму абавязаны таксама Булат Акуджава. Паэт высока цаніў пераклады Фядэцкага, нават сцвярджаў, што ў яго перакладзе "Балада пра караля" гучыць лепш, чым у арыгінальнай версіі. Шмат перакладаў і з беларускай мовы.

У 1954 годзе ў Варшаве ўзнік STS - Студэнцкі тэатр сатырыкаў, для якога Фядэцкі пісаў тэксты кабарэ, песні, у т.л. "Chyba tak", "Piosenka dla konduktora", "Piosenka o koledze". Дзякуючы Фядэцкаму ў STS прайшла сусветная прэм'ера п'есы "Эльжбета Бам" Данііла Хармса. У 2001 годзе Земавіт Фядэцкі - паводле "Літаратурнай газеты" эксгуматар псеўдалітаратуры - атрымаў узнагароду ПЭН-клуба за пераклады на польскую мову рускай, беларускай і французскай літаратуры.

Земавіт Фядэцкі вельмі моцна любіў Беларусь. Пабываўшы ў розных краінах свету казаў: "УБеларусі мне найлепей." У 1996 годзе наведаў Ліду і Лідчыну, удзельнічаў у працы 2-га з'езду лідзян, сустрэўся з колішнімі сябрамі ў Феліксаве, Парачанах, Скрыбаўцах, Малым Мажэйкаве і ў Гасцілаўцах.

Памёр у 8 студзеня 2009 года ў Варшаве.

Пісьменнік з сусветным імем **Ежы Путрамент** (І4.11.1910, г. Менск -23.06.1986) у 1925-30 гг. вучыўся **ў лідскай гімназіі імя Хадкевіча**. Скончыў Віленскі універсітэт (1930-34). Падчас 2-й Сусветнай вайны працаваў у Маскве. Пасля вайны на дыпламатычнай працы: пасол Польшчы ў Швейцарыі (1945-47) і Францыі (1947-50); сакратар польскага Саюза пісьменнікаў у 60-я гады.

Пачаў друкавацца з 1932 года. Да вайны выдаў два зборнікі вершаў. Напісаў дзесяць раманаў: "Сапраўднасць" (1947), "Верасень" (1951), "Перапуцце" (1954), "Ноеў каўчэг" (1961), "Пасынкі" (1963), "Вяпрук" (1964), "Пушча" (1966), "Малаверныя" (1967), "Болдын" (1969), "Выбранныя" (1978-79) і шасцітомную кнігу ўспамінаў "Паўстагоддзя" (1964-80). У першым томе вельмі дасканала паказана даваенная Ліда і Лідчына, парадкі і ўмовы навучання ў гімназіі імя Караля Хадкевіча. Узнагароджаны ордэнам Дружбы Народаў (1980).

Лідскі музей - мабыць, адзіны музей, дзе размешчаны партрэт слыннага беларускага празаіка **Кастуся Тарасава**. Кастусь Тарасаў нарадзіўся 10 каст-




***Інтэр’еры мемарыяльнага пакоя Валянціна Таўлая***




***Экспазіцыя “Жыццё і творчасць Валянціна Таўлая”***



***Бюст В. Таўлая, дакументы і творы***

рычніка 1940 года ў Менску. Пасля заканчэння сярэдняй школы (1957) на працягу трох гадоў працаваў слесарам-зборшчыкам на Менскім механічным заводзе, калектарам у Паўночна-Заходняй геолагаразведачнай экспедыцыі, слесарам-мантажнікам у арганізацыі «Спецэлеватармельбуд». Вучыўся на хімічным факультэце Беларускага політэхнічнага інстытута (1960—1965). Па заканчэнні інстытута працаваў майстрам шкловарэння **на шклозаводзе «Нёман» у Бярозаўцы**, тэхнолагам на віцебскім заводзе «Маналіт».

Быў рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве «Вышэйшая школа» (1967—1975), журналістам па дамове і загадчыкам аддзелу прапаганды і агітацыі газеты «Знамя юности» (1975—1977), рэдактарам аддзела мастацтва і крытыкі часопіса «Неман» (1977—1983), спецыяльным карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва» (1986—1988). З 1990 года — адказны сакратар часопіса «Спадчына». Працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм», у газеце «Свабода». Друкаваўся з 1965 года.

Адным з першых сярод беларускіх пісьменнікаў

узняў тэму гістарычна-культурнай спадчыны. З мастацкім творам выступіў упершыню ў 1976 годзе (аповесць «Следственный эксперимент», часопіс «Неман»). Пісаў на рускай і беларускай мовах. Аўтар кніг аповесцяў «День рассеяния», «Странствие в тесном кругу», «Погоня на Грунвальд», «Апошняе каханне князя Міндоўга», «Адзіны сведка — бог», рамана «Тры жыцці княгіні Рагнеды», літаратурна-гістарычных эсэ «Памяць пра легенды: Постаці беларускай мінуўшчыны», а таксама зборнікаў гістарычных дэтэктываў «У час Стральца» і «Залатая Горка». Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» за лепшую публікацыю ў прозе (2008 г.) часопіса «Дзеяслоў».

Напісаў аповесць “На вайне”.

Памёр 22 сакавіка 2010 года.





***Фрагменты экпазіцыі “Лідчына літаратурная”***

А **Валянціну Таўлаю** ў музеі прысвечаны мемарыяльны пакой. Пакой падзелены на дзве часткі. У адной размешчаны рэчы перадваеннай і ваеннай эпохі, аналагічныя тым, якія маглі стаяць у доме В. Таўлая. Вісіць жырандоля, прывезеная з дома, у якім жыў В. Таўлай у Наваградскім раёне у час вайны. У другой частцы пакоя - экспанаты, якія распавядаюць пра жыццё і творчасць паэта.

Экспанаты для мемарыяльнага пакоя збіраліся Лідскім гістарычна-мастацкім музеем і рэдакцыяй часопіса “Лідскі летапісец”. У Беларусі існавала некалькі музеяў, дзе ўшаноўвалася памяць Валянціна Таўлая (два на Слонімшчыне, адзін у Баранавічах). На сёння фактычна існуе толькі школьны музей у Баранавічах. Экспанаты іншых двух расцярушаны па агульна-краязнаўчых музеях. Патрэбна яшчэ вялікая работа, каб нешматлікія арыгінальныя рэчы, звязаныя з жыццём і творчасцю В. Таўлая трпілі ў Ліду. ¨сць спадзяванні, што нешта з рэчаў, якія належалі Валянціну Таўлаю, змогуць перадаць сястра Ніна і дачка Галіна.

Падчас адкрыцця музея планавалася таксама адкрыццё мемарыяльнай дошкі Валянціна Таўлая (аўтар Рычард Груша), але дошка з першага заходу не была зацверджана Мастацкай радай пры Гарадзенскім аблвыканкаме.

Самы вялікі пакой прысвечаны сучасным лідскім літаратарам, іх творчасці. За ўсю гісторыю Лідчына можа пахваліцца больш, чым 400 імёнамі літаратараў самага рознага ўзроўню. У музеі прадстаўлена толькі невялікая частка з іх - тых, чые творы былі ў фондах музея, хто парупіўся і прынёс нейкія цікавыя рэчы і экспанаты. Найбольш знакамітыя сярод сучасных лідскіх паэтаў і пісьменнікаў гэта вядома ж Данута Бічэль і Крысціна Лялько. Годнае месца займаюць Алесь Стадуб і Віктар Праўдзін, Ірына Багдановіч, Міхась Мельнік, Пятро Макарэвіч, Уладзімір Васько, Віктар Бачароў, Смарагд Сліўко, Леанід Віннік.

На другім паверсе яшчэ тры пакоі.

Адзін - выставачна-экспазіцыйны салон, дзе будуць ладзіцца невялікія выставы карцін, рэдкіх выданняў, а таксама невялікія літаратурныя мерапрыемствы.

У другім пакоі разгорнута выстава твораў беларускіх паэтаў і пісьменнікаў - юбіляраў 2010, а далей наступных гадоў. У перспектыве тут будзе экспазіцыя “Гісторыя выдавецкай справы на Лідчыне

У трэцім пакоі - бібліятэка і рабочы кабінет.

Безумоўна, зроблены толькі першы крок, будуць збірацца экспанаты, будзе весціся даследчая праца. Вырашаюцца кадравыя пытанні.

***Станіслаў Суднік.***

# ДАЖЫНКІ - 2010




24-25 верасня Ліда сустракала лепшых хлебаробаў краіны. На два дні Рэспубліканскі фэст-кірмаш "Дажынкі-2010" сабраў у раённым цэнтры больш за 100 тысяч удзельнікаў і гасцей. Гарадзеншчына ўжо ў трэці раз прыняла ўдзельнікаў свята. У 1997 годзе фэст прымалі Масты, у 2003 - Ваўкавыск. На гэты раз шчаслівы квіток па правядзенні 14-х "Дажынак" выпаў аднаму з найстарэйшых гарадоў Беларусі - гораду Лідзе. "Дажынкі-2010" сталі для Ліды найбуйнейшым масавым мерапрыемствам за ўсю гісторыю яе існавання. А колькасць грошай, укладзеных у горад, - найбуйнейшая сума якая паступала аднаразава.

Арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні гандлёвай часткі фэсту-кірмашы працаўнікоў сяла "Дажынкі-2010", быў створанага загадам Міністра гандлю ад 29 сакавіка 2010 г. № 53. На падрыхтоўку Ліды да свята было вылучана каля Br350 млрд. План прадугледжваў 220 мерапрыемстваў па будаўніцтве, рамонту і мадэрнізацыі будынкаў, пабудоў, інжынерных сетак, вуліц і дарог, а таксама добраўпарадкаванні і азеляненні тэрыторыі. Работы вялі 66 будаўнічых арганізацый, было задзейнічана каля 5 тыс. будаўнікоў. Акультурваць горад дапамагалі і мясцовыя жыхары, працуючы на суботніках. У выніку да "Дажынкаў" Ліда займела новае аблічча.

Пабудаваны і рэканструяваны шэраг аб'ектаў сацыяльна-культурнага, спартовага і гістарычна-культурнага прызначэння, прыведзеныя ў парадак аб'екты гандлю, аховы здароўя, адукацыі. Рэканструявана 29 вуліц у адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі, пракладзена 280 тыс.кв.м асфальтабетоннага пакрыцця, зроблена замена і мадэрнізацыя больш за 45 км камунікацый. Адрамантаваны фасады 123 жылых дамоў і ўведзены ў эксплуатацыю 110-кватэрны дом для насельнікаў знесенага жылля. Новае жыццё атрымалі гасцініца



“Ліда”, Дом культуры, аўта- і чыгуначны вакзалы, кінатэатр “Юбілейны”, а ў будынку былога кінатэатра “Кастрычнік” расчыніў дзверы цэнтр народных рамёстваў.

Адзін з самых значных аб’ектаў - Лёдавы палац, на ўзвядзенне якога выдаткавана каля Br38,5 млрд. рублёў.

“Дажынкі” прывялі ў жыццё планы па рэканструкцыі Лідскага замка. І хоць усе работы плануецца завяршыць у 2012 годзе, вежы і сцены адноўленага замка паўсталі ва ўсёй сваёй велічы.



Горад упрыгожылі і сімвалічныя аб’екты - стэла да 2000-годдзя хрысціянства і скульптура льва з ключамі, якая ўвасабляе фантазію на тэму герба горада. Дзякуючы “Дажынкам” лідзяне атрымалі найпрыгожую водна-паркавую зону, прылеглую да тэрыторыі галоўнай пляцоўкі каля Палаца культуры. Тут пабудаваны трохузроўневы фантан, пракладзеная сучасная лыжаролерная траса.

*(Поўны пералік аб’ектаў, на якіх вяліся работы, будзе апублікаваны ў наступным нумары.)*

Свята пачалося ўрачыстым шэсцем удзельнікаў фэсту. Узначаліў шэсце шмат’ярусны двухмятровы каравай вагой у 130 кг.

Галоўнымі героямі першага дня “Дажынак” сталі прызёры рэспубліканскіх спаборніцтваў, якія занялі другія і трэція месцы. Усяго каля 150 чалавек




















атрымалі ў падарунак бытавую тэхніку, а прызёры сярод сельгасарганізацый - грашовыя прэміі.

Народныя майстры і рамеснікі дэманстравалі сваё мастацтва на рэспубліканскім фэсце-кірмашу "Дажынкі-2010". Больш за 300 майстроў з усіх рэгіёнаў Беларусі размясціліся на 7 кіламетрах гандлёвых радоў. Тут былі шырока прадстаўленыя такія традыцыйныя для беларусаў рамёствы, як ганчарная і кавальская справа, саломапляценне, бандарства, разьбярства па дрэве, размалёўка па тканіне і многае іншае. Для арганізацыі гандлёвага абслугоўвання былі паданыя заяўкі ад 318 суб'ектаў гаспадарання на размяшчэнне 574 намётаў і павільёнаў, колькасць месцаў грамадскага сілкавання - 7150.

Быў вызначаны пералік аб'ектаў грамадскага сілкавання для абслугоўвання афіцыйных дэлегацый і гасцей фэсту. У яго ўвайшлі 44 аб'екты грамадскага сілкавання горада і раёна.

Паводле праграмы асноўных мерапрыемстваў








фэсту пад "Дажынкі-2010" быў задзейнічаны ўвесь цэнтр горада. Рэалізоўваліся наступныя праграмы:

"Запрашаем на Дажынкі" *(зазывалы на вуліцах г. Ліды).*

"Кірмаш-продаж" *(работа гандлёвых пунктаў і карабейнікаў).*

"Традыцыйныя рамёствы – наша каштоўная спадчына" *(горад майстроў).*

"Свет захапленняў" *(выстава-продаж вырабаў навучэнцаў прафесійна- тэхнічных навучальных устаноў Гарадзенскай вобласці).*

Шэсце і канцэртныя выступленні духавых аркестраў вобласці на вуліцах і плошчах г. Ліды.

Канцэртныя выступленні творчых калектываў Гарадзеншчыны на сцэнічных пляцоўках горада, спартыўныя спаборніцтвы, мастацкія выставы.

Пляцоўкі:

Песенна-эстрадная (тэрыторыя дзіцячай школы мастацтваў);

Фальклорна-гульнёвая (бульвар Гедзіміна);

















Гістарычна-культурная (тэрыторыя Лідскага замка);

Дзіцячая эстрадна-гульнёвая (гарадскі парк):

Мастацкая. "Арт-кірмаш" (гісторыка-мастацкі музей);

"Спартовая" (стадыён "Юнацтва", лыжна-ролерная траса, лядовы палац).

Прайшоў канцэрт майстроў мастацтваў і творчых калектываў "Гарадзешчына фестывальная – працаўнікам вёскі Рэспублікі Беларусь".

Прайшоў гала-канцэрт "Майстры мастацтваў-працаўнікам вёскі" (галоўная сцэна) і святочны феерверк.

Упершыню за ўсю гісторыю правядзення рэспубліканскіх "Дажынак" на Лідчыне была арганізавана выстава разнастайнай сельскагаспадарчай тэхнікі, выпрацаванай машынабудаўнікамі Беларусі.

Перад жыхарамі і гасцямі фэсту на сцэнічных пляцоўках "Горада майстроў" выступалі лепшыя фальклорныя калектывы Лідчыны. У сценах Лідскага замка змагаліся рыцары з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы і Літвы.

Асноўнай падзеяй другога дня свята стала ўручэнне прэзідэнтам краіны першых прэмій. 15 лепшых хлебаробаў атрымалі Дыпломы пераможцаў і аўтамабілі. Усяго ж узнагароджаны былі 362 працаўнікі, з іх 265 - непасрэдна героі жніва.

Калі правілы правядзення свята застануцца ранейшымі, наступная такая магчымасць комплекснага рамонту горада надарыцца прыблізна праз 100 гадоў.

Зарэгістравана ў Нацыянальным рэестры прававых актаў
Рэспублікі Беларусь 16 лютага 2009 *г.* № 1/10479

**УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
**12 лютага 2009 г. N 95**

## АБ ЗМЯНЕННІ МЕЖАЎ ЛІДСКАГА І НАВАГРАДСКАГА РА¨НАЎ

У адпаведнасці з артыкулам 8 Закона Рэспублікі Беларусь ад 5 траўня 1998 года "Аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленні і парадку рашэння пытанняў адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкавання Рэспублікі Беларусь" ПАСТАНАЎЛЯЮ:

1. Змяніць межы Лідскага і Наваградскага раёнаў, уключыўшы ў Лідскі раён размешчаныя ў Наваградскім раёне зямельныя ўчасткі агульнай плошчай 301,8658 га, у тым ліку:

255,4897 га - землі юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў паводле дадатка 1;

0,8173 га - землі грамадзян паводле дадатка 2;

45,5588 га - землі Бярозаўскага гарвыканкама.

2. Лідскаму і Наваградскаму райвыканкамам і Дзяржаўнаму камітэту па маёмасці прыняць меры па рэалізацыі гэтага Ўказу.

3. Гэты Ўказ уступае ў сілу са дня яго афіцыйнага апублікавання.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.

Дадатак 1
да Ўказу Прэзідэнта
Рэспублікі Беларусь
12.02.2009 № 95

**ПЕРАЛІК**
**ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБ І ІНДЫВІДУАЛЬНЫХ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ,**
**ЗЯМЕЛЬНЫЯ УЧАСТКІ ЯКІХ УКЛЮЧАЮЦЦА У ЛІДСКІ РА¨Н**

| Найменне юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў | Плошча зямельных участкаў, гектараў |
|---|---|
| Гаражна-будаўнічы кааператыў "Аўтабокс", г. Бярозаўка | 5,6553 |
| Гаражна-будаўнічы кааператыў "Аўтааматар", г. Бярозаўка | 0,3900 |
| Гаражна-будаўнічы кааператыў N 1, г. Бярозаўка | 0,3488 |
| Дзяржаўная лесагаспадарчая ўстанова "Наваградскі лясгас" | 182,4699 |
| Гарадзенскае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства электраэнергетыкі "Гроднаэнерга" | 1,8370 |
| Гарадзенскае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства электраэнергетыкі "Гроднаэнерга", вытворчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства "Гроднааблгаз" | 0,1568 |
| Даччынае ўнітарнае прадпрыемства "Аўтобусны парк № 2" рэспубліканскага аўтатранспартнага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблаўтатранс" | 0,6381 |
| Жыллёва-будаўнічы кааператыў № 1, г. Бярозаўка | 0,0051 |
| Жыллёва-будаўнічы кааператыў № 3, г. Бярозаўка | 0,3461 |
| Жыллёва-будаўнічы кааператыў № 4, г. Бярозаўка | 0,4154 |
| Жыллёва-будаўнічы кааператыў № 5, г. Бярозаўка | 0,6022 |
| Жыллёва-будаўнічы кааператыў № 7, г. Бярозаўка | 0,0675 |
| Жыллёва-будаўнічы кааператыў № 8, г. Бярозаўка | 0,3884 |
| Жыллёва-будаўнічы кааператыў № 9, г. Бярозаўка | 0,3549 |
| Жыллёва-будаўнічы кааператыў № 10, г. Бярозаўка | 0,5527 |
| Жыллёва-будаўнічы кааператыў № 12, г. Бярозаўка | 0,0369 |
| Жыллёва-будаўнічы кааператыў № 14, г. Бярозаўка | 0,27 34 |
| Жыллёва-будаўнічы кааператыў № 16, г. Бярозаўка | 0,3900 |
| Індывідуальны прадпрымальнік Варановіч Генадзь Карлавіч | 0,0375 |

| | |
|---|---|
| Індывідуальны прадпрымальнік Скобля Мікалай Мікалаевіч | 0,2563 |
| Лідскае гарадское ўнітарнае прадпрыемства жыллёва-камунальнага гаспадаркі | 6,8429 |
| Таварыства з дадатковай адказнасцю “Аспект” | 1,5700 |
| Адкрытае акцыянернае таварыства “Шклозавод “Нёман” | 36, 4272 |
| Адкрытае акцыянернае таварыства “Будаўніча-мантажны трэст № 19" | 0,4800 |
| Вытворчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства “Гроднааблгаз” | 2,1092 |
| Рэлігійная грамада Хрысціян Веры Евангельскай “Царква Благадаць” | 0,2101 |
| Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства аўтамабільных дарог “Гроднааўтадар” | 3,0207 |
| Унітарнае камунальнае прадпрыемства гандлёвы цэнтр “Патсдам” | 0,0845 |
| Унітарнае прыватнае гандлёва-вытворчае прадпрыемства Лаўнікевіча Ў.І. “Вікторыя - 95” | 0,0255 |
| Кіраванне адукацыі Лідскага райвыканкама | 3,2751 |
| Установа “Гарадзенскае абласное кіраванне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь” | 0,4605 |
| Установа аховы здароўя “Лідская цэнтральная раённая бальніца” | 2,84 43 |
| Установа адукацыі “Бярозаўская дзяржаўная агульнаадукацыйная сярэдняя школа № 3” | 2,4174 |
| **Разам** | **255,4897** |

Дадатак 2
да Ўказу Прэзідэнта
Рэспублікі Беларусь
12.02.2009 № 95

**СПІС**
**ГРАМАДЗЯН, ЗЯМЕЛЬНЫЯ УЧАСТКІ ЯКІХ УКЛЮЧАЮЦЦА**
**У ЛІДСКІ РА¨Н**

| **Прозвішча, імя, імя па бацьку** | **Плошча зямельных участкаў, гектараў** |
|---|---|
| Барыла Андрэй Віктаравіч | 0,0900 |
| Кандраценка Тамара Яўгенаўна, Пілько Віктар Яўгенавіч | 0,5492 |
| Маляўка Канстанцін Яўгенавіч | 0,0500 |
| Рэхцін Віктар Рыгоравіч | 0,1281 |
| **Разам** | **0,8173** |

# Лідскія юбіляры 2010 года

**АСЛІКОЎСКІ Мікалай Сяргеевіч** (12.09.1900 - 8.10.1971) нарадзіўся ў г. Летычаве Камянец-Падольскай губерні. Скончыў Летычаўскую мужчынскую гімназію (1918). Улетку 1918 г. у с. Марковіцы Летычэўскага павету арганізаваў партызанскі атрад, які вёў барацьбу з нямецкімі акупантамі, пятлюраўцамі, гетманаўцамі. Увесну 1919 г. са сваім атрадам уступіў у Чырвоную Армію. Ваяваў на франтах грамадзянскай вайны (1919-22). Скончыў Вышэйшую школу каманднага складу ў Харкаве (1921). Служыў у 3-й Бесарабскай кавалерыйскай дывізіі (да 1937 г.) на пасадах ад камандзіра эскадрона да камандзіра палка. З 1940 г. служыў у 9-й кавалерыйскай дывізіі ў Бесарабіі, дзе і пачаў вайну на пасадзе нам. камандзіра дывізіі. На трэці дзень вайны ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга за падрыў мастоў цераз р. Прут. Увосень 1941 г. прыняў камандаванне 9 кав. дывізіяй. У 1942 г. прызначаны камандзірам 3-га гвардзейскага кавалерыйскага корпуса. Удзельнічаў у бітвах пад Масквой, пад Сталінградам, у Беларускай аперацыі, у 1944 г. корпус вызначыўся пад Лідай і Гародняй, атрымаў назву Гарадзенскага, адным з першых выйшаў да даваенных межаў СССР. 2 траўня 1945 г. 3-ці корпус першым выйшаў да р. Эльбы і ўстанавіў сувязь з саюзнікамі. Генерал –лейтенант (1943), Герой Савецкага Саюза (9.05.1945), узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, трыма ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнамі Суворава I і II ст., Кутузава II ст., Айчыннай вайны 1ст., двума ордэнамі Чырвонай Зоркі і медалямі.

Пасля ВАВ да 1946 г. камандаваў Вышэйшай кавалерыйскай школай імя Будзённага ў Маскве. З 1953 г. на педагагічнай працы. Ваенны кансультант у кінематаграфіі, кансультаваў больш за 100 фільмаў, сярод іх «Вайна і мір», «Бег». **Ганаровы грамадзянін** Ольштына і **Ліды**. У Ольштыне яму ўсталяваны бюст, у Лідзе яго імем названая вуліца. Пахаваны ў Маскве.

**КОРБАН Уладзімір Іванавіч** (25.08.1910 - 30.11.1971). Нарадзіўся ў пас. Барань Аршанскага раёна ў сям'і рабочага. Працоўны шлях пачаў токарам на аршанскім заводзе «Чырвоны Кастрычнік» у 1926 г. Сярэднюю адукацыю атрымаў у вячэрняй школе (1930). Токар на Ленінградскім караблерамонтным заводзе (1930-32), у Чырвоным Арміі (1932-34). Старшыня завкаму аршанскага завода «Чырвоны Кастрычнік», старшыня будкаму льнокамбіната. Удзельнічаў у паходзе ў Заходнюю Беларусь. Завочна скончыў два курсы Менскага юрыдычнага інстытута. У гады Вялікай Айчыннай вайны камандаваў стралковай ротай, працаваў у аператыўным аддзеле штаба дывізіі. У 1946 і 1948-52 гг. ізноў на заводзе «Чырвоны Кастрычнік» - галоўны механік, начальнік цэха, начальнік аддзела кадраў. **З канца 1946 да студзеня 1948 г. працаваў дырэктарам цвіковага завода ў Лідзе.** З 1952 г. працаваў у часопісе «Вожык», у 1967-71 гг. - яго галоўны рэдактар.



Першыя байкі апублікаваў у рэспубліканскім друку ў 1946 г. Аўтар зборнікаў вершаў, баек і фельетонаў «Мы іх ведаем» (1950), «Байкі» (1953), «З вецярком» (1957), Дакладныя прыкметы» (1958), «Гарачая прыпарка» (1959), «Дзе гэта вуліца?» (1961), «Сіняк» (1964), «Не на сваім месцы» (1965), «Свіні ў рэпе» (1968), «Дземьянава юшка» (1970), «Шклянка гарбаты» (выбранае, 1970), «Закаханы морж» (1972), «Выбранае» (1976), «Жук і мёд» (1980), «Не на сваім месцы» (1990), зборнікаў гумарыстычных аповядаў «Ды цешчы на бліны» (1963), «Дзядзькава крыўда» (1982). Для дзяцей выйшлі кніжкі вершаў і баек "Янка і санкі» (1957), «Пра жывёл і пра звяроў» (1963), «Учора, сёння і заўжды (1963), «Суседні двор» (1967). На беларускую мову пераклаў творы І. Крылова, Л. Украінкі, Т. Масенкі, Мірмухсіна, А. Юшчанкі і інш.

Сатырык, баечнік. Член СП СССР з 1948 г., «Заслужаны дзеяч культуры БССР» (1970). Узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны II ступені, Чырвонай Зоркі, «Знак Пашаны» і медалямі.

**ВРУБЛЕЎСКІ Пётр** (21.04.1920, в. Нача **Лідскага павету** -13.08.1990), польскі мастак. Вучыўся у агульнаадукацыйным ліцэі піяраў у Любашове. У 1939 мабілізаваны ў войска. У выніку ваенных дзеянняў трапіў у савецкі палон, быў зняволены ў лагеры. У 1941-44 - у Вільні, дзе тайна вучыўся ў універсітэце (на аддзяленнях філасофіі і жывапісу). Удзельнічаў у польскім руху супраціўлення, тройчы арыштоўваўся гітлераўцамі. У 1944-45 вывучаў філасофію ў каталіцкім універсітэце ў Любліне. У 1945 вучыўся ў мастацкай акадэміі ў Рыме. З 1946 - у Мадрыдзе, дзе скончыў Вышэйшую мастацкую школу (клас манументальнага мастацтва) у 1953. Адначасова вывучаў філасофію ў універсітэце ў Севільі. З 1959 - у Польшчы. Працаваў як манументаліст. Выканаў у 1954 дэкаратыўнае пано для фабрыкі паравых катлоў у Разэндзе (Іспанія). У 1966-73 ствараў інтэр'еры ў касцёле св. Марыі ў Хайнове і ў парафіяльным касцёле ў Луковай ля Хоціна. У 70-я супрацоўнічаў з Радаю навукі і культуры таварыства "Пакс".




*Гвардыі маёр Л.І. Бяда*

**БЯДА Леанід Ігнацьевіч** (16.08.1920 -26.12.1976). Нарадзіўся ў с. Нова-Пакроўка Ўрыцкага раёна Кустанайскай вобласці. Вучыўся ва Ўральскім настаўніцкім інстытуце і адначасова ў аэраклубе. Скончыў Арэнбургскую вайскова-авіяцыйную вучэльню (1942), Вышэйшую афіцэрскую лётна-тактычную школу (1945), Вайскова-Паветраную Акадэмію (1950), Вайсковую Акадэмію Генштаба (1957). Член КПСС з 1942 г.

З лета 1942 г. на Сталінградскім, Паўднёвым, 4-ым Украінскім і 3-м Беларускім франтах: лётчык-штурмавік, камандзір звяна, камандзір эскадрыллі, пам. камандзіра палка 226 шад. Здзейсніў 213 баявых вылетаў, з іх 147 вядоўцам групы. Удзельнічаў у вызваленні Данбаса, фарсіраванні Дняпра, знішчэнні праціўніка на нікапальскім плацдарме, у Беларусі, ва Ўсходняй Прусіі. Двойчы Герой Савецкага Саюза (26.10.1944 і 29.06.1945). Вайну скончыў у званні гвардыі маёра. Удзельнічаў у баях за вызваленне г. Ліды і базаваўся на лідскім аэрадроме. Пасля вайны камандаваў авіяпалком, авіядывізіяй, авіяцыяй Беларускай вайсковай акругі. Служыў у Паўднёвым гарадку (1945-46, 1963-66). Дэпутат ВС БССР у 1958-62 і 1974-76 гг., **дэпутат Лідскага гарадскога савета, член бюро гаркама партыі**. Заслужаны вайсковы лётчык (1971). Генерал – лейтэнант авіяцыі (1972), член ЦК КПБ з 1976 г. Імем генерала Л.І. Беды названы вуліцы ў Лідзе і Менску. Трагічна загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Пахаваны ў Менску. Штогод у Менску праводзіўся Міжнародны турнір па ручным мячы на прыз Л.І. Беды. **Ганаровы грамадзянін г. Ліды** (22.11.1967).

**КАРАБЕЛЬНІК Ісак (Іцхак) Герцавіч** (17.09.1920- 28.06.1984) нарадзіўся ў Лідзе, бацька -Герц Ісакавіч, маці Міхея Зуселеўна, абое габрэі.

Скончыў 7 класаў, працаваў наборшчыкам у друкарні, член КСМЗБ з 1935(6) г., распаўсюджваў падпольную літаратуру, член падпольнага гаркама камсамолу і сакратар ячэйкі, 28.04.38 даставіў з Вільні камуністычную літаратуру. 30.09.1938 г арыштоўваўся паліцыяй у Лідзе як сакратар ячэйкі КСМ.

У 39-41гг. начальнік архіву НКУС. У студзені 1940 г. уступіў у ВЛКСМ, камсамольскі квіток выдадзены 3.07.1940 г. Месячная зарплата студзень-чэрвень 250 рублёў, ліпень-травень 41г. -300 рублёў, чэрвень -красавік 42 г.-10 рублёў, травень-снежань 43 г. - 200 руб, студзень -снежань 44 г. - 300 рублёў, студзень-ліпень 45 г. - 500 рублёў, жнівень - лістапад 45 г. - 350 рублёў. Ажаніўся 27.02.1945 г. у Чалябінску, кандыдат УКПб з 1946 г.

22 чэрвеня 1941 г. накіраваны з архівам НКУС у г. Магілёў, 26 (28) чэрвеня ў складзе спецгрупы НКДБ накіраваны з Магілёва ў Лепельскі раён Віцебскай вобласці для барацьбы з варожымі дэсантамі. Хадзіў у м. Пышна занятае немцамі, 5 ліпеня група перабазавалася да в. Валасевічы Лепельскага раёна. 12 ліпеня ўначы з двума аператыўнікамі падарваў базу ПЗМ у в. Валасевічы. 19 ліпеня ў раёне в. Ельня Руднянскага раёна Смаленскай вобласці далучыўся да другога батальёна 783 сп 229 сд. Быў залічаны ў выведку пад псеўданімам «Калеснік». 2.09 у перыяд поўнага акружэння пасылаўся ў выведку ў раён в. Горная Лешня. 19.09 батальён прарваўся з акружэння ў в. Паўднёвае Вусце Калінінскай вобласці. Разам з батальёнам 783 сп 229 сд накіраваны пад Дарагабуж, дзе 28 жніўня быў паранены. Знаходзіўся на лячэнні ў ЭШ-3827 з 12.10 да 28.11.41 як чырвонаармеец з нагоды флегмоны ніжняй траціны правай галёнкі, да гэтага ПМШ 783, МСБ, ППШ-14, ЭШ-2, ППШ-661, выбыў у частку. З анамнезу «Хворы з 25 чэрвеня»

Пасля вайны вярнуўся ў Ліду, працаваў начальнікам аддзела збыту мясакамбіната, у аўтапарку...

Жонка – Пермінава Надзея Пракопаўна (23.03.1923- 1.07.1997). Працавала ў Чалябінску на танкавым заводзе, жылі ад завода далёка. У 30-градусны мароз хадзіла на працу ў туфлях. “Па дарозе абдыму слуп і стаю, каб не зваліцца ад голаду. Спалі ў цэху. Дома нічога не было. У Баранавічах сустрэлася са Сліўкіній. Ісак выклікаў па ліцеру. У горадзе стаяў пах крыві...”

Трое дзяцей. Людміла 1946 г., музыка, завуч у медвучэльні. Валера 1951 г., будаўнік у Вільні, будаваў Дом друку. Ларыса 1955 г., Міхайлава, у Казані.

## Старэйшына журналістаў Гарадзеншчыны

***БОГУШ Аляксандр Уладзіміравіч** нарадзіўся 15.09.1930 г. у сялянскай сям'і ў Карэліцкім раёне. Скончыў Мірскую СШ (1949), завочна аддзяленне журналістыкі БДУ (1958), аспірантуру БДУ (1968), Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС. Карэспандэнт газеты Мірскай МТС «За высокі ураджай» (з 1950), адказны сакратар, намеснік рэдактара Мірскай газеты «Сцяг свабоды» (з 1954), рэдактар Казлоўшчынскай газеты «Сцяг Перамогі» (1956-69?), рэдактар лідскай газеты «Уперад» (1963-69), у газеце «Гарадзенская праўда» з 1969 г., з 1979 - намеснік рэдактара, у 1980-91 - рэдактар. У 1991-98 у Гарадзенскім абласным аддзяленні Беларускага фонду культуры, з 1998 г. намеснік рэдактара часопіса «Навуковы запіскі», з 1999 г. - рэдактар часопіса «Веснік Гарадзенскага ўніверсітэта». Журналіст, краязнавец, член Саюза журналістаў (1959), кандыдат гістарычных навук (1971), Заслужаны работнік культуры Беларусі (1987). Выдаў зборнік краязнаўчых апавяданняў «Жухавіцкае вымярэнне» (Ліда, 1997).*



***Аляксандр Богуш***

Прыход у калектыў новага чалавека, а тым больш кіраўніка, выклікае пэўную цікавасць, а то і насцярожанасць. Так было і ў лідскай газеце “Сцяг працы”, калі яе летам 1963 года ўзначаліў Аляксандр Богуш. Працаваць у старажытны горад ён прыехаў пасля заканчэння ў Маскве Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КПСС. Гэта быў перыяд хрушчоўскіх рэформаў, які не абмінуў і мясцовы друк. Згаданая газета з’яўлялася выданнем Гарадзенскага абкаму КПБ па Лідскаму тэрытарыяльнаму калгасна-саўгаснаму кіраванню і распаўсюджвалася, апрача Лідчыны, у суседнім Воранаўскім раёне.

Сам фармат выдання (да гэтага ў раёнах выпускаліся свае газеты райкамаў партыі і райсаветаў) і рэфарматарскія памкненні ў краіне ўяўлялі сабой для журналісцкай братвы зразумелыя складанасці. Ды Аляксандр Богуш, які да вучобы займеў журналісцкую практыку працуючы ў газетах былых Мірскага і Казлоўшчынскага раёнаў, здолеў без прамаруджвання з’арыентаваць творчы калектыў на галоўных задачах. Асноўнымі задачамі ў дзейнасці газеты сталі такія тэмы: паказ на яе старонках чалавека працы і досведу перадавікоў, аналіз недахопаў у гаспадарчай сферы рэгіёна і ў выканаўчай рабоце ўладных устаноў ды грамадскіх арганізацый.

Штат рэдакцыі ў той час быў невялікі. Таму ўпор рабіўся на чытацкі актыў: рабселькораў (рабочых і сялянскіх карэспандэнтаў) і няштатныя аддзелы. Успамінаю тыя далёкія ўжо часы (тады я працаваў намеснікам рэдактара) і здзіўляюся тым згадкам: у газеце было звыш ста няштатных аўтараў: з іх ліку і рэдактараў насценгазет, што выдаваліся ў працоўных калектывах горада і раёна, былі створаны рабселькораўскія пасты, яны інфармавалі рэдакцыю аб важнейшых падзеях на месцах. А колькі было крытыкі і самакрытыкі! Нядаўна пагартаў падшыўкі былога выдання і моцна здзівіўся. Рэдактар дабіўся, каб амаль у кожным нумары газеты былі актуальныя крытычныя публікацыі. Такую практыку падтрымлівалі парторг абкаму партыі па калгасна-саўгаснаму кіраванні Іван Матвеенка, першы сакратар гаркаму КПБ Рыгор Фамічоў і яго калегі па раёну Міхаіл Мінкевіч (у будучым міністра асветы Беларусі).

Добрыя ўрокі журналісцкага майстэрства даў Аляксандр Богуш лідскім журналістам, заахвочваў іх творчыя ўдачы, па-таварыску ўказваў на ўпушчэнні, і сам рэдактар рос ўвачавідкі. ¨н умела спалучаў выкананне няпростых службовых абавязкаў з вучобай у аспірантуры БДУ. Прыйшоў час, і наш рэдактар паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю. Раўняючыся на шэфа, раслі і яго паплечнікі. Воранаўскую раёнку ўзначаліў Віталь Сініца. Намеснікамі рэдактараў раённых газет сталі Васіль Пранкевіч (Дзятлава), Кастусь Сіневіч (Наваградак), Сымон Якацук (Іўе). Атрымалі вылучэнне Міхаіл Плышэўскі і Іван Гладкі, яны перайшлі працаваць на Беларускае радыё. Сваю творчую біяграфію прадоўжылі ў абласных газетах Мікола Васілеўскі і Міхась Лісоўскі. Аўтар гэтай публікацыі вясною 1965 года ўзначаліў мастоўскую “Зару над Нёманам”.

Застаецца падкрэсліць, што і сам Богуш не засядзеўся ў крэсле лідскага рэдактара. У 1969 годзе Аляксандр Уладзіміравіч прызначаецца намеснікам рэдактара абласной газеты “Гродзенская праўда”, а пазней галоўным рэдактарам гэтага выдання. У згаданы перыяд газета стала своеасаблівым люстэркам жыцця Гарадзеншчыны: як станоўчых рэалій і перамен, так і адмоўных бакоў тагачаснай рэчаіснасці. Аб высокім аўтарытэце “Гродзенскай праўды” яскрава сведчыў яе наклад, які перавысіў 100000 экзэмпляраў.

Будучы на адказнай пасадзе, наш зямляк на грамадскіх пачатках плённа кіраваў абласной арганізацыяй Саюза журналістаў і ў гэтай ролі многа зрабіў для росту прафесійнага майстэрства работнікаў мясцовага друку. Для іх наладжваліся конкурсы, творчыя паездкі ў Літву, Польшчу, Калінінградскую вобласць Расіі, рэгіянальныя ці, як іх называлі, куставыя лятучкі журналістаў суседніх раёнаў. У пашане былі няштатныя аўтары газет. Запомніліся абласныя злёты рабселькораў, дзе гучала добрае слова пра грамадскіх карэспандэнтаў. На такіх сустрэчах абласнога і раённага маштабаў ім уручаліся граматы і падарункі.

Чалавек працы, яго дасягненні і клопаты былі галоўнай тэмай. “Гродзенскай праўды”, раённых і шматтыражных газет і мясцовага радыёвяшчання. Запомніўся такі факт. Па ініцыятыве А. Богуша ў 80-х гадах мінулага стагоддзя лепшых працаўнікоў вёскі пачалі заахвочваць граматамі абласнога савета прафсаюзаў і “Гродзенскай праўды”. Рабілася гэта звычайна на рабочых месцах, але ўрачыста і выклікала ў калектывах станоўчы водгук.

Імкліва бяжыць час, і да нас падкрадаецца старасць, наступае пенсійны ўзрост. Але, гаворачы словамі вядомай песні, старасць не застала А. Богуша дома, старэйшына журналістаў Прынёмання вось ужо шмат гадоў працуе выкладчыкам Гарадзенскага дзяржуніверсітэта і сваімі ведамі ды мудрым словам спрыяе падрыхтоўцы маладых работнікаў СМІ. І ў той жа час не пакідае журналісцкай працы. Аляксандр Уладзіміравіч стаў адным з аўтараў і ўкладальнікаў нядаўна выдадзеных кніг аб журналістах вобласці і газеце “Гродзенская праўда”.

Як і раней, наш старшы калега і настаўнік цікавіцца жыццём журналістаў Гарадзеншчыны. Радуецца поспехам і зведвае засмучэнне з-за няўдач, пра што шчыра гаворыць пры сустрэчах са мною, сваім пераемнікам па лідскай газеце, іншымі сябрамі-творцамі. Душа ветэрана друку не пагаджаецца з практыкай газет, якія разам з публікацыямі сваіх супрацоўнікаў даюць іх фотаздымкі. На думку А. Богуша, чытач цэніць і пазнае аўтараў не па фотаздымках, а па зместу матэрыялаў, іх надзённасці. Выклікае шкадаванне, што ў рэдакцыях усё часцей сустракаюцца абыякавыя адносіны да аўтараў. Няма ранейшай жывінкі ў дзейнасці абласной і першасных арганізацый Беларускага саюза журналістаў.

Колькі слоў аб чалавечых якасцях Аляксандра Уладзіміравіча. Яму ўласцівы не толькі аддаснасць выбранай прафесіі, а вернасць сябрам-таварышам, людзям, з якімі звёў лёс. У час сустрэч ці тэлефонных размоў А. Богуш цікавіцца жыццём блізкіх знаёмых, перадае ім прывітанні. Будзь гэта публіцыст з Беластока Міхась Хмялеўскі ці калегі з Вільні, колішні старшыня калгаса "Бердаўка" Аляксандр Каранюк ці былая карэктар газеты "Уперад" Людміла Бручыкова...

Не магу не прыгадаць, я к прыемна здзівіў нас Аляксандр Уладзіміравіч у першыя дні свайго рэдактарства ў Лідзе. Няўзабаве пасля таго, як ён заняў адказную пасаду, наступілі саракавіны ў памяць трагічна загінуўшага (патануў у Нёмане) літсупрацоўніка газеты паэта Леаніда Казачэўскага. Даўняя традыцыя носіць рэлігійнае адценне, таму ў некаторых узнікла пытанне: ісці ці не ісці? Новы кіраўнік рэдакці выказаўся адназначна: памяць маладога журналіста трэба ўшанаваць. Падобных прыкладаў чалавечнасці Богуша можна прывесці нямала.

Хоць А. Богуш працаваў у Лідзе непрацяглы час, але, моцна палюбіў лідскую старонку і лічыць яе блізкай і дарагой, як і сваю малую радзіму на Карэліччыне. А нарадзіўся ён у вёсцы Мядзведка, адкуль паходзіць знакаміты асветнік Ігнат Дамейка, нацыянальны герой Чылі, чым ганарыцца Аляксандр Уладзіміравіч, якому споўнілася 80 гадоў. І сам імкнецца годна служыць справе асветніцтва. З нагоды юбілею віншуем старэйшыну і жадаем дарагому земляку, ўсяго найлепшага. Многія лета! Шмат гадоў, і радасці! І не ведаць старасці!

*Алесь Жалкоўскі.*

**ХАЛЯНКОВА Аліна Люцыянаўна** (дзявоч. Мацыевіч, 1.05.1940, в. Дубчаны Лідскага р-на - 11.07.1979), беларускі літаратуразнавец, педагог. Кандыдат філалагічных навук (1978). З сялянскай сям'і. Скончыла Белагрудскую 7-годку Лідскага р-на, Наваградскую педагагічную вучэльню (1958). Вучылася на беларускім аддзяленні гістарычна-філалагічнага факультэта Гарадзенскага педінстытута (1958-63). Працавала ў Зэльвенскай школе-інтэрнаце настаўніцай беларускай мовы і літаратуры (1963-66), намеснікам дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце (1966-68). З 1968 - выкладчык кафедры беларускай літаратуры Гарадзенскага педінстытута. У 1972-76 вучылася (з перапынкамі па хваробе) у аспірантуры на кафедры беларускай літаратуры Менскага педінстытута. Літаратуразнаўчы дэбют - у 1971. Аўтар артыкулаў, рэцэнзій, прысвечаных праблемам беларускай літаратуры 60-х - 70-х.

**ДЗВІЛЯНСКІ Аркадзь Якаўлевіч.** Музычны педагог, этнамузыколаг, кампазітар, паэт беларускі, рускі, габрэйскі. Кандыдат мастацтвазнаўства (1989). Дацэнт (1995).



**Аркадзь Дзвілянскі**

Нарадзіўся 2.09.1950 г. у Лідзе. Вучыўся ў СШ № 8 (1-4 класы), затым у СШ № 1, і ў Лідскай музычнай школе, пачынаў па класу скрыпкі. У Свярдлоўску скончыў музычную вучэльню на аддзяленні кампазіцыі, гістарычна-тэарэтычны факультэт Уральскай кансерваторыі ў 1978 г. У кансерваторыі асвоіў курс кампазіцыі. Служыў у войску (1978-80). Працаваў на кафедры тэорыі музыкі Кіргізскага інстытута мастацтваў (1978-93). Завочна скончыў аспірантуру ў Свярдлоўску, а абараняўся ў Ленінградскім інстытуце тэатра, музыкі і кінематаграфіі (1984). З 1993-96 г. працаваў у акадэміі музыкі ў Магілёве. У лістападзе 1996 г. выехаў з сям'ёй у ЗША. Выдаў даследаванні і вучэбныя дапаможнікі: кандыдацкая дысертацыя «Кіргізская народна-песенная манодыя як аб'ект пераінтанавання» (1989), «Нататкі аб ролі каларыту ў мастацтве» (Бішкек,1992)», «Каларыстычнае ўспрыманне ў музычным тэатры і кіно» (Бішкек,1992), «Комплексны гарманічны аналіз» - вучэбны дапаможнік для музвучэльняў (Бішкек,1993), «Музычны габрэйскі фальклор Беларусі» (Магілёў, 1996). Аўтар шматлікіх песень, у тым ліку і на беларускія тэксты, 10-прэлюдый, дзве санаты і рапсодыі для фартэпіяна, 4 камерна-вакальныя цыклы, сюіты на тэмы габрэйскіх песень, танцавальная сюіта на сучасныя габрэйскія тэмы. Выдаў зборнік песень для дзяцей «Якая выдатная наша зямля» (Бішкек, 1992), «Выбраныя камерна-інструментальныя і камерна-вакальныя творы: зборнік выбраных камерна - вакальных і камерна - інструментальных твораў» (Бішкек,1993). Выйшла яго аповесць у прозе і вершах «Крысбэйл» (Бішкек, 1993) і кніга паэзіі «Сімфарыфмы» (Бішкек, 1992). Каля 8 гадоў пісаў раман «Тэарэма лёсу. Аўтабіяграфічны раман у прозе і вершах» - пакуль не выдадзены, у стадыі работы.

Напісаў новы цыкл з 7 песень на вершы Іосіфа Бродскага «Зімовая паэма», «Начны караблік», 3 песні гэтага цыклу гучалі 27 студзеня 2001 г. у радыёперадачы, прысвечанай 5-годдзю з дня смерці Бродскага ў Ізраілі. Новы раман «Мацвей і Суламіфь» у стадыі рэдагавання. Лідскі ансамбль «Шалом» (кіраўнік Міхаіл Дзвілянскі - брат) выконвае яго музыку.

**ВАШКЕВІЧ Аляксандр Яўгенавіч.** Нарадзіўся 9.09.1960 у г. Лідзе. З сям'і службоўцаў. Вучыўся ў СШ № 8 г. Ліды да 6 класа. Закончыў Менскую СШ №103, юрыдычны факультэт БДУ (1983), аспірантуру на кафедры канстытуцыйнага правы БДУ (1986). Выкладаў на гэтай кафедры, адначасова быў сябрам навукова-кансультацыйнай рады пры Камісіі па заканадаўстве Вярхоўнага Савета Беларусі (1990-95). У 1996 абраны суддзём Канстытуцыйнага суда РБ. Неўзабаве вымушаны пайсці ў адстаўку. Загадчык кафедры агульнаправавых дысцыплін недзяржаўнага міжнароднага Інстытута працоўных і сацыяльных праблем (Менск). Вывучае пытанні аховы правоў чалавека, дзейнасць органаў канстытуцыйнай юстыцыі за мяжой. Кандыдат юрыдычных навук (1987). Дацэнт (1993). *(Пяткевіч А. Людзі культуры з Гродзеншчыны. Гродна, 2000. С.50-51).*

# Мужчынская гімназія ў Лідзе

Так зрэдку здараецца. Пад адным нумарам у архіве лічыліся дзве справы, замовіў я адну - прынеслі другую. У гэтай другой апынуліся невядомыя ні шырокаму, ні вузкаму колу гістарычнай грамадскасці дакументы аб Лідскай мужчынскай гімназіі.

Высветлілася, што першыя рухі па адкрыцці гімназіі гарадскія ўлады распачалі ў студзені 1911 г. Лідскае гарадское грамадскае кіраванне сваёй пастановай ад 27 студзеня прыняло на сябе абавязальніцтвы перад Віленскай вучэбнай акругай у выпадку адкрыцця ў Лідзе мужчынскай гімназіі:

- адвесці ўчастак зямлі для пабудовы будынка гімназіі;
- асігнаваць 10 000 рублёў на пакрыццё выдаткаў па пабудове гэтага будынка;
- даць на тры гады дармовае памяшканне, з ўсім для школы належным, прыдатнае для пяці класаў.

Праз паўтара года, 13 чэрвеня 1912 г. гарадское грамадскае кіраванне паўтарыла свае абавязальніцтвы. Увосень Віленская вучэбная акруга паведаміла, што з 1913 г. у Лідзе мяркуецца адчыніць мужчынскую дзяржаўную гімназію, і запытала, дзе думаецца размясціць вучэбныя класы да пабудовы будынка гімназіі. Гарадское грамадскае кіраванне апавясціла, што пад памяшканне мужчынскай гімназіі будуць выкарыстаныя казённыя будынкі, занятыя цяпер афіцэрскім сходам і канцылярыяй 172-га пяхотнага палка. Камандзір 172-га пяхотнага палка палкоўнік Уладзімір Раманавіч Раманаў і начальнік гаспадарчай часткі падпалкоўнік Анатоль Іосіфавіч Эйсымант пацвердзілі, што будынкі, занятыя канцылярыяй і афіцэрскім сходам, будуць вызваленыя да 1 кастрычніка наступнага 1913 г.

Гарадскі старастаЛеан Пётр Вісьмант, у прадбачанні сур’ёзныя выдаткаў звяртаецца да мяшчанскіх стараст і земскіх начальнікаў усіх участкаў Лідскага павету з просьбай правесці збор грошай на будаўніцтва гімназіі. Таварыства афіцэраў і Васілішскі мяшчанскі староста адмовіліся прыняць удзел у выдатках, ды і астатнія задаволіліся зборамі ў межах некалькіх дзесяткаў рублёў. Чаканай сумы ніяк не атрымлівалася, і тады староста ўспомніў, што гораду належыць запасны капітал у суме 13 449 рублёў 74 кап. 30 красавіка 1913 г. вышэйшае начальства дазволіла пазычыць з запаснога капіталу 10000 рублёў.

Нечакана высветлілася, што казённыя будынкі не будуць вызваленыя, мяркуецца далейшае іх выкарыстанне вайсковым ведамствам. Староста звяртаецца да ўладальнікаў жылых дамоў: хто і на якіх умовах згодны пусціць у сваю хату гімназію. Уладальнікі жылых дамоў даюць згоду на здачу ў арэнду пад гімназію сваіх кватэр. Пагадзіліся домаўладальнікі Длускі Фларэнці Менардавіч, Янушкевіч. Фрума Ілютовіч - жонка чырванадрэўшчыка расійскага імператарскага дома апавясціла, што не будзе здаваць свой дом пад вайсковае кіраванне і гатовая пусціць гімназістаў. Лекар Варшаўскі С.Я. прапанаваў свой драўляны дом на вул. Замкавай з сямі пакояў і кухні і верхні паверх мураванага дома на Віленскай з 8 пакоямі за 1400 рублёў у год.

Не ўсе гэтак адназначна садзейнічалі адкрыццю гімназіі. Гаспадар Лідскай мужчынскі прыватнай прагімназіі Ян Марцінавіч Палу адмовіўся прадаваць штосьці з маёмасці прагімназіі.

30 чэрвеня 1913 года Міністэрства народнай асветы дазволіла адчыніць з 1913-14 вучэбнага года мужчынскую гімназію ў г. Лідзе ў складзе двух малодшых класаў. Староста Леан Пётр Вісьмант 25 ліпеня піша просьбу ў газету “Віленскі веснік”, каб паведамленне аб адкрыцці гімназіі было апублікавана.

Тэрмінова была створана камісія па зборы добраахвотных ахвяраванняў на найм і абсталяванне памяшкання пад гімназію, адным з яе чальцоў быў Хведар Людвігавіч Навіцкі - уладальнік прыватнай жаночай гімназіі. Былі сабраныя абразы, партрэты гасудара, імператрыцы, нашчадка, міністра народнай асветы А.А. Касо, апякуна Віленскай вучэбнай акругі А.А. Астравумава, сталы, крэслы, табурэткі, кубкі, зэдлі, люстэркі, гадзіннікі, чарнільныя прыборы, лямпы, самавар, градуснік і да т.п.

Неўзабаве высветлілася, што колькасць ахвотных вучыцца ў гімназіі больш, чым дазволеныя 40 чалавек. Апякуна Віленскай вучэбнай акругі 14 верасня просяць дазволіць прыняць усіх ахвотных. Пасля многіх клопатаў Лідская мужчынская гімназія адчынена. У кастрычніку 1913 г. у двух класах за вучэбныя сталы селі 74 вучні. Размяшчалася гімназія ў цэнтры горада на вул. Камерцыйнай (паміж Нацбанкам і Домам рамёстваў).

Староста Вісьмант звяртаецца ў Віленскую вучэбную акругу з просьбай назваць гімназію “Раманаўскай” у сувязі з 300-годдзем дома Раманавых. У просьбе адмоўлена.

У лістападзе на будаўніцтва будынка гімназіі ў Віленскую вучэбную акругу былі пералічаны 10 000 рублёў. 24 лютага 1914 г. гэтая сума занесена і залічана ў дэпазіт кіравання Віленскай вучэбнай акругі. Найбольш зручным месцам для будаўніцтва прызнаны ўчастак зямлі каля замка. Але прапанаваны пад будаўніцтва гімназіі ўчастак забракаваны акруговым архітэктарам.

25 студзеня 1914 г зацверджаны дзве стыпендыі для маламаёмасных. Не гледзячы на распачатую Першую Сусветную вайну ўвосень 1914 г. адчынены трэці і падрыхтоўчы класы. Гімназістамі сталі 167 хлопчыкаў і юнакоў. Для падрыхтоўчага класа на два гады за 800 рублёў нанятая 5- пакаёвая кватэра з кухняй у хаце Абрама Міхеля Галяндэра на вул. Віленскай у верхнім паверсе. Там раней змяшчалася прыватная прагімназія, яе ўладальнік спадар Палу ветліва пагадзіўся выкладаць прыродазнаўства.

На ўтрыманне гімназіі з дзяржаўнага скарбу адпускалася 8260 рублёў у год. Вывучаліся руская мова і славеснасць, матэматыка, нямецкая і французская мовы, чыстапісанне, маляванне, праводзіўся ўрок гімнастыкі. Хрысціянам выкладалі Закон Божы, іудзеям - Талмуд. У гімназію прымалі дзяцей усіх саслоўяў і веравызнанняў.

Захавалася фатаграфія 1914 года, на якой заснятыя 12 настаўнікаў і 66 вучняў 1 класа. Настаўнікі і вучні ў форменнай вопратцы з эмблемамі на лацканах. На галовах вучняў фуражкі з кукардамі.

Будынак гімназіі так і не быў пабудаваны. Гарадская грамадскасць двойчы яшчэ прасіла прадаць пад гімназію вінныя склады - абодва разы безвынікова. У верасні 1915 г. немцы акупавалі Ліду. Настаўнікі рускага паходжання са сваімі сем’ямі эвакуяваліся ўглыб Расіі. Зачынілася гімназія ў 1917 г.

***Валеры Сліўкін.***

*НГА ў Гародні. Ф. 669, воп. 5, спр. 59, арк. 4-116.*

# МАКРЭЦКІЯ ЛІДСКІЯ

**Макрэцкія** гербу Астоя* - адзін з найстарых шляхочых родаў Лідскага павету. Прозвішча паходзіць ад населенага пункта Макрэц (фальварак, вёска, ваколіца). Гэта не Макрэц у сённяшнім Наваградскім раёне. Мокрых месцаў і назваў ад слова *мокры* ў нашым краі дастаткова. Відавочна, родавым маёнткам усіх Макрэцкіх быў Макрэц Марачэўшчына пад Ражанкай, які дакументальна пацвярджаецца ва ўласнасці Макрэцкіх у 1690 годзе.

*Герб Астоя*

У "Крыжапрывадной кнізе Вялікага Княства Літоўскага" 1655 г., у якой пералічана шляхта, якая нібыта прысягнула маскоўскаму цару Аляксею Міхайлавічу, запісаны тры браты Макрэцкія з Лідскага павету: **Сцяпан Станіслававіч Макрэцкі**, **Хрыстоп Станіслававіч Макрэцкі**, **Самойла Станіслававіч Макрэцкі**. Канкрэтнае месца жыхарства не пададзена.

У перапісе лідскай шляхты 1765 года пададзены ў Ражанкаўскай парафіі высокі егамосць пан **Антоні Казімір Макрэцкі** - падчашы Лідскага павету, егамосць пан **Габрыель Макрэцкі**, егамосць пан **Канстанцін Макрэцкі**, егамосць пан **Людвік Макрэцкі**, егамосць пан **Юзаф Макрэцкі**, егамосць пан **Ян Макрэцкі**, егамосць пан **Аляксандр Макрэцкі**, егамосць пан **Пётр Макрэцкі**.

Паводле Чэслава Малеўскага Вярсока ў Калясніцкай парафіі ў 1802 г., маёнтак Дзітрыкі з вёскай Дзітрыкі - 625 дзесяцін, 53 душы мужчынскія і 48 душ жаночых - у парафіі Няцецкай у 1844-1905 гг. належалі **Аляксандру Макрэцкаму**, сыну **Станіслава Макрэцкага** і Агнешкі з Адамовічаў.

Ваколіца Чарняўка ў 1804 г., Пяскі ў 1807-1841 гг. у парафіі Навадворскай, маёнтак Дзеражэнка ў 1835 г., Макрэц Марачэўшчына (1690-1866) з вёскамі Мардасы, Філіповічы - 365 дзесяцін, 45 душ мужчынскіх, 31 душа жаночая - належалі **Тамашу Макрэцкаму** сыну **Адальберта Макрэцкага** і Аляксандры з Кратоўскіх у 1844 г. у Ражанкаўскай парафіі.

Макрэцкім належалі яшчэ ваколіца Шымкоўшчына ў 1831 г. у Забалацкай парафіі і маёнтак Дзеражна ў Жалудоцкай парафіі.

Макрэцкія былі звыклай шляхтай і таму прынялі дзейны ўдзел у паўстанні 1863 года. **Макрэцкія Баляслаў**, **Аляксандр** і **Адам** шляхціцы Лідскага павету - удзельнікі паўстання 1863 г. пазбаўлены па судзе правоў, маёмасць канфіскавана ў скарб.

**Макрэцкі Баляслаў** (к. 1835 - ?, сын Тамаша) з Макраца, за ўдзел у паўстанні асуджаны да 8 гадоў у цвердзі (турме). Прысуд: *"за знаходжанне ў палітычнай арганізацыі чальцом парафіяльнага начальства ў адным з участкаў Лідскага павету, пазбаўлены ўсіх правоў і сасланы на катаргу на 8 гадоў"*. Пражываў у Цывільску, прыбыў з Іркуцкай губерні. Дапамогу атрымліваў у памеры арыштанцкай дачы. З 25 ліпеня 1876 г. знаходзіўся пад наглядам. У верасні 1876 г. прызначана дапамога 6 руб. у месяц, бо атрыманыя звесткі аб дваранскім паходжанні.

**Макрэцкі Аляксандр** (к. 1837 - ?, сын Тамаша) з з маёнтка Макрэц, за ўдзел у паўстанні сасланы ў Сібір.

**Макрэцкі Адам Фаміч** (Тамашавіч, к . 1844 г. - ?) з маёнтка Макрэц. Прысуд: *"за прыналежнасць да рэвалюцыйнай арганізацыі ў званні цыркульнага камісара г. Вільні пазбаўлены ўсіх правоў і сасланы на катаржныя работы ў цвердзях на 12 гадоў"*. Пражываў у Цывільску. Прыбыў з Іркуцкай губерні. З 5 траўня 1875 г. знаходзіўся пад наглядам. Атрымліваў дапамогу 6 руб. у месяц.

**Макрэцкі Пётр** пахаваны ў Мейшаголе 10.01.1891.

У выніку ссылак і канфіскацый род ражанкаўскіх Макрэцкіх быў моцна аслаблены, калі не разгромлены.

Гаспадар Дзітрыкаў **Аляксандр Станіслававіч Макрэцкі** на момант паўстання быў жанаты з Камілай з Нарбутаў-Машэўскіх, меў малых дзяцей. Відавочна, асабіста ўдзелу ў паўстанні не прымаў, але быў на моцным падазрэнні з-за Аляксандра Тамашавіча. Тым не менш род дзітрыкаўскіх Макрэцкіх ацалеў і ў наступных пакаленнях вельмі плённа паслужыў Бацькаўшчыне.

* Рыцарскі герб Астоя з'яўляецца найстаражытнейшым рыцарскім гербам у Польшчы. Герб гэты ў 1069 г. кароль Баляслаў II Смелы (кіраваў з 1058 па 1080 гг.) дараваў ваяру Астою за яго мужнасць. Гэта адбылося падчас паходу на Кіеў, які Баляслаў II Смелы распачаў па просьбе свайго зяця кіеўскага князя Ізяслава Яраслававіча (другога сына Яраслава Мудрага) с мэтай вярнуць таму ўладу, якую князь Ізяслаў страціў у выніку народнага паўстання ў 1068 г. на чале з князем Усяславам Полацкім. Гэтая просьба была выканана, і ў 1070 г. князь Ізяслаў зноў заняў Кіеўскі пасад. Да тога ж часу адносіцца і першае згадванне пра герб "Астоя". Гэтым гербам карысталіся каля 250 родаў. Герб трапіў і ў ВКЛ. У 19-м стагоддзі гербам карысталіся лідскія шляхціцы Банькоўскія (Банкаўскія), Гаеўскія, Данілевічы, Заштоўты, Карловічы, Мікутавічы, Макрэцкія, Седлікоўскія, Сяклюцкія, Сендзіміры, Сумарокі, Хрыстоўскія, Якавіцкія.

Сам Аляксандр Макрэцкі быў дастаткова адукаваны, цікавіўся гісторыяй роднага краю, у маладосці спрабаваў сілы ў паэзіі. Захаваўся верш А. Макрэцкага на польскай мове пра знакамітыя дзве сасны ў Лідзе. Верш датаваны 1850 годам. Падаём яго ў перакладзе на беларускую мову.

**Да дзвюх соснаў, якія стаяць пад Лідскім замкам**
*праз Аляксандра Макрэцкага*

Сосны, дзве прыгажуні Лідскага замка ў нашай зямлі,
Раскажыце, чаму вы так смутна стаіце?
Раскажыце нам раскажыце пра мінулае ваша жыцце,
Што вы бачылі? Хто вас садзіў і калі?

Як прылеглі да даўніх, амшалых тых сценаў?
Чаму абнялі іх вашыя кроны,
Як каханак каханку? Так вы хвіляў мільёны
Стаіце, бы сёстры ў глухім задуменні.

Дзіўных казак сплялі тут старэйшыя людзі:
Вы - не сосны - заклятыя дзве каралеўны,
Што ў час невядомы, ды пэўны
Бразгат зброі і крыкі вас будзяць.

Што часта між ночы занімецца ззянне,
Пад ім жа дзве ў беллі прыгожыя панны,
Ды труны ля ног не падпусцяць цікаўных,
І доўжыцца тое да самага рання.

Раз нейкі смяльчак хацеў ссеч вас, спаліць,
Пырскнула кроў з-пад сякеры струменем,
Зямля задрыжала, і хлопец з трымценнем
Уцёк, каб жыццё ў той жа час не згубіць.

Можа выраслі вы з касцей нашых браці,
Каб пільнаваць тут іх светлай магілы?
І кронамі горад стары вы пакрылі,
Каб нікому-нікому яго не аддаці.

А мо алтары перад вамі стаўлялі
На гонар якога літоўскага бога
І кожнай галінцы маліліся строга,
Рэліквіі шчыра ў паклоне складалі.

Хай было там, як хоча, скажу вам па-свойму:
Столькі стагоддзяў на свет вы глядзіце,
Вы бачылі нашых прашчураў жыцце,
І бітвы на полі, і ў горадзе соймы.

Святыя часіны, як кожны з сабрацця
Нёс маёмасць сваю і жыццё на ахвяру
За вольнасць Айчыны, за светлую мару
І не баяўся, што ўсё можа страціць.

Іх слаўныя дзеі Бог дабраславіў,
Імя іх набатам грымела ў вяках,
Праймалі суседзяў павага і страх,
Як хто пра ліцвінаў казкай іх бавіў.



***Сосны ў Лідзе,** малюнак*




***Сосны ў Лідзе,** паштоўка. 1915-1918.*

Святы час! Святы! Аддаў бы і жыцце
За светлай мінуўшчыны дзень...
Ды край па касцях маіх продкаў брыдзе,
І роспач буяе мятліцамі ў жыце.

Помнікі сведчаць, ды іх ужо мала,
Колькі ў крушні лягло і прапала на векі.
Як дзве сіраты без падмогі, апекі
Вы засталіся над стромаю вала.

Як міла пад вамі ў цяньку прыпыніцца,
Каб глянуць на горад, тлум рознага люду
І з пакорай прасіць Маці Божае цуду,
Каб яму наказала духам праўды з'явіцца.

Каб горад той ласкай сваёй ахінула,
Шлях асвяціла ў варожасці ночы...
Ды ўсё тут маўчыць, толькі вецер з паўночы
Глуха нам цвердзіць, што ўсё прамінула.

13 ліпеня 1850 г., м. Дзітрыкі, Лідскае староства.

*(Пераклад Станіслава Судніка.)*

Гэты верш з дзяціных гадоў вазіў з сабой сын Аляксандра Макрэцкага Зыгмунт, і гэты верш усё, што засталося ад вялікай бібліятэкі ў Дзітрыках, якая згарэла ў час ваенна-рэвалюцыйнага ліхалецця.

Амелія Даравінская (Бiрута, 1863-1891) каля 1888 года надрукавала паданне "Сосны ў Лідзе", якое па сюжэту абсалютна іншае ад верша, але ўтрымоўвае галоўны агульны з вершам элемент - калі паспрабаваць ссекчы гэтыя сосны, то з іх пачынае цячы кроў, а таму, хто наважыўся гэта зрабіць, пагражаюць вялікія беды.

Верш Аляксандра Макрэцкага быў надрукаваны, дзе і калі, сказаць цяжка, відавочна - у міжваеннай Польшчы. У рэдакцыі ёсць ксеракопія старонкі 260 нейкага часопіса з гэтым вершам. І тут жа ёсць цікавае паведамленне пра ўсё тыя ж сосны: *"Дзякуючы ўмяшанню генеральнага кансерватара, чальца Дзяржаўнай рады аховы прыроды, пана Ежага Рэмера, а таксама прыхільным адносінам да гэтай справы Віленскага ваяводскага ўраду і пана Лідскага старасты Багаткоўскага, Лідскае староства выдала распараджэнне магістрату горада Ліды, якое абавязвае яго да прысыпання зямлёй аголеных карэнняў дзвюх соснаў і агароджвання іх плотам."*

Аляксандр Макрэцкі з жонкай Камілай мелі васмярых дзяцей, з іх у жывых засталося сямёра: чатыры сыны: **Адам** (16.07.1856 - 6.04.1921), **Стэфан** (11.05.1862-9.04.1932), **Зыгмунт** (14.05.1865 - 1936), **Вінцэнт** і тры дачкі.

**Макрэцкі Адам Вінцэнт Фелікс** (Adam Wincenty Feliks Mokrzecki) нарадзіўся 16 ліпеня 1856 года ў маёнтку **Дзітрыкі** Белагрудскай воласці Лідскага павету. Каталіцкага веравызнання. Адукацыю атрымаў у Пскоўскай вайсковай прагімназіі. На службу паступіў 10.06.1872. Скончыў Віленскую пяхотную юнкерскую навучальню (1877). Выпушчаны ў 101-шы Пермскі пяхотны полк. Прапаршчык (ст. 25.11. 1874). Падпаручнік (ст. 17.06.1875). Удзельнік руска-турэцкай вайны 1877-78. Паручнік (ст. 24.10. 1877). Камандаваў ротай падчас вялікіх баёў. Штабс-капітан (ст. 01.01.1885). Капітан (ст. 25.03.1889). Камандаваў ротай (10 г. 9 м.); батальёнам (14 г.). Закончыў Афіцэрскую школу стральцоў у Араніенбауме з адзнакай "выдатна". Падпалкоўнік (ст. 26.02. 1895). Накіраваны ў Вільню ў штаб 3-га корпуса для здачы экзамену на права прызначэння на пасаду вайсковага начальніка, які здаў з адзнакай "выдатна". У час Расейска-японскай вайны служыў у 62-м Суздальскім пяхотным палку. У 1906 годзе атрымаў званне палкоўніка. Камандзір 40-га пях. Калыванскага палка (з 30.03.1912). Удзельнік 1-й Сусветнай вайны. Генерал-маёр (ст. 19.08.1914). У лютым 1915 г. зноў камандзір 40-га пях. Калыванскага палка. Паранены ў баі. Узнагароджаны ордэнам Св. Георгія 4-й ст. (ВП 03.02.1915). Начальнік 91-й брыгады Дзярж. апалчэння (з 08.04.1915). У 1917 у 1-м польскім корпусе ў Беларусі. Камандаваў 2-й пях. дывізіяй (03.-05.1918). Актыўны ўдзельнік Лідскай самаабароны. Камандаваў 2-й групай самаабароны Літвы са штабам у Лідзе (да снежня 1918 г.). Камендант Вільні (31.12.1918-5.1.1919). Камендант Ваўкавыска (да сакавіка 1919 г.). Удзельнічаў у баях супраць бальшавікоў. З 03.1919 у Беларуска-Літоўскай дывізіі. Па чарзе камандзір 2-й брыгады пяхоты ў складзе Паўночна-ўсходняга фронту, затым камандзір аперацыйнай групы (да траўня 1919 г.), камандзір абароны адрэзка на рацэ Шчара ў рамках баявых дзеянняў 1-й Беларуска-Літоўскай дывізіі. З 9.05.1919 г. па 19.05.1919 г. камандзір 7-ай дывізіі пяхоты. Генерал брыгады Войска Польскага з 1 чэрвеня 1919 года. З 6.09.1919 г. па 9.11.1919 г. камандзір 8 -ай дывізіі пяхоты. Узяў Слонім, Баранавічы, Нясвіж. Камандзір 1-й Беларуска - Літоўскай дывізіі да кастрычніка 1919 г. Узяў Слуцк і Клецк.



*Адам Макрэцкі. Здымак з часопіса "Огонёк", 1915 г.*









***Расейскія ўзнагароды Адама Макрэцкага***

У 1920 годзе генерал Адам Макрэцкі падчас адступлення польскіх войскаў перад наступам бальшавікоў з малым аддзелам і некалькімі танкамі некалькі гадзін вёў упарты бой па абароне Гародні. Толькі па просьбе сваіх афіцэраў згадзіўся пакінуць Гародню і адступіць да Саколкі.

Пасля вайны камандуючы Генеральнай акругі "Гародня" (да жніўня 1920 г.). Пра тое якім аўтарытэтам карыстаўся генерал Макрэцкі ў Гародні падчас яго кіраўніцтва Генеральнай акругай "Гародня", сведчыць тэлеграма прэзідэнта Гародні Лістоўскага да начальніка дзяржавы Юзафа Пілсудскага ад 20.04.1920 г.:

*“Варшава. Начальніку дзяржавы. Бельведэр.*

*Мясцовая грамадскасць, занепакоеная пагалоскамі аб пераводзе на новае месца службы генерала Макрэцкага і яго намесніка, звяртаецца з наймацнейшай і найгарачэйшай просьбай аб пакіданні на месцы абодвух камандзіраў. Ад моманту іх прыезду ў Гародню, дзякуючы іхняму нязвыкламу такту, добраму веданню тэрыторыі і складаных міжнацыянальных стасункаў, быў устаноўлены такі пажаданы кантакт войска з грамадскасцю, і запанаваў узорны лад і парадак у горадзе і акрузе.*

*Толькі такая паважная нагода паклікала нас да гэтага звароту ад імя польскіх арганізацый.”*

Акрамя подпісу пад гэтай тэлеграмай да Юзафа Пілсудскага прэзідэнта Лістоўскага стаяць яшчэ подпісы старшыні і віцастаршыні Рады Гарадзенскага павету.

З 1 красавіка 1921 года на пенсіі. Пасяліўся ў Гародні, хаця пасля смерці бацькі - Аляксандра Макрэцкага - яму перайшоў маёнтак Дзітрыкі. Незадоўга да смерці генерал Адам Макрэцкі быў абраны бурмістрам Ліды, але не паспеў заступіць на пасаду. Памёр 6 красавіка 1921 года. Пахаваны ў Гародні побач з магілай Элізы Ажэшкі. Высілкамі ўнука Леха Макрэцкага і польскіх арганізацый Гародні і Ліды ў 2001 годзе на магіле генерала адноўлены помнік.

Узнагароды: ордэн Св. Ганны 4-й ст. (1878), 3-й ст., 2-й ст. (1895); Св. Станіслава 4-й ст., 3-й ст., 2-й ст. (1893); Св. Уладзіміра 4-й ст. і 3-й (1912) ст; Св. Георгія 4-й ст. (03.02.1915); Крыж Валечных.



*Магіла Адама Макрэцкага ў Гародні*

Быў жанаты з Геленай з дому Ардылоўскіх. Меў дачку Камілу Эмілію і сына Юстына.

**Крыніцы:**

1. “Военный орден святого великомученика и победоносца Георгия. Биобиблиографический справочник” РГВИА, М., 2004.

2. Список старшим войсковым начальникам, начальникам штабов: округов, корпусов и дивизий и командирам отдельных строевых частей. С.-Петербург. Военная Типография. 1913.

3. Фото из журнала “Огонек” 1915. Предоставил Илья Мухин (Москва)

4. Список полковникам по старшинству. Составлен по 01.03.1914. С-Петербург, 1914

5. Список генералам по старшинству. Составлен по 10.07.1916. Петроград, 1916

6. Tadeusz Kryska-Karski, Stanisiaw Zurakowski: Generaiowie Polski Niepodlegiej. Warszawa: Editions Spotkania, 1991.

7. Henryk P. Kosk: Generalicja polska. T. 2: M–Z. Pruszkyw: Oficyna Wydawnicza “Ajaks”, 2001.

**Макрэцкі Стэфан Адам** нарадзіўся 11 траўня 1862 года ў маёнтку **Дзітрыкі** Белагрудскайй воласці. Скончыў корпус кадэтаў у Пскове. У канцы 1878 г. дабраахвотнікам уступіў у корпус тапографаў рускай арміі. Вучыўся ў школе юнкераў у Рызе (1880-81). Пасля яе заканчэння з прысваеннем звання прапаршчыка адкамандзіраваны ў 101-шы Пермскі полк пяхоты. Ад падпаручніка (1884) падымаецца да капітана (1903) і падпалкоўніка (1905). У Пермскім палку служыў да восені 1907 г. на розных камандных і штабных пасадах. Увосень 1907 г. пераведзены ў Пецярбург у Камітэт навучання і выхавання пры Вайсковым Міністэрстве. У 1911 г. у званні палкоўніка прызначаны ў 171-шы Кобрынскі пяхотны полк у якасці старэйшага афіцэра штаба, затым прызначаецца выканаўцам абавязкаў камандзіра палка. У жніўні 1914 г. прызначаны камандзірам гэтага палка. У 1-ю Сусветную вайну камандаваў Кобрынскім пяхотным палком на фронце ва Ўсходняй Прусіі. Быў цяжка паранены і ў верасні 1914 г. патрапіў у палон. Як інвалід вайны ў выніку абмену ў лістападзе 1915 г. вярнуўся ў Расію. Год лячыўся. У сакавіку 1917 г. быў прызначаны генералам для адмысловых даручэнняў пры камандзіры “Асобай” арміі. У красавіку 1917 г быў адным з арганізатараў Саюза Вайскоўцаў Палякаў Менскага аддзела, з якога потым паўстаў СВП Заходняга фронту. З ліпеня



*Стэфан Макрэцкі*

1917 г. камандзір 51 рэзервовай брыгады пры “Асобай” арміі. 21 лістапада 1917 г. атрымаў званне генерал-маёра.

Пасля дэмабілізацыі з расійскага войска ў сакавіку 1918 г. уступіў у II Польскі Корпус на Ўкраіне. З траўня да снежня 1918 г. быў камандзірам Палтаўскай брыгады ўкраінскага войска гетмана Паўла Скарападскага. Падчас баёў гетмана Скарападскага з атаманам Сямёнам Пятлюрам патрапіў у Адэсу, дзе ў сакавіку 1919 г. праз Польскую Ваенную місію на Ўсходзе ўступіў у Польскае Войска. У жніўні 1919 г. прызначаны камандзірам 8 пяхотнай дывізіі. Па меркаванні камандзіра Беларуска-Літоўскага фронту генерала Станіслава Шаптыцкага, падчас кастрычніцкіх баёў не праявіў сябе энергічным камандзірам, а “аддзелы 8-ай пяхотнай дывізіі былі амаль некіраванымі”. З снежня 1919 г. да красавіка 1920 г. быў камандуючым Акругі Этапаў у Менску Літоўскам, затым намеснікам камандуючага Генеральнай Акругі Памор’е і камандуючым Акругі.

Падчас летніх баёў 1920 г. прызначаны камандуючым абароны Віслы на адрэзку ад Торуня да Тчэва з падначаленнем яму ўмацаваных цвердзяў у Хелме і Грудзянцы. У верасні прызначаны камандзірам цвердзі Гародня. У лістападзе генерал Жалігоўскі прызначыў яго камандзірам 1-га корпуса Войскаў Сярэдняй Літвы. Кіраваў баямі на літоўскім фронце да перамір’я. Камандаваў корпусам да 12 снежня 1920 г. Затым быў генералам для даручэнняў пры камандуючым Войскаў Сярэдняй Літвы, дэкрэтам ад 16 студзеня быў прызначаны Жалігоўскім памочнікам старшыні Часовай Урадавай Камісіі Сярэдняй Літвы. 21.11.1921 г. Макрэцкі стаў віца-старшынём Часовай Урадавай Камісіі Сярэдняй Літвы. 1 траўня 1922 г. выйшаў на адпачынак, у той жа дзень быў прызваны да далейшай службы на адзін год у рангу генерала дывізіі, працягваў займаць пасаду віца-старшыні ЧУКСЛ да пераўтварэння Сярэдняй Літвы 18 траўня 1922 г. у Віленскае ваяводства Рэчы Паспалітай.

31 кастрычніка 1925 г. канчаткова выйшаў на пенсію і пасяліўся ў маёнтку **Вінкаўцы**, які належаў яму з 1903 па бабулі, відвочна, Нарбут-Машэўскай. З вінкаўскіх камянёў збудаваны плот лідскіх каталіцкіх могілак. Жыў таксама ў Вільні, даглядаючы хворага сына. Быў Старшынём Таварыства Афіцэраў якія выйшлі ў адстаўку. Пахаваны на бернардынскіх могілках у Вільні.

Меў шматлікія ўзнагароды: Крыж Ордэна Святой Ганны і Святога Станіслава 2-й і 3-й ступені, Святога Ўладзіміра 4-й ступені і Залаты Ордэн Святога Георгія, Крыж “Валечным” (1922), Камандорскі Крыж ордэна “Палонія Рэстытута” (1923).



***Польскі крыж “Валечным”, 1920 г.***

Быў жанаты на Іаннe Зэльман (?-1930). Меў трох сыноў: Браніслава 1890 г.н., Юрыя 1896 г.н., Стэфана 1900 г.н. і дачка Раману 1905 г.н.

**Крыніцы:**


1. Polski Slownik Biograficzny. Tom XXI. 1976. S. 609-610.

2. Henryk Piotr Kosk. Generalicja Polska. Popularny slownik biograficzny. 2001. S. 40.


**Макрэцкі Зыгмунт Анастазы** (Zygmunt Anastazy Mokrzecki) нарадзіўся 2 траўня 1865 года ў маёнтку **Дзітрыкі** Белагрудскай воласці Лідскага павету. Выхоўваўся ў бабкі ў маёнтку **Вінкаўцы** пад Лідай. Вучыўся ў павятовай школе ў **Лідзе** (1874 - 76) і ў рэальнай школе (гімназіі) ў Вільні (1879 - 84). Падчас навучання прымаў удзел у дзейнасці таемных незалежніцкіх саюзаў. Пачынаючы ад чацвёртага класа працаваў у першых шэрагага польскага асветнага руху на тэрыторыі гімназіі і да яе заканчэння з’яўляўся бібліятэкарам таемнай польскай бібліятэкі.

Пасля заканчэння гімназіі паступае ў Лясны інстытут у Пецярбурзе (1884-90), дзе становіцца вучнем выбітнага расейскага заолага і энтамолага М. Халадкоўскага. Пасля заканчэння інстытута атрымаў дыплом лесніка другой ступені. У студзені 1890 - 92 гг. у чыне памочніка ляснічага працаваў у Управе дзяржаўных маёмасцяў у Харкаве, спецыялізаваўся адначасова па спецыяльнасці энтамалогіі і заалогіі ў Харкаўскім універсітэце пад кіраўніцтвам прафесараў А. Брандта і В. Рэйнхарта. З пачатку 1892 г. быў лясным таксатарам у ваколіцах Екацярынаслава, а ў канцы гэтага ж года - таксатар дзяржаўных лясоў у Сімферопалі. У тым жа 1892 годзе пачынае навуковую дзейнасць, публікуе першую сваю энтамалагічную працу, у якой упершыню ў Расіі звяртае ўвагу на значэнне натуральных ворагаў (паразітаў) шкодных насякомых. Утвораная ў 1893 годзе пры Таўрычскім губернскім земстве першая ў Расіі пасада губернскага энтамолага прапанавана Макрэцкаму па хадайніцтву Харкаўскага ўніверсітэта. На наступныя 28 гадоў застаўся ў Крыме, праводзячы там дзейнасць навуковую, папулярызатарскую і арганізацыйную у вобласці аховы раслін, і ў першую чаргу ў вобласці дастасоўнай энтамалогіі. Галоўны губернскі энтамолаг Таўрычскай губерні (1893-1917). Да




***Зыгмунт Макрэцкі***

1897 года працаваў як чыноўнік земства, у студзені 1897 - 1912 гг. падпарадкоўваўся Дэпартаменту земляробства як інспектар (1897 - 1901) і як старшы спецыяліст (1901 - 12). У работах па ахове раслін Макрэцкі абапіраўся на новыя, не вядомыя на той час у Расіі біялагічныя метады і значна шырэйшае, комплекснае прымяненне хімічных сродкаў. На тым полі дзейнасці дасягнуў дасканалых вынікаў. Паводле вядомага амерыканскага энтамолага Л.О. Говарда (Вашынгтон), аднаго са стваральнікаў агульнай прыкладной энтамалогіі, Крым у вобласці аховы раслін на пачатку XX ст. займаў найперадавыя пазіцыі ў сусветны маштабе, і перш за ўсё ў галіне аховы садоў і вінаграднікаў. *"Крым,* - пісаў Л.О. Говард, - *ёсць, напэўна адным з першых краёў Еўропы, дзе, дзякуючы дзейнасці Макрэцкага ўраджаі садоў знайходзяцца ў такім добрым стане, у якім цяжка іх знайсці ў найлепшых месцах Злучаных Штатаў."* У дакладзе на міжнародным кангрэсе заолагаў ён адзначыў, што *"у Крыме З.А.Макрэцкім зроблена шмат каштоўных даследаванняў па сельскагаспадарчай энтамалогіі і апублікавана шмат каштоўных прац".*

На тэрыторыі Паўднёвай Расіі на пачатку XX стагоддзя паўстала многа станцый аховы раслін і амаль усе бралі за ўзор лабараторыю, якой кіраваў Макрэцкі. Перад заснаваннем Варшаўскім таварыствам садаводаў першай у Польшчы станцыі аховы раслін да Макрэцкага быў дэлегаваны Казімір Кульвець для знаёмства з метадамі працы, якія прымяняліся ў Крыме.

Побач з асноўным заняткам - прыкладной энтамалогіяй - Макрэцкі развязваў задачы з вобласці фітапаталогіі і працаваў над метадамі прымянення хімічных сродкаў. За працы "Луговой мотылёк (Phlyctaenodes sticticalis L.) его жизнь и меры борьбы с ним" ("Труды Бюро по энтомологии", Т.3; 1902, №6), "Яблоневая моль (Hyponomeuta malinella Zell.) её жизнь и меры борьбы с нею" (Сімферопаль, 1907) атрымаў узнагароду Музея прыкладных навук у Маскве. Апісаў шэраг невядомых і малавядомых шкоднікаў, у т.л. "Стебелёвая сойка или хлебный мотылёк (Topinosta muskulosa Hb)" (Сімферопаль, 1896), "Sur une nouvelle espece d'Aphidien trouvee en Crimee sur les racines de la vigne" ("Horae Socie-tatis Entomologicae Rossicae", T. 30; 1897). Апублікаваў акрамя іншага манаграфіі: "Яблочная плодожорка (Carpocapsa pomonella L.)" (Сімферопаль, 1902), "Филлоксера, её жизнь по новым исследованиям, мера борьбы с ней и способы дезинфекции посадочного материала" (Сімферопаль, 1915). Некаторыя яго публікацыі датычылі хваробаў раслін, барацьбы з іншымі, акрамя насякомых шкоднікамі раслін, барацьбы з пустазеллем, аховы ад марозу, метадаў прымянення хімічных сродкаў і ветэрынарнай паразіталогіі. Да 1918 года апублікаваў больш за 200 прац і артыкулаў, у т.л. у часопісах: "Журнал прикладной энтомологии", "Revue Russe d'Entomologie", "Лесной журнал", "Плодоводтво", "Записки Императорского общества сельского хозяйства Южной России", "Труды Русского энтомологического общества", "Промышленное садоводство и огородничество", "Zeitschrift fur Pflanzenkrankheiten", "Zeitschrift fur wussenschaftliche Insektbiologie", "Allgemeine Zeitschrift fur Entomologie". Прачытаў сотні дакладаў, апрацаваў моства запісак і справаздач пра дзейнасць у рэгіёне, а яго "Энтомологический календарь для садоводов" быў у студзені 1900 - 13 гг. перавыдадзены ў Сімферопалі чатыры разы. Найвялікшы розгалас атрымалі яго працы па унутранай тэрапіі раслін, якія грунтаваліся на іх пазакранёвым сілкаванні. Першы раз дакладваў вынікі даследванняў на гэтую тэму ў 1893 г. на сходзе Батанічнай секцыі царскага з'езду Таварыства прыродазнаўцаў у Пецярбургу, а апублікаваў пад назвай "О новом методе лечения и питания деревьев" (Протоколы с заседаний Петербургского общества естествоиспытателей, Пет. 1903), "Uber die innere Therapie der Pflanzen" (Zeitschrift fur Pflanzen-krankheiten", Bd. 13; 1903, H. 6.). Пісаў на гэтую тэму і ў наступныя гады, а даследванні паўтарыў у Польшчы ў 1926 годзе.




***Адна з манаграфій Зыгмунта Макрэцкага***

Зыгмунт Макрэцкі вывучаў таксама флору і фаўну Крыма, праводзіў феналагічныя даследванні, збіраў прыродныя экспанаты і ў 1899 годзе ўтварыў у Сімферопалі Прыродазнаўчы гістарычны музей (Естественно-исторический музей, зараз Цэнтральны рэспубліканскі музей Таўрыды), які быў таксама навуковадаследчай лабараторыяй.

Спачатку ён уяўляў сабой энтамолагічны кабінет вучонага З. Макрэцкага, затым пачаў хутка папаўняцца матэрыяламі па геалогіі, батаніцы і заалогіі.

*"... Дом 17 па вуліцы Карла Маркса цікавы з гістарычнага пункту погляду. Практычна ён складаецца з трох карпусоў, пабудаваных у розны час. У першым (кутнім) корпусе, пабудаваным у першай палове XIX ст., мабыць, знахадзіўся Дваранскі сход (да пабудовы адмысловага будынка), іншыя карпусы прызначаліся для губернскай земскай управы і музеяў пры ёй. Краязнаўчаа-гістарычны музей быў адчынены тут 12 снежня 1899 г. і быў адзіным на поўдні краіны музеем, у якім спалучаліся навукова-даследчая, асветніцкая і практычная праца."*

*"...Пасля набажэнства і асвячэння новага будынка загадчык музея, губернскі энтамолаг З.А. Макрэцкі выступіў перад сабранымі з прамовай аб значэнні Прыродазнаўча-гістарычнага музея для Крыма. Старшыня Сімферопальскага аддзела імператарскага Расійскага таварыства садоўніцтва П.Ф. Раф падзякаваў З.А. Макрэцкаму за аказаную дапамогу садоўніцтву ў барацьбе са шкоднымі насякомымі і навочны паказ метадаў барацьбы ў*

*экспазіцыі музея. Вітальны адрас ад Навуковай архіўнай камісіі зачытаў выкладчык Сімферопальскай мужчынскай гімназіі А.І. Маркевіч. Гарадскі галава Сімферопаля, старшыня навуковай архіўнай камісіі А.Н. Ільін выказаў надзею, што музей ажывіць горад і прыцягне ўвагу турыстаў, бо ён можа супернічаць не толькі з музеямі губернскіх гарадоў, але "па сваёй вытрыманасці, дэманстратыўнасці і вытанчанасці экспазіцыі не саступае замежным музеям". Напрыканцы А.Н. Ільін выказаў пажаданне, каб "абедзве ўстановы - Музей старажытнасцяў (заснаваны ў 1887 г.) і Прыродазнаўча-гістарычны, узніклы па задуме А.Х. Стэвена, і якія знайшлі падтрымку Таўрычаскага земства, ішлі рука аб руку, працуючы на карысць краю".*

Земскі музей быў адчынены для наведвальнікаў па нядзельных днях з 12 да 14 гадзін, у будныя дні з 9 да 15 гадзін бясплатна. У 1900 г. у музеі тры працаўнікі: Макрэцкі, захавальнік С.А. Зярноў і прэпаратар К.А. Астэрман.

Музей хутка заваяваў папулярнасць сярод насельніцтва. Выкладчыкі школ праводзілі тут урокі па "натуральнай гісторыі". Для прыцягнення наведвальнікаў і правядзення навукова-даследчых прац у музеі быў створаны прэснаводны акварыюм (у 1902 г.) і тэрарыюм (у 1903 г.), дзе знаходзіліся яшчаркі, чарапахі, некалькі разнавіднасцяў вужоў. У 1911 г. музей набыў інсектарый. ¨н быў усталяваны проста ў акне, за немагчымасцю ўстроіць яго ў двары. ¨н выглядаў вельмі сціпла, але даваў магчымасць "выхоўваць" насякомых ва ўмовах блізкіх да натуральных. У 1900 годзе музей наведала 7000 чалавек, а ў 1913 г. больш за 30000 чалавек. Музей быў папулярны не толькі ў сімфяропвальцаў. Яго ахвотна наведвалі жыхары Таўрычаскай губерні, турысты, студэнты, вайскоўцы, айчынныя і замежныя навукоўцы, якія выкарыстоўвалі матэрыялы музея для сваіх прац (напрыклад, заолаг А.А. Браўнер пры стварэнні манаграфіі "Кажаны Крыма"), навуковыя пошукі скарыстоўваліся - і вельмі паспяхова - у сельскай гаспадарцы (барацьба са шкоднікамі), былі арганізаваныя курсы па прыкладнай энтамалогіі. Да 1913 г. у музеі існавалі аддзелы: заалагічны, батанічны, глебавы, палеанталогіі, геалогіі і мінералогіі, гідрагеалагічны, сельскагаспадарчы.

За час сваёй дзейнасці музей сабраў да 4 тысяч экспанатаў, якія характарызавалі флору і фаўну Таўрычаскай губерні. За 13 гадоў (1901-1913 гг.) яго наведала амаль 250 тыс. чалавек. Музей выдаваў перыядычны навуковы зборнік "Працы прыродазнаўча-гістарычнага музея Таўрычаскага губернскага земства".

Многія земствы, падтрымліваючы новаўвядзенне, былі зацікаўленыя ў стварэнні прыродазнаўча-гістарычных музеяў і прысылалі супрацоўнікаў для азнаямлення з яго арганізацыяй.

Музей па меры магчымасці аказваў дапамогу па розных пытаннях не толькі жыхарам Таўрычаўскай губерні. З 637 запытаў, якія паступілі ў музей у 1902 г., 111 былі з 17 губерняў пераважна паўднёвай і сярэдняй Расіі.

Калекцыя музея значна папаўнялася за кошт ахвяраванняў ад насельніцтва. У 1900 г. спадчыннікі гідрагеолага Таўрычскага земства прафесара Н.А. Галаўкінскага перадалі ў музей 907 тамоў навуковай літаратуры. П.А. Двойчанка перадаў 160 акамянеласцяў з розных раёнаў Крыма. Заалагічны аддзел папоўніўся калекцыяй насякомых (каля 300 адзінак) А.П. Бажэнава; Р. і Ф. Любякі перадалі ў музей 78 птушыных яйкаў, сабраных у наваколлях Сімферопаля. Калекцыю жукоў (53 скрыні з шафай для іх) падарыў музею А.Ф. Ратоўскі, ён жа перадаў у 1905 годзе калекцыю крымскіх мінералаў (каля 200 скрынь). 52 мінералы падарыў музею студэнт Маскоўскага ўніверсітэта, пасля вучоны з сусветным імем А.Е. Ферсман. У 1906 годзе Б.П. Кузьменка аддаў музею свае дзесяцігадовыя зборы птушак і сысуноў Таўрычаскай губерні (200 чучалаў птушак, 95 скурак, больш за 150 яйкаў), 10 чучалаў сысуноў і калекцыю ракавін марскіх і прэснаводных малюскаў (118 ракавіна). У асобныя гады прыкладна 1/5 усіх новых паступленняў у музей складалі ахвяраванні.

Аднак асноўнае папаўненне калекцыі забяспечвалі нешматлікія супрацоўнікі музея. Штогод супрацоўнікі музея здзяйснялі шматлікія экспедыцыі па Крыме, чым забяспечвалі хуткі рост калекцый. У выніку ў 1909 годзе музей займаў ужо 12 пакояў ніжняга паверху губернскай управы.

Штогод прыродазнаўча-гістарычны музей аказваў пасільную дапамогу ў камплектаванні калекцый новастваранным музеям, айчынным і замежным навуковым установам. У тым ліку ўніверсітэту Стэнфорда ў Каліфорніі, Мелітопальскай павятовай земскай управе для мясцовага музея, Рухомаму музею ў Пецяр-бурзе, заалагічнаму музею Імператарскай Акадэміі навук.

Аднак найлепшыя мажлівасці правядзення доследных работ Макрэцкі атрымаў у 1913 годзе, калі арганізаваў у Салгірцы каля Сімферопаля Памалагічную станцыю, а ў яе рамках многа розных падраздзелаў у т.л. акліматызацыйны сад, школа садоўніцтва...

З першых гадоў існавання станцыі даследчая дзейнасць яе была накіраваная на рашэнне найважных практычных і тэарэтычных задач у садоўніцтве: селекцыя гатункаў і падвоеў, пытанні агратэхнікі садоўніцтва з улікам рэгіянальных умоў, барацьба з шкоднікамі і хваробамі, спосабы захоўвання і перапрацоўкі пладовай і ягаднай прадукцыі.

За гэтыя гады на станцыі паспяхова вырашаліся актуальныя пытанні ў вобласці садоўніцтва, назапашваўся матэрыял, ствараўся трывалы тэарэтычны падмурак культуры Крымскага садоўніцтва.

Першы на тэрыторыі Еўропы прымяняе амерыканскія кірункі працы ў вобласці дастасоўнай энтамалогіі. Падымаў культуру раслінаводства, рэалізоўваш вялікую праграму санацыі садоў, укараняў методыку апрысквання пладовых дрэваў, заснаваную на дакладным веданні жыцця шкоднікаў.

У 1910 годзе Зыгмунт Макрэцкі быў адным з арганізатараў і першым старшынём Крымскага таварыства прыродазнаўцаў аматараў прыроды, а таксама рэдактарам органаў Таварыства "Бюллетеней".

З яго ініцыятывы былі заснаваныя энтамалагічныя таварыствы ў Херсоне і Кіеве.

У гады 1-й Сусветнай вайны быў старшынём Саюза навуковых установаў і таварыстваў у Крыме. У 1917 г. разам з прафесарам батанікі Кузняцовым арганізаваў Таўрычскую Навуковую асацыяцыю, у якую ўваходзілі 50 навуковых інстытутаў і кіраваў ёю да 1920 г.

У 1916 годзе падчас стварэння Таўрычскага ўніверсітэта ў Сімферопалі стаў дацэнтам і прыклаў значныя намаганні для заснавання ў ім Земляробчага факультэта. Ад 1918 года З. Макрэцкі - прафесар энтамалогіі на Земляробчым факультэце ўніверсітэта . Гэты ўніверсітэт надаў яму ступень доктара філасофіі honoris cause. Тут трэба адзначыць што ў Сімферопальскім універсітэце сабраліся найлепшыя навуковыя сілы з самых розных канцоў Расіі, якія папрыязджалі ў Крым пасля бальшавіцкай рэвалюцыі.

На працягу ўсяго перыяду знаходжання ў Крыме Зыгмун Макрэцкі падтрымліваў стасункі з польскай навукай, найперш з Музеем імя Дзедушыцкіх у Львове. Перапісваўся з Бенедыктам Дыбоўскім, займаўся шкоднікамі садоў Віленшчыны, быў сябрам (ад 1894) Таварыства прыродазнаўцаў імя Каперніка і Польскага краязнаўчага таварыства.

Быў жанаты з расейкай. Паводле польскіх крыніц, развёўся ў 1919 годзе. Ад гэтага шлюбу меў сына Віктара (н. 1893) і дачку Марыю (н. 1897).

У 1920 г., калі Чырвоная Армія ўварвалася ў Крым. З. Макрэцкі разам з дачкой, як і тысячы іншых людзей, уцёк з Крыма праз Севастопаль у Канстанцінопаль. Яго жонка і сын, верагодна, паплылі на іншым караблі. Больш вучоны ніколі не сустракаў іх. Адтуль З. Макрэцкі і яго дачка дабраліся да Белграда, дзе некаторы час ён выкладаў у мясцовай навучальнай установе, але заставацца ў Югаславіі не захацеў, адхіліў і прапанову Злучаных Штатаў Амерыкі і ўсё ў тым жа 1920 годзе заняў пасаду інспектара аховы раслін у Сафіі. Ад пачатку 1921 г. энтамолаг і інспектар аховы лясоў у Сафіі. У Балгарыі займаўся навуковай распрацоўкай спосабаў знішчэння шкоднікаў руж і тытуню, а таксама займаўся шкоднікамі земляпладоў падчас іх захоўвання.

У канцы 1921 года яму паступіла прапанова заняцца навуковай працай у Польшчы. Пасля прыезду ў Польшчу 1 студзеня 1922 года быў прызначаны прафесарам надзвычайным, а з 1 красавіка 1922 года прафесарам звычайным і кіраўніком кафедры і інстытута энтамалогіі і аховы лесу ў Галоўнай сельскагаспадарчай школе ў Варшаве. Інстытут арганізаваў з нуля і ўтварыў пры ім у Скярневічах Заалагічна-лясны музей. Кіраваў гэтымі ўстановамі да 1935 года, калі пайшоў на адпачынак. У тым самым годзе рада Ляснога факультэта надала яму тытул ганаровага прафесара.

Работы Макрэцкага ў Польшчы былі сканцэнтраваны галоўным чынам на праблемах аховы лесу, а таксама аховы тытуню ад шкоднікаў. Распачаў іх практычнай дзейнасцю па барацьбе супраць “выбуху” папуляцыі караедаў у Белавежскай пушчы і Татрах. Доследныя вынікі тых акцый перадаў пазней у некалькіх публікацыях. З’яўленне найабшырнай манаграфіі “Сасновы крывапійца (Panolis flammea Schriff)” (W, 1928) звязанай з масавым праяўленнем гэтага шкодніка ў паўночна-заходніх раёнах Польшчы ў студзені 1922-27 гг. Пісаў таксама пра значэнне аховы раслін і арганізацыі аховы лесу, а рэферат на тэму міжнароднага ўзаемадзеяння ў гэтай вобласці прачытаў на Міжнародным лясным кангрэсе ў Рыме (1926). На XII Міжнародным земляробчым кангрэсе ў Варшаве прадставіў праект арганізацыі аховы раслін ад хвароб і шкоднікаў (1925). Некалькі прац прысвяціў ахове тытуню і распрацаваў “Ключ да вызначэння хвароб і шкоднікаў тытуню, якія праяўляюцца ў Польшчы” (W, 1934). Быў у Польшчы ініцыятарам прымянення самалётаў для барацьбы са шкоднікамі раслін, а ў першую чаргу са шкоднікамі лясоў. Да ранейшых навуковых публікацый дадаў у Польшчы яшчэ каля 50, найперш у часопісах “Польскі лес” (“Las Polski”), “Польскі энтамалагічны часопіс” (Polskie Pismo Entomologiczne”), “Хваробы і шкоднікі раслін” (“Choroby i Szkodniki Roslin”), “Агляд вырошчвання тытуню” (Preglad Uprawy Tytoniu”). Быў у гэты час сябрам Варшаўскага навуковага таварыства, ганаровым сябрам Таварыства сяброў навук у Вільні, заснавальнікам, пажыццёвым старшынём і ганаровым сябрам Польскага энтамалагічнага саюза, старшынём Секцыі дастасоўнай (прыкладной) энтамалогіі гэтага саюза, ганаровым старшынём Фітаэнтамалагічнай секцыі (Секцыі аховы раслін) Саюза сельскагаспадарчых эксперыментальных прадпрыемстваў, віца-старшынём Польскага анатамічна-заалагічнага таварыства, віцастаршынём Польскага ляснога таварыства, ганаровым сябрам Віленскага памалагічнага таварыства, членамкарэспандэнтам Чэхаславацкай земляробчай акадэміі ў Празе, ганаровым сябрам Амерыканскага таварыства дастасоўных энтамолагаў (American Association of Economic Entomologists) і многіх іншых навуковых таварыстваў. Пацверджаннем прызнання яго заслуг з’яўляецца тое, што многія польскія і замежныя заолагі назвалі яго іменем новаадкрытыя віды насякомых.



*Зыгмунт Макрэцкі*

10 снежня 1927 года ў Варшаве было ўрачыста адзначана 35-годдзе навуковай дзейнасці Зыгмунта Макрэцкага.

Памёр 3 сакавіка 1936 года ў Варшаве. 5 сакавіка быў пахаваны на Павонзкаўскіх могілках пры шматлікім удзеле прадстаўнікоў польскага навуковага свету, земляробства, акадэмічнай моладзі і сваякоў, сяброў і найбліжэйшых супрацоўнікаў. Над магілай з вялікімі прамовамі выступілі рэктар, прафесар, доктар М. Горскі, развітваючыся з нябожчыкам ад імя сенату і факультэцкіх радаў Галоўнай сельскагаспадарчай школы, прафесар, магістр І. Сасноўскі ад імя Варшаўскага навуковага таварыства, прафесар доктар С. Мінкевіч ад імя Польскага энтамалагічнага таварыства

і Секцыі дастасоўнай энтамалогіі. Ад імя сённяшніх і былых асістэнтаў, вучняў і Таварыства асістэнтаў Галоўнай сельскагаспадарчай школы прамаўляў дацэнт доктар М. Гейштар, а ад імя акдэмічнай моладзі старшыня Братняй дапамогі Т. Паслаўскі.

**Крыніцы:**


1. Лейкина-Свирская В.Р. Интеллигенция в России во второй половине XIX века.- М.: Мысль, 1971.
2. Савчук В.С. Естественнонаучные общества Юга Российской империи; вторая половина XIX - начало XX века.- Днепропетровск: ДГУ, 1994.
3. Непомнящий А.А., Синичкин А.В. Крымское общество естествоиспытателей и любителей природы и изучение этнографии Крыма // Етнічність в історії та культурі: Матеріали і дослідження.- Одеса: ОДУ, 1998.- С.49-52.
4. Борейко В.Е. Белые пятна истории природоохраны: СССР, Россия, Украина.- К.,1996.- Т.1,2.
5. Савчук В.С. Історичне країзнавство в природничонаукових товаривствах Криму другої половини XIX - початку XX ст. // VII Всеукраїнська наукова конференція "Історичне краезнавство в Україні: традиції та сучасність". (Матеріали пленарного та секційних засідань)Ч.1.- К.: Рідний край, 1995.- С.30-31.
6. Отчет деятельности [КОЕиЛП] за 1914 год // ЗКОЕиЛП.1914.Т.5.-Пг.,1915.-С.VII-XLVI.
7. Polski Slownik Biograficzny. Tom XXI. 1976. S. 609-610.
8. Богданов-Катков Н.Н. Русская литература по прикладной энтомологии . Ленинград, 1924;
9. Список печатных трудов Сигизмунда Александровича Мокрецкого по прикладной энтомологии за период времени с 1892 г. по 1902 г. Симферополь, 1902;
10. Брагина А. Краткий очерк жизни и деятельности Сигизмунда Мокрецкого. Ростов на Дону, 1912;
11. Щербаков Ф.С. По поводу 20-летия деятельности Мокрецкого. Русское энтомологическое обозрение. Т. 12, 1912, № 3, с. 75-78;
12. Janusz A. Czyzewski. O Zygmuncie Mokrzeckim, wspomnienie posmiertne. Warszawa, 1936.
13. Jomnicki W., Spis publikacji Z.A. M-ego, „Pol. Pismo Entomologiczne" T. 6: 1927 s. 11—30;
14. Gieysztor M., Ksiega Pamiatkowa SGGW, W. 1936 (fot., bibliogr.);
15. Howard L. O., Fighting the Insects: The Story of an Entomologist, Telling of the Life and Experiences of the Writer, New York 1933;
16. Tworcy i organizatorzy lesnictwa polskiego, W. 1974;
17. „Doswiadczalnictwo Roln." R. 3: 1927 t. 3 cz. 3/4 s. 97-9 (S. Miklaszewski, fot.);
18. „Echa Lesne" R. 5: 1928 nr 11 s. 35 (fot.), R. 13: 1936 nr 12 s. 7 (W. Koehler, fot), nr 23 s. 5-6 (Z. Wojnicz-Sianoïkcki);
19. „Journal of Economic Entomology" Vol. 7: 1914 nr 2 (L. O. Howard);
20. „Kosmos" S. B, R. 53: 1928 s. 1-9 (A. Kozikowski);
21. „Las Pol." R. 7: 1927 s. 394—401 (R. Bikdowski, fot.), R. 16: 1936 s. 65—70 (W. Koehler, fot.);
22. „Pol. Pismo Entomologiczne" T. 6: 1927 s. 1-11 (K. Strawicski, fot.), T. 14/15: 1935/6 s. 1-80 (J. A. Czyïewski, fot., bibliogr.);


**Макрэцкі Вінцэнт** - чацвёрты (па старшынству быццам бы трэці з сыноў) сын Аляксандра і Камілы Макрэцкіх нарадзіўся ў маёнтку Дзітрыкі Белагрудскай воласці, Лідскага павету. Быў суддзём апеляцыйнага суда. *(Паводле ўспамінаў пляменніка Леха Макрэцкага.)*

**Макрэцкі Юстын**. Сын Адама Макрэцкага. Пасля смерці Адама Макрэцкага яму належаў маёнтак Дзітрыкі. Юстын закончыў вайсковую навучальню. Удзельнічаў у 1-й Сусветнай вайне, а за колькі год да 2-й Сусветнай вайны быў прызначаны на маёрскую пасаду ў 3-м палку цяжкай артылерыі ў Вільні. У захаваных вайсковых архівах Юстын Макрэцкі паўстае як узорны афіцэр. Загінуў 9 верасня 1939 года на подступах да Варшавы, камандуючы дывізіёнам самаходнай артылерыі ў 1-й пяхотнай дывізіі.

Быў жанаты з Ірэнай з Друговінаў (яе маці Гелена з Мікашаў, бацька Пётр быў скарбнікам віленскай Альма Матар). Ірэна паходзіла з Усходняй Беларусі з багатых землеўладальнікаў зямель Полацкай і Віцебскай. Яе матэрыяльны статус змяніўся ў сувязі з вымушанай эміграцыяй у Польшчу з-за рэвалюцыі ў Расіі. Яна закончыла Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя па спецыяльнасці "філасофія" (семінар праф. Чажоўскага). Пад час вайны супрацоўнічала з АК (псеўд. Ружачка) а пасля рэпатрыяцыі была настаўніцай. Памерла 24 сакавіка 1995 г. у Гданьску.

У Юстына і Ірэны - сын Лех, прафесар, доктар габілітаваны ў Гданьску.

**Яшчэ адзін Макрэцкі** (відаць сын Стэфана) валодаў Казіміравым і быў у неладах з уладальніцай Вінкаўцаў, спадчыннага маёнтка Макрэцкіх (відавочна, нехта з Макрэцкіх). Быў вельмі разумным і адукаваным. Перад прыходам саветаў у 1939 годзе распрадаў усю зямлю. Калі нкусаўцы загадалі мясцовым жыхарам паказаць пана, тыя прывялі іх да старой хаткі, перад якой сядзеў абарваны стары, на адной назе - апорак бота, на - другой валёнак.

- Вось пан.
- Не, гэдыкі пан нам не патрэбны.

Падчас вайны і пасля ён жыў у Міхайловічаў, потым - на малочна-кансервавым заводзе. Там і працаваў. Там і памёр.

**Макрэцкая (Лянгэ) Каміла Эмілія** - дачка Адама Макрэцкага. Пэўны час жыла ў Дзітрыках. Дапамагла камандзіру чырвонай дывізіі перайсці на польскі бок. У 1920 г. за бацькам пераехала ў Гародню, дзе засталася і пасля яго смерці ў 1921 годзе. У 1926 годзе ў Гародні Каміла напісала паэму "Год 1919 або Песня пра дывізіі Літоўска-Беларускія".

У Камілы была дачка, якая да нядаўняга часу была жывая.

***Каміла Эмілія Макрэцкая***

# 1919 год
## або
## Песня пра Літоўска-Беларускія дывізіі

I

Вайна. Прыкры свіст абарванай струны,
Гром кананад – б'юць перуны.
Зданяў крывавых людскія шнуры,
Як могілкі, мёртвыя месцаў муры.
Аж з тых палыноў, крывёй разліваных,
Як дзеці грэху, пасеў палымяны,
Паўстаў з культуры крывавай багны
Дзікун першабытны да смерці прагны.
Розныя ўмовы, права, звычаі
Больш тут нічога не азначалі.
У бітве крывавай кроўю працяты
Бестая з бестыяй б'юцца зацята.
Скрозь працінае зрэнкай крававай,
А з праў сусветных ведае права
Моцнага права ды на слабейшым.
... Свет анямеў у чаканні няўцешным,
Хто з двух звар'яцелых бандытаў
Крык перамогі рыкне над падбітым.
Глядзіць, нібы стоўп, як халодныя змеі
Холадам целаў сціскаюць надзею,
Да ног пераможцы яны падпаўзаюць,
Сэрца халодным клубком абвіваюць.
Колькі сіл духу трэбала мець,
Каб з той труны чалавецтва здалець
Падняць хрысціянскіх пачуццяў штандар
І чалавечнасці выявіць твар,
Вечнай святыняю несці ў душы
Не даць чалавека ў сабе заглушыць.
Каб сярод оргій нечысці ў свеце
Вытрымаць, нібы бязвінныя дзеці.
Ці ўпасці ад грознай свету слаты,
Як падае колас той залаты,
Калі селянін, як сваю ўзнагароду,
Зжынае яго з цеплынёй і лагодай.

* * *

Колькі іх колькі пад снегам белым
Адвеялі душы свае ад целаў,
І калі праўдай паданне лічыць,
Што кроў жаўнераў да неба крычыць,
Ноччу зімовай Пасад Найвашэйшы
Чуў бы адгэтуль гімн найчысцейшы,
З нашых палеткаў людское гора
Шумела б, нібы глухое мора.
Ну а начамі, як вецер грае,
Тысяча іскраў на снезе ззяе.
Кожная купінка, глебы грудка
Ім падпявае тонка і чутка.
І быў бы покліч такі ў неба дружны,
Што духам сваім кожны сын мужны
Той ад палеглых чуў бы тастамант,
І хоць наўкола дум і слоў лямант,
Ішоў бы толькі на покліч продкаў
Дарогай простай і найкароткай.

II

Як навальніца ўпала на абшары,
Як саранчы пражорлівыя хмары,
На Ліду ўпалі орды без ліку,
Погляд з-пад кудлаў ступелы і дзікі,
Лаянка, крыкі, злосць і расправы,
Дзікасць тупая ў вяселлі крывавым.
Цягнулі цяжкія пад грузам вазы,
Рыпелі па снезе ад сань палазы,
Пудка іржалі коні падбітыя,
Гвалт дапаўнялі аўта закрытыя.
Перлі варогі глуха стаёна,
Савецкіх вязніцаў тупыя плянёны.
З тым тлумам грозным за нашы парогі
Крывавага ўсходу перліся ногі,
Здані крывавых Іванаў Жахлівых
Тут разліваліся гвалту разлівам.
Што ў душах тлела агнём прамяністым,
Гасла пад іхнім дыхам нячыстым,
А грэх распусціў свае чорныя скрыдлы,
І люду ўласныя душы абрыдлі.

* * *

Замкнёныя ў ціхія, белыя хаткі
Шапталі да неба пацеры маткі,
Ціхія нашы, сівыя матулі,
Твары спакойныя, погляд прачулы.
І ў кожнай маршчыне, што праз вякі
З-пад Вялікага Скульптара выйшлі рукі,
Болю і смутку адбітак віднелы,
Маліліся ціха, без скаргаў і гневу,
Малітвы слалі сынам над галовы,
І такі сэрц іх быў гарт суровы,
Што сына ніводная не затрымала,

Ніводна, самлеўшы, на грудзі не ўпала,
Бо між няволі ў цяжкай патрэбе
Катэхізм стваралі ад сэрца і неба,
Каб не прапасці ў глухой панявярцы:
"Дзе загад святы – там усціш сэрца!"

III

А зямелька наша гула, бы кавадла,
Як молат вытне па ім,
Тысячы іскраў у юныя сэрцы западлі,
Загучаў чыну гімн.
Гуў цёмны лес – сілаў нашых скарбніца,
Зброю вастрыў красавяк,
І збіралася з юных шыхтоў навальніца,
Да чыну шыкуйся, вояк!
Конь іржаў нецярпліва - сябар верны,
Нагой пачынаючы біць,
Ад шэрых хат па нівах бязмерных
Разлятаўся вайсковы кліч:
"Труба заклікае да бою нас,
Аж мускулы ў целе дрыжаць,
Настаў адказу крывавы час,
Крывавы доўг мусім мы аддаць.
Здані паўстанцаў зноў клічуць нас,
Шарэе ў цемры шыбеніц бор,
Ад скалаў Панарскіх гор -
Ужо час, ужо час, ужо час".

IV

З'ядналы ў адзінае сэрцы адчайных,
Рушыў аддзел у шлях досвіткам раннім.
Была іх жменька ды поўная сілы,
Хлапечыя душы верай свяцілі -
Як толькі прыйдуць з грознаю зброяй,
Паўстануць усюды да шыхту воі,
І моцнае сілы аддзел набярэцца,
На збройную моцу край абапрэцца.
Знаёмыя ўсе і ўлюбенцамі сталі
Тых моцных, грозных пачуццяў з сталі,
Тых, што будзіла агульнасць чыну,
Тых, што рабіла з хлапцоў мужчынаў.
Разам мацуюцца між паняверкі,
Разам праходзяць жыцця неспадзеўкі.
Ці прыйдзе доля, ясна ці строга,
Аднога маюць у сэрцы Бога.
Капрал Макрэцкі, юны Шукевіч,
Мейлуп, Шкоп, Бляха, Шнеам, Шалевіч -
Цэлаю гронкай той сілы збройнай,
Што пасярод каляінаў войнаў
Здабылі такія гонар і славу,
Што на іх імя малітвы слалі.
І непрыяцель дрыжаў з адчаю,
Як вестка прынеслася з нашага краю:
Стаяць нязломна ў кожнай калізіі
Літоўска-Беларускія дывізіі.
У срэбна-марозную ноч навагоднюю
Анёл праплываў над зямлёю гаротнаю.
На сэрцы засохлыя ў спёцы калёнай
Клаў свае пальцы з белых прамёнаў,
Дрыготку ўчуўшы ў ажылых душах
Плыў над ціхай вясковай глушшу,
Збіраў плён малітваў шчырых набожных
І сэрцаў жаданняў, і ўчынкаў гожых,
Збіраў, каб занесці іх да ног Божых,
Ды вось нічога сабраць не можа,
Бо што раз – то цямней на гэтай зямлі,
Не малітвамі дзікія горлы раўлі.
І куды не паверне ён сваіх воч,
Крывёй і пажарамі свеціцца ноч.
Крылы ў анёла абвіснулі ўскрусе,
Няма чаго Богу нясці з Беларусі.
Ды з-пад хмар цёмных з віхуры ценяў
Стрэліў сноп яркіх светлых праменяў
З сэрцаў гатовых да шчырай ахвяры,
І раз'ясніліся змроку абшары,
А сэрцы адвагай да неба зіхцяць,
Іх ззянне анёл пачынае збіраць.
Ззяюць адвагай палі і лясы,
Тчэ з той адвагі анёл паясы
І з паясоў высцілае дарогу
Ад сэрцаў жаўнерскіх да ног Пана Бога.

V

З'яднаныя разам, рашучасць на тварах,
Рушыў аддзел па дасвецця абшарах.
Была іх жменька, ды поўных сілы,
Хлапечыя душы верай свяцілі,
Як толькі прыйдуць куды са зброяй,
Усе паўстануць ля іх сцяною,
І ў сіле магутнай узмацняцца яшчэ,
Далоні сціскалі зброю ямчэй.
Былі ўсе знаёмыя і ўжо любілі
Той першы крок, што сёння зрабілі.
І тых, хто сабраўся ў адзінстве чыну,
Каб заступіцца за край айчынны,
Разам узняцца над занядбаннем,
Разам адолець бедаў атхланне,
Ці доля прыйдзе яснай ці строгай,
Аднога маюць у душах Бога.

VI

Ставалі звязы, роты, батальёны,
Здабывалі рыштунак і зброю ў баях,
Казармай былі ім пагоркі ў палях,
Ці бор недаступны, ці двор аддалёны.
Цяжкая справа з духу агніва
Звязаць ланцуг збройны неперpredможны,
Разам і сеяць, і жаць свае нівы,
Ранілі ступні жорсткія пожні.
Ды з цяжкасцю кожнай сіла ўзрастала,
Ад кроку цяжкога поле дрыжала.
Не на пляцы вучыліся кроку і рухам,
А ў засадах начных і дзённых атаках,
І меў там крумкач здабытак багаты,
І шэпты начныя лавіла вуха.
...Аж дасягнулі да сілы галоўнай

Вайны гадаванцы для новых войнаў.
Іх ужо не батальён, не аддзел, не звяз,
Літоўска-беларуская дывізія паўстала ўраз.
Ці вядома як душы хлапечыя гралі,
Калі да агульнага шыхту сталі,
Што ў такія моманты сэрца чуе
Грала ў іх сэрца з вякоў “Алялюя”.
Чутны малітвы з радзімых касцёлаў,
Што ветрык прыносіць з водарам зёлак
Над золатам жыта нашых загонаў,
Чулі вітальныя згукі звонаў,
Чулі ў заплеччы крылы маладыя,
Па святой камуніі самі паўсвятыя.
Мяжу жыцця пераступілі, смерцю пагарджалі
І ў смелым авангардзе ў свой край ступалі.
Не бачны ў іх стомы ці смутку сляды,
Так са здабычай вяртае арол малады.

**VII**

Ішлі бітва за бітвай,
крывавым ружанцам сляды,
Раслі крылы іх славы раслі і магілаў рады.
Узмацнелі іх плечы, загрубелі іх душы,
Вайсковыя словы вясковыя глушаць.
Часам у жаўнерскім жыцці,
як кветка у дарожным пыле,
Як мак, чыя кветкі ў барвовай сіле,
Каханне праблісне
на вуснах, у сэрцы шчаслівым,
І зноў грымоты стрэлаў, зноўку крыві разлівы.
І што раз болей за імі зямлі бацькоўскай
Ад ворага чыстай іх воляй геройскай.

**VIII**

Клецк, Нясвіж, Слуцк, Баранавічы
ўзялі з удачай,
Абгарэлі, счарнелі на вятрах гарачых.
Хто злёг, той заснуў з думай пра Яе і Айчыну
Ранняй смугой між руж і шыпшыны.
Хто жыў, кіпеў энергіяй, не дбаў аб доме,
Рады, што жывы, пры тым пераломе.
А вёў іх жаўнер стары – генерал Макрэцкі,
Без прыдворнага лоску і не леў свецкі,
Ды чалавек з белай галавой і душою
Жыццё пражыў надзвычай цяжкае,
Калі хлопцам малым з-пад роднай страхі
Ў Маскоўшчыну ўзяты не за свае грахі,
У школах іх вучыўся маўчаць, сцяўшы зубы,
Слухаць хлусню пра край свой любы,
Каб цераз сорак год душэўнай няміры
На падначаленых зглядзець краю мундзіры,
Па-свойску каманды падаць батальёнам,
На шапках убачыць святую Пагоню,
А вечарам пасля баю пры слове да Бога
Адтайвала сэрца ваякі старога,
І перад абразкам старым
Вастрабрамскай Маці
Не раз мусіў ціха слязу выціраці.
І моладзь любіла яго апантана,
Па два дні не еўшы ні ўвечар, ні рана
Ішоў па бітвах, што дзень няўхільна,
Хай будзе той спеў за камень надмагільны,
Хоць у труне хай загояцца раны
Невядомым героям, жаўнерам нязнаным.

**IX**

Узята Ліда. А потым старая Вільня
Мужнасцю юнай, воляй няўхільнай,
І народ загуў паўсюль пераможна,
Вярталася моладзь у славе і пыле дарожным.
Толькі ў сімфоніі радасна - тлумнай
Быў шэраг нот жалобных і сумных,
Бо ў косцеле лідскім стаялі радамі
Труны з пайшоўшымі ў вечнасць сынамі.

**X**

Яшчэ, пявучыя і звонкія званы,
Не спявайце песню светлую вясны,
Бо не шчасцю сёння не вяселлю,
Але трунам звон ваш шлях засцеле.
Вы званіце жаласна, галосна
Скаргі шліце да зямлі зайздроснай,
Што сыноў ад маці забірае,
Хай, званы, ваш голас не змаўкае.
Рос натоўп людскі, рос ціха,
І амаль не плачуць, хіба крыху.
Толькі моўчкі шэраг трунаў белых
Шыхтуе вояў грозна анямелых.
Здаецца ўсім, што шэраг той бясконцы,
Ад свежых дошак адбівае сонца,
Як бурштыну шнур жалобны
На грудзях зямелькі роднай.
У ранак светлы, ранак бела - млечны
Праносяць хлопцаў на спачынак вечны.
Звон зазвінеў пранікла, нібы маці,
Што шэпча пацеры свайму дзіцяці.
А потым крыўда загучала зноў,
Што маладосць хаваецца вясной,
Што за свабоду, мір і славу
Зямельцы плацім гэты голд крывавы.

* * *

Дзень быў ціхі і сонечны, звонкі, пахучы,
Натоўп плыў ад касцёла вялікі, маўклівы,
Плыў спеў пахавальны, грозны, цягучы,
Дапаўняў яго звон журботна - журлівы.
Ні вянкоў барвовых, ні прамоў квяцістых,
Быў толькі неба купал найчысты
Над шэрай зямлёю, што труны заслоніць.
Заміж катафалкаў – моц братніх далоняў,
Заміж гучных аркестраў
натоўп грозна маўчыць:
“Дай Божа ў зямлі нашай Вечны Спачын”.
Могілкі доўгі ланцуг прыняпі,
Душы іх – Богу, а целы – зямлі.

**XI**

Скончаны спеў надмагільны быў,
Хадыка-дзякан на ўзвышша ступіў
І мовіў жалобнае слова,
Бачна па твары мука духова,
Чуць жаль сардэчны ў ірванай мове,
У кожным прачулым, хоць простым слове:
“Браці! Ці чуеце звонкія зыкі
Вясны абуджонай ад спячкі вялікай,
Звоніць найменшая птушка ад рання
Вось-вось зямелька ад сну паўстане,
А гэтыя мірна спакойныя хлопцы
Пад промнем апошнім вечнага сонца,
Пад ценем апошнім бязважкіх хмараў
Не раз’ясняць алавяных твараў,
Не чуюць і не адчуваюць,
Як мёртвыя гэтую цішу трываюць.
А хіба ж не трэба ім вельмі пільна
Гнаць ворага далей ад нашай Вільні,
Паспець дадому і ў роднай хаце
Ў абдымкі ўпасці счаканай маці,
Ці да каханай ніхто не спяшае,
Ці ў дваццаць год ніхто не кахае?
О не! Жыць і яны любілі,
Ды толькі для іншага сэрцы адкрылі
І над усім у найбольшай меры
Цанілі гэты мундзір свой шэры,
Гонар жаўнерскі, прысягу народу,
Шлях няспынны да самай свабоды.
І каб спосаб падняць іх знайшлі,
Яны заўтра ў бітву ізноў бы ішлі.

* * *

Шлях перамогі з іх склаўся шляхаў,
І нават збройны жаўнер заплакаў,
Сляза праймала бацькоў, і сяброў,
І блізкіх да скону сівых дзядоў.
І моладзь з жалю да іх маладосці
Маўчала ціха без гневу, злосці.
Сем’і стаялі як цёмныя хмары,
У трунах ляжалі любоў іх і мары,
І маці пад сынам заломвала рукі,
Лічыла раны яго і мукі,
Каб потым дома смутку начамі
Кожную ўспомніць, заліць слязамі.

**XII**

Труны апушчаны, пяску шоргат сціх,
І толькі застаўся чын жывы іх.
Магутнае вечнай прыроды права
Забрала ўзятак ад нас крывавы.
З могілак рушымі звыклым ладам,
Каб вочы пацешыць войска парадам.

* * *

За нізкім, старым, магільным мурам
Грымела музыка дзёрзкіх мазурак.
Жаўнер, хоць змучаны быў у баях,
Грудзі выпростваў у роўных шыхтах.
З-пад шапак старых жыцця ахвочым
Гарэлі бляснам хлапечым вочы.
Гэй! Браўся ўчора з лёсам за грудзі,
І многіх сяброў з ім сёння не будзе,
Мужнасць сваю гартаваў у крыві,
А заўтра ізноў ці памры, ці жыві.
Ды толькі вось сёння іхні парад,
Крок адбівае за радам рад.
Іхні між жыццем і смерцю шлях
Для тога, каб помнілі іх у вяках.
Крок як спрунжына, твар прамяністы,
Бог іх праводзіў дарогай вячыстай.
Ішлі яны за калонай калона,
Ішоў полк Сувальскі і легіёны,
А ўздоўж шарэнгаў сівае сталі
Белай пенай бінты часам мільгалі
Над каўнерам, на чорнай далоні
Або пад шапкай на самай скроні,
Дзе ты ўтрымаеш іх у шпіталі,
Як гэтай хвілі ў паходах чакалі.
За імі ў жоўтага пылу патопе
Бразгалі коннікі ў дробным галопе.
Натоўп гармідарам вояў вітае,
Радасць душы людзей напаўняе,
Шчасце і гонар плывуць з берагоў
Пры выглядзе славай пакрытых сцягоў.
Першы раз вочы на нашых ваяках
Бачылі нашы вайсковыя знакі,
На шэрых мундзірах ззялі іскрыста,
Словы камандаў гучалі чыста
На нашай светлай радзімай мове,
І трапяталася ў кожным слове
Агеньчыкам непагасімым
Любоў да свабоднай Радзімы.
Як любілі родны гук мы ўсякі
Так любім нашы адвечныя знакі,
Як у кожнай душы нашай часціна,
¨сць народ нам цэлы адзіны.
Як Бог у Святой Камуні схаваны,
Станьце вы з намі да параўнання.
І параўнайце народ свой згнілы,
Рукі вашы звіслі без сілы,
У душах вашых залегла скруха,
Бо вы толькі цела, цела без духу,
Хоць ляжыць золата ў вашай зямлі,
Хоць палеткі пад збожжам шырока ляглі,
А межы па дзве часткі свету,
І мора наўкола плешча без мэты,
Вы мусіце рухнуць, мы – вечная сіла,
Бо і ў слязах над сваёю магілай
Такой магутнасцю свецяць вочы,
Нібыта выбух, ці бляск між ночы,
Сярод акіяну сівога бязбрэжжа
Мы аднаўлялі святыя межы,
З чужога свету край свой вымалі,
І прышласць Айчыны сыны кавалі.
Не страшна для нас параза духу,

Бо ўмеем сэрца Айчыны слухаць.
І калі ўскрыкне маці ад болю,
Паўстанем дружна па ўласнай волі,
Забудзем звады і сілай люду
Заслонім край свой ажылы цудам.

XIII

Белы дворык красовы грае музыкай, смехам,
Аддзел жаўнераў шматлікі сюды прыехаў.
Сёння хвіля танцаў, радасць без краю,
Гаспадар паважны гасцей прымае,
Бо ім горад далей, бо ім вёска бліжай,
І гасціннасць шчырай, і паклоны ніжай,
І водар саду, яблыняў і сліваў
І месячнага срэбра паміж дрэў разлівы.
У селены святле цэлы свет патанае,
Як бы попельны саван нас спавівае,
А на сцежках жвіровых яны маладыя.
Хто? Хто ўспомніў кахання пачуцці святыя.
Хто быў перад намі? Хто после нас будзе?
Хто вечнае дзіва тых сноў не забудзе?
З далі двор ззяе радам вокнаў іскрыстых,
Поўны жыццем да краю, як кубак пяністы.
Хто сэрцы злучае без лішні трывогаў,
Хто старасвецкіх не знаў засцярогаў,
Гэтай срэбнаю ноччу ў ціхім белым двары
З сэрца да сэрца сам Бог гаварыў.
Усё, як акорд сапраўднай гармоніі,
Мёдам на клумбах пахнуць ляўконіі.
Стаў мігае таемна, а конікі ў полі
Граюць ці моўкнуць, як эльфы сваволяць.
Росы цяжка блішчаць на  сцяблінах травы
Нібы вэлюм упаў з маладой галавы,
А сэрцы ў грудзях маладых заміраe,
Як ціхія шэпты ў сярэбраных травах.
Вусны знямелыя ў цёмных пачуццях
І шматслоўных прызнанняў у цішу не пусцяць.

* * *

Адчыніліся дзверы, на высокі ганак,
Рынуў тлум вясёлы на падвор шырокі:
- Гэй, гэй, уланы,
Маляваны дзеці,
Мазуркай разыграны,
Улан трыумфам свеціць
Гэй, гэй, уланы,
Хлопцы маляваны,
Радасці слязамі
Ззяюць вочы паняў.
Калі музыка зайграла і ў такт рушаць пары
Гэй наабок! Гэй з дарогі, хто слабы, хто стары.
Далоў сцены, далоў куты,
У шалёным запале у зале пары круцяць,
Бо той танец узрушыў
Нашыя кроў і душы.
І круціць шалёны пажар
У танцы дзесяткі пар.
Гэта танец народу, што здзейсніў намеры,
Страхаў не пужаўся, сілаў не мерыў.
Танец люду, што выгнаў хімеры,
Дзе, як дыяменты, сыны-жаўнеры.
Той танец імклівы
Для пар шчаслівых,
Той перамогі спеў
Для тых, хто пачуць хацеў,
Ног тупат, і грук, і зброі звон,
Жаўнер пераможац прэч гоніць сон.
І цешацца душы, што адляцелі
А гэтак з усімі быць тут хацелі
Таму сэрца дрыжыць,
Кроў па жылах бяжыць,
І верыць, верыць люд,
Што вярнуўся свабоды цуд.

XIV

Вясенні дзень, ад рання на вуліцах тлумы,
Зніклі з твараў рэшткі маркотных думаў.
Радасны гоман паўсюль усплывае,
Хваляю ўрачыстай да неба падлятае.
Сёння дзень Станіслава, імшы хвілі святыя,
Ля касцёла жаўнеры - арлы маладыя
Шыхтуюцца да агляду ладна, рухліва,
Шэраг вазоў і машын, конскія лбы і грывы.
Злілося ўсё ў вобраз поўны жыцця і руху,
Граў у касцёле арган, натоўп імшу слухаў.
У камандуючага фронту сёння імяніны,
¨н быў з усімі ў баях няспынных.
Імша закончана, загуў люд лідскі,
На цвінтар выйшаў генерал Шаптыцкі,
Як з карціны, статны і высока ўзняты,
Вусаў шчотка каратка падцята.
Погляд хуткі і ўзнёслы, твар хударлявы,
Галава прыснежана баявою славай.
Пад радасныя крыкі на вазок сядае,
Дае знак ехаць, а брычка не рушае.
Вазніца не рушыць, а хітра ўсміхаецца.
Што гэта? Можа, бунт пачынаецца?
Ды не вазок  рушыў, а коні засталіся,
Афіцэры і жаўнеры ў воз той упрагліся.
Усе цягнуць шчыра, аж колы ляскочуць,
З вяцяркoм правезці генерала хочуць.
Генерал гукае, смяецца, сярдуе,
Ды яго з-за шуму ўжо ніхто не чуе,
Бо лунае радасць, смеху разлівы,
Так гуляе Ліда, свабодна шчаслівa.

XV

Хто бачыў смерці серп і сявеньку,
Той чуўся часам дзіцем маленькім.
Як з поля падняты лёг у мур шпітальны,
Трапіў у свет дзіваў, цудаў нерэальных.
Спечаныя вусны шэпчуць весткі з тога свету,
Круціцца рой зданяў, шалам разагрэты,
А лоб чакае добрай цёплай, мяккае далоні,
Што грозныя страхі з грудзей прагоніць.
Так цяжка душы у той дзень найцяжэйшы,

А белы твар ад палатна бялейшы.
Так тут сёння сусед крычаў крыкам: “Мама!”
І голас яго ад пачуццяў гучаў поўнай гамай.
Бядак, штыком бальшавік жывот распароў,
Не абдыме цябе маці, не прыйдзеш дамоў.

* * *

А потым дні, як паволі свядомасць вяртае,
Памяць прыходзіць, і праца зноўку чакае.
Дзень імглісты, гразь, змрок, як уночы,
Ліпкай крывёй поўныя вусны, дзікія вочы.
А ты рвешся наперад, гоніць нязнаная сіла,
Ад крывавай імглы вочы ноч засланіла.
З кожным днём думак усё прыбывае,
І паволі размова ўжо ажывае.
Галінка ў акно заглядае цікаўна,
Расказвае дзівы пра свет незвычайны,
Пра дрэвы ўсе ў цвеце, жыццё зеляніны,
Пра гвалт і гармідар чародаў птушыных,
Аб тым, як сэрца соладка млее ў грудзях,
Як сонца раніцай свой пачынае шлях.
І першы ліст ад яе, і першы ружаў букет,
Як крок у ласкавы без болесцяў свет,
І ціхім анёлам з сінечы акна
Голаў над ложкам нахіліць Яна.
І ты – выбранец лёсу, ты смерць перамог,
Да ўстання гатовы і новых дарог,
Шчасце жыцця і вобразаў мілых,
Пачуццяў глыбокіх і вернасці сілы.

**ЭПІЛОГ**

Лёг снег пушысты, срэбны і ціхі,
І далягляды стухалі крыху,
Пакрытыя белай адвечнаю капай,
Месяц схіліўся над срэбнаю мапай.
Снегам пакрытыя ельнікаў шаты,
Як вартавыя ў шапках калматых,
А там за лесам, у сіняй паўночы
Ў цёмных хацінках святло мігоча,
І там у вясковай спакойнай цішы
Чутна як ветрык лісток калыша,
Як зайка шэры спакой парушыць,
Як сабака завые пад чорнай грушай.
Ваўкі пазбіраліся ў грозныя зграі,
Каб вынікнуць там, дзе ніхто не чакае.
Пад старою сасною стромкай, высокай
Жаўнер прыпыніўся ў задуме глыбокай.
Знік месяц за хмарамі. Цёмна. Аблокі
З’ядналі неба і лес высокі,
А між кустоў, як бы нешта шапоча
І страшнай зданню падняцца хоча.
Зліваецца шоргат у гул глыбокі,
Пагроза ўзрастае з усходняга боку.
Сэрца жаўнера б’ецца трывожна,
Ды прышласць шэпча яму асцярожна,
Покуль душа вокам сваім бесцялесным
Блудзіць між будучых віхраў зладзейсных:
- Маці, перад намі белая магіла,
Срабрыстым пылам злосць усё пакрыла
За намі зноў жа, бы ў магіле ціша,
Няўжо зло цемры і цябе калыша.
Мы тут стаім у цвёрдасці і веры,
Як той таран перад штурмам хімеры,
І дух у нас цвёрды у сталь пераліты
А ў рулі снарады і кулі набіты.
Мы твае першыя і верныя парогі,
І нас не пераступяць злыдняў ногі.
Стаім магутна на прабацькаўскай дарозе
З той самай верай, пры Божай дапамозе.
І як дух астатні пакіне грудзі,
Ніхто не ведае, што далей будзе,
Ці край Галгофы ўбачыць перамог прамені,
Бо мы ўжо толькі чалавекаў цені.
Браце! Выкрасім агні ў грудзях,
Каб дух астатні ўшчэнт не счах,
Бо ў варты ўжо далонь з напругі млее,
Што вораг на мяжы зямлі шалее.
Браце! Дух моцны, ды аслабла цела. -
І ад роспачы ў грудзях яму балела,
Не чуў, як вецер яму студзіць скроні,
Не чуў, як час імкліва адбягае,
Трымае моцна карабін далонню,
Паміж снягоў стаіць на варце і чакае.

*Гародня, 1926 г.*

*(Пераклад Станіслава Судніка, 2010 г.)*

**Макрэцкі Лех Мар’ян**, прафесар, доктар гебілітаваны, сын Юстына Макрэцкага і Ірэны з Друховінаў Макрэцкай, унук Адама Макрэцкага, праўнук Аляксандра Макрэцкага нарадзіўся 5 красавіка 1935 года ў Варшаве, але ўсё дзяцінства правёў у Вільні, дзе бацька служыў афіцэрам-артылерыстам.

У Вільні Лех Макрэцкі пайшоў у школу, але гэтая важная падзея ў жыцці прыпала на час вайны, калі ў горадзе раз-пораз мянялася ўлада, таму наведваў польскую падпольную школу, арганізаваную польскімі настаўнікамі. 15 ліпеня 1945 года сям’я пераехала ў Польшчу і пасля года побыту ў Рыпіне Любускім асела ў Торуні.

У Торуні вучыўся ў Гімназіі № 1 і Ліцэі імя М. Каперніка. Атэстат аб сярэдняй адукацыі атрымаў у 1951 годзе. Адначасова вучыўся граць на віяланчэлі ў Дзяржаўнай музычнай сярэдняй школе, якую закончыў у 1955 годзе. Затым стаў студэнтам па класу віяланчэлі ў Дзяржаўнай музычнай вышэйшай школе ў Сопаце. Дыплом музыкі атрымаў у 1962 годзе, а праз два гады ў 1964 - званне магістра мастацтваў.

Яшчэ ў 1952 годзе пачаў вучыцца на гістарычным факультэце Ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка ў Торуні, дзе акрамя іншых слухаў лекцыі Стэфана Срэбрнага, Мар’яна Гумоўскага і Караля Горскага. Магістарская работа “Мужыцкая справа ў кодэксе

Андрэя Замойскага" напісана пад кіраўніцтвам Ядвігі Ляхіцкай, абараніўся ў чэрвені 1956 года. Падчас вучобы пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Аляксандрай Гарбоўскай.

Згодна з атрыманай адукацыяй ад 1 верасня 1956 года вучыў гісторыі, спевам і ігры на віяланчэлі ў школах агульнаадукацыйных і мастацкіх Траймяста. Быў таксама віяланчалістам у Дзяржаўнай оперы і Балтыйскай філармоніі ў Гданьску (1959 - 67), а таксама яе кансультантам па справах навуковых і літаратурных (1967 - 70). Праца артыста-музыкі і настаўніка ў музычных школах трывала да 1973 года. Аднак ужо практычна ад 1966 года Лех Макрэцкі пачаў узмацняць свае стасункі з Кліа, працуючы на кафедры Гісторыі асветы і выхавання ў Гданьскай вышэйшай педагагічнай школе на пасадах старшага асістэнта (1966-68), ад'юнкта (1968-76), дацэнта (1976-85).

У выдатным стылі выканаў працы на навуковыя ступені ў Вышэйшай педагагічнай школе і пазней у Гданьскім універсітэце, атрымоўваючы па чарзе:

- 29 чэрвеня 1967 года дактарат (ступень доктара гісторыі, што адпавядае нашаму кандыдату гістарычных навук) за працу "Праблематыка навучання гісторыі ў Гданьскай акадэмічнай гімназіі ў XVI і XVII стагоддзях" (прамотарам быў прафесар Казімір Кубік, рэцэнзенты прафесар Браніслаў Надольскі, дацэнт Тадэвуш Славікоўскі);

- у 1975 годзе габілітацыя (ступень доктара гісторыі габілітаванага, што адпавядае нашаму доктару гістарычных навук) за працу "У коле працаў гданьскіх гісторыкаў XVII стагоддзя", якая ахоплівала гісторыю мяшчанскай гістарыяграфіі эпохі барока ў Гданьску (рэцэнзенты: Эдмунд Цясляк, Казімір Кубік, Вацлаў Адынец, Станіслаў Салмановіч);

- у 1986 годзе дыплом на званне надзвычайнага прафесара (рэферэнты: І. Тазбір, Станіслаў Гяршэўскі, Станіслаў Салмановіч), уручаны 7 лютага кіраўніком Дзяржаўнай Рады Войцахам Ярузельскім у Белвядэры. Гэтаму званню папярэднічала 87 публікацый, у тым ліку кніга "Пачаткі ведаў пра мора ў даўня Рэчы Паспалітай. Марская праблематыка ў гданьскай навуцы эпохі барока і асветы."

- у 1993 годзе ў выніку кваліфікацыі (рэцэнзенты І. Тазбір, С. Салмановіч) быў прызначаны міністрам на пасаду звычайнага (вышэй за надзвычайнага) прафесара 1 лютага ў Гданьскім універсітэце, а 1 красавіка на факультэцеМузычнага выхавання і рытмікі Музычнай акадэміі імя Станіслава Манюшкі ў Гданьску на падставе кнігі "Традыцыі навучання гісторыі да канца XVI стагоддзя. Выбраныя тэрыторыі і праблемы";

- 6 чэрвеня 1998 года наданне годнасці доктара honoris causa Універсітэта ў Лінкёпінгу (Швецыя) за незвычайна багаты навуковы даробак прафесара на ніве гісторыі навукі, асветы і выхавання, а таксама за выбітныя заслугі на ніве супрацы арганізацыйнай і навуковай Інстытута педагогікі Гданьскага ўніверсітэта з Інстытутам педагогікі і псіхалогіі ў Лінкёпінгу.

Вынікам навукова-дыдактычнай працы прафесара Л. Макрэцкага ёсць між іншым напісанне студэнтамі стацыянарных і нестацыянарных курсаў пад яго кіраўніцтвам каля 300 магістарскіх прац, падрыхтоўка 10 дактароў, аднаго доктара honoris causa, рэцэнзаванне працаў: 30 работ на званне прафесара, 15 на габілітацыйную кваліфікацыю, а таксама 40 доктарскіх работ. Шмат гадоў старшынстваваў у камісіях па абароне доктарскіх працаў. Клапатліва апекаваўся над стажорамі з краіны і з-за мяжы, у тым ліку, з Осла і Берліна.



***Лех Макрэцкі ў Лідзе, 2004 г.***

Шмат высілкаў паклаў прафесар на справу арганізацыйную. У 1978-81 гадах выконваў абавязкі віцадырэктара, а ў 1981-91 гадах тройчы абіраўся на пасаду дырэктара Інстытута педагогікі Гданьскага ўніверсітэта. Кіруючы інстытутам, рабіў націск на кадравую палітыку, а таксама на арганізацыю навуковых канферэнцый, якія заахвочвалі да далейшых навуковых даследванняў, перш за ўсё ў кірунках, звязаных з Памор'ем. Інстытут быў адкрыты для шматлікіх выступленняў вучоных з Польшчы і замежжа. Той час характарызаваўся інтэнсіўнымі навуковымі кантактамі ў краіне і з замежам. У 1968-86 гадах прафесар арганізаваў навукова-дыдактычныя паездкі студэнтаў па Польшчы. Мэтай тых адукацыйных ваяжаў было найбліжэйшае знаёмства акадэмічнай моладзі з традыцыямі і асяродкамі айчыннай асветы і культуры. На зыходзе 1985 года быў прызначаны сенатам на пасаду прарэктара Гданьскага ўніверсітэта. Выконваў гэтыя функцыі да верасня 1987 года. Дзейнасць прафесара, як прарэктара па справах студэнтаў, а таксама як прадстаўніка рэктара ў справах студэнцкай культуры ўпісалася ў памяць студэнцкай брацці Гданьскага ўніверсітэта, як станоўчы прыклад апекі ўладаў ВНУ над найкаштоўнейшымі праявамі студэнцкай культуры - мастацкім жыццём акадэмічнага хору, ансамбляў песні і танцу, а таксама тэатру. Прафесар ужо ад 1969 года на грамадскіх пачатках арганізоўваў на працягу цэлага дзесяцігоддзя ў Гданьскім таварыстве сяброў мастацтваў сесіі, прысвечаныя гісторыі музыкі і музычнага выхавання, а таксама канцэрты, на якіх выступаў таксама Акадэмічны хор Гданьскага ўніверсітэта.

Ад восені 1984 да 2005 года прафесар Лех Макрэцкі кіраваў факультэтам гісторыі навукі, асветы і выхавання ў Інстытуце педагогікі Гданьскага ўніверсітэта. Верны сваім мастацкім зацікаўленням, ад 1972 года падтрымліваў цесныя навуковыя і практычныя стасункі з Музычнай акадэміяй у Гданьску. Паралельна выкладаў таксама ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Слупску, у Гданьскай вышэйшай гуманістычнай школе, а таксама ў Вышэйшай школе ў Гданьску "Ateneum". Быў сябрам сенату Гданьскага ўніверсітэта і сенацкіх камісій, навуковых радаў Інстытута гісторыі навукі,

асветы і тэхнікі Польскай акадэміі навук, навуковай рады Гданьскай бібліятэкі Польскай акадэміі навук, узначальваў навуковую раду Інстытута тэорыі музыкі Музычнай акадэміі ў Гданьску.

Навуковы даробак прафесара Леха Макрэцкага, які ў 2006 годзе налічваў каля 450 пазіцый, і які удаецца скласіфікаваць у некалькі даследчых груп, звязаны перш за ўсё з гісторыяй старапольскай навукі, асветы і выхавання, датычыцца гістарычнай свядомасці грамадства даўняй Рэчы Паспалітай, пры чым галоўнае мейсца ў ім займае даробак Гданьска і Каралеўскіх Прусаў.

Найактуальнейшая група даследванняў ахоплівае пошукі, якія датычаць гісторыі гістарычнай адукацыі ў Гданьску, а далей на абшарах Польшчы і Еўропы, а таксама гісторыя гістарыяграфіі Гданьска XVI і XVII стагоддзяў. Пра гэты кірунак даследванняў сведчаць паслядоўна выдадзеныя наступныя працы: у 1973 годзе **"Курс гісторыі вывучэння гісторыі"**, прысвечаны навучанню гісторыі ў пратэстанцкай Гданьскай акадэмічнай гімназіі. Гэта грунтоўная манаграфія, якая пралівае шмат новага святла на генезіс навейшай гістарычнай адукацыі ў Польшчы. Асноўная новая выснова - перанясенне даты пачатку асобнага вывучэння гісторыі ў школьніцтве старой Польшчы з часоў Нацыянальнай адукацыйнай камісіі на пачатак XVII стагоддзя, а таксама высоўвання тэзы аб наяўнасці гістарычнай адукацыі ў рамках іншых прадметаў ужо ў XVI стагоддзі, калі гісторыя выконвала службовыя функцыі для рыторыкі ці філасофіі. Як падкрэслена ў першым універсітэцкім падручніку дыдактыкі гісторыі, кніга Леха Макрэцкага з'яўляецца найлепшай, паводле папярэдніх, распрацоўкай той эпохі ў дыдактычна-гістарычных даследваннях. Многія наступныя працы рэгулярна пацвярджаюць тэзу, раней выказаную прафесарам, што ў Гданьскай акадэмічнай гімназіі пачалі рэгулярна выкладаць гісторыю ад 1600 года, а ў 1603 годзе ўжо на кафедры права і гісторыі. Вывад адназначны - Гданьская акадэмічная гімназія апярэдзіла ў той вобласці ўсе іншыя школьныя і вучэбныя ўстановы ў Рэчы Паспалітай, а гістарычныя веды ўжо ў XVI стагоддзі даносіліся да вучняў дзякуючы цытаванню аповядаў пра гістарычныя падзеі антычных гісторыкаў на лекцыях рыторыкі, фласофіі і тэалогіі.

Далейшая праца прафесара над гісторыяй гістарычнага пазнання ахоплівае астатнія рэгіёны шляхецкай Рэчы Паспалітай, а таксама астатнія дзяржавы сучаснай Еўропы. Завяршэннем шматгадовых даследванняў і крапатлівых пошукаў над той праблематыкай стала ўжо згаданая кніга **"Традыцыі выкладання гісторыі да канца XVI стагоддзя. Выбраныя краі і праблемы"**. Гэта першае ў нашай гістарыяграфіі развязвання такой задачы ва ўсеагульным еўрапейскім акрэсе. Аўтар накрэсліў глыбока схаваную ў гісторыі адукацыі традыцыю выкладання гісторыі, эвалюцыю разумення прадмета і станаўлення яго самастойнасці ў школьнай праграме. Варта падкрэсліць, што Лех Макрэцкі, сумяшчаючы вывучэнне дыдактыкі гісторыі з даследваннямі спадчыны тагачасных прафесараў гэтай дысцыпліны, звярнуў увагу на ўзаемную сувязь дыдактыкі з навуковай творчасцю. Гэты паварот да інтэграцыі даследванняў дыдактычна-гістарычных з гісторыяй гістарыяграфіі і гістарычнай культуры належыць да новай мадэлі адукацыі, узніклай у семідзесятых гадах XX стагоддзя.

Другая грума зацікаленняў, якія датычацца мяшчанскіх гістарычных запісаў у Гданьску і асобаў, звязаных з паморскім школьніцтвам да паловы XVII стагоддзя, найпаўней паднята ў кнізе **"У коле прац гданьскіх гісторыкаў XVI стагоддзя"**, у тым ліку ў артыкулах: **"Праблемы метадалагічных даследванняў над гістарычнай свядомасцю старапольскай эпохі"** (1985), **"Рэгіяналізм у даследваннях і выкладанні гісторыі выхавання"** (1989).

"У коле прац гданьскіх гісторыкаў XVI стагоддзя" - гэта справа вялікай даследчай сумленнасці і пытлівасці, слушна залічаных да найважнейшых паваенных пазіцый у навуковай літаратуры, якая датычыцца гісторыі гістарыяграфіі і навукі ў Гданьску ў старапольскую эпоху. Абапіраючыся на раскіданыя, часта першы раз вынесеныя да чытача, матэрыялы першакрыніц, прафесар здзейсніў спробу характарыстыкі гістрыяграфіі новага горада, трапна трактаванай, як асобны прадмет даследванняў, увёў у пастаянны ўжытак польскай навукі паняцце барочнай гістарыяграфіі. Аўтар не абмежаваўся аналізам прац гісторыкаў, звязаных з Гданьскай акадэмічнай гімназіяй, а разгледзеў у пераважнай меры мяшчанскую гістарыяграфію, г.зн. гістарычную апрацоўку запісаў гарадскіх ураднікаў (чыноўнікаў) розных рангаў, пастараў ці купцоў. Справа гэтая безумоўна ўносіць важны ўклад у даследванні гістарычнай культуры Памор'я ў XVII стагоддзі. Варта адзначыць, што Лех Макрэцкі першым увёў ва ўжытак паняцце барочнага гістарычнага пісьменства.

Ранейшыя даследванні школьнай гістарычнай адукацыі ў Польшчы не была свабоднай ад спрашчэнняў. Амаль цалкам у іх былі апушчаны ранейшыя часы, падаючы гісторыю вывучэння гэтага прадмета толькі ад паловы XVIII стагоддзя. Публікацыі Леха Макрэцкага належаць да выключных у той вобласці. Варта падкрэсліць, што абнародаванне прафесарам фактаў датычных пачаткаў гістарычнай адукацыі адразу выклікала супраціў многіх аўтарытэтаў. Аднак далейшыя даследванні, да якіх далучыліся таксама выхаванцы прафесара, цалкам пацвердзілі слушнасць абнародаваных тэзаў. Шматгадовыя даследванні першакрыніц адкрылі новыя перспектывы, зацікавілі яго вучняў да далейшага вывучэння у т.л. адукацыі ў каталіцкіх школах старапольскай эпохі і ўяўляюць сёння салідную аснову для апрацоўкі сінтазу гісторыі гістарыяграфіі і дыдактыкі гісторыі даўняй Рэчы Паспалітай. Звыш таго, што падаецца надзвычай важным, узбагачаюць вядомасць нашай інтэлектуальнай культуры, вобраз якой у ранейшай гістарыяграфіі ёсць няпоўны, а сяды-тады нават збеднены.

Развіццё і дасягненні гданьскай навукі былі цікава падняты *(разам з прафесарам Казімірам Кубікам)* у працы **"Тры вякі гданьскай навукі. Нарысы з гісторыі XVI - XVIII стагоддзяў"**. Два выданні (1969 і 1976) папу-

лярызавалі дабрасумленныя вынікі найноўшых даследванняў над развіццём навукі і асветы, падалі сінтаз стану тагачаснага школьніцтва, гісторыі навук гуманітарных і прававых, упарадкавалі веды пра міжнароднае значэнне Гданьска, паказалі арыгінальны даробак і значныя дасягненні многіх слаўных даследчыкаў гэтага асяродка, якія да тога часу не называўся ў літаратуры польскай і еўрапейскай. Наватарскі характар маюць таксама скрупулёзна апрацаваныя біяграмы вучоных, змешчаныя ў "Польскім біяграфічным слоўніку" і "Біяграфічным слоўніку Надвіслянскага памор'я" і паміж іншымі Іяхіма Пасторыя, Яна Шультца-Шулецкага ці Барталамея Какэрмана. У гісторыі польскай навукі ўдалося, дзякуючы даробку прафесара, выправіць істотны перакос, паказаць нязвыкла значную ролю многіх гданьскіх вучоных у гісторыі польскай навукі, часта праз многія стагоддзі незаслужана забытых.

У навуковым даробку прафесара Леха Макрэцкага пачэснае мейсца займае праблематыка ведаў пра мора. У багатым даробку выключнай увагі заслугоўвае кніга **"Пачаткі ведаў пра мора ў даўняй Рэчы Паспалітай"** (1983), якая па заключэнні рэцэнзентаў уносіць істотны ўклад у нашыя зусім бедныя веды пра зацікаўленні жыхароў Кароны і Літвы праблемамі мора і мараплаўства. Праца распавядае пра стаўленне жыхароў Гданьска да марской праблематыкі, а перш за ўсё пра стварэнне ў Гданьску асноваў ведаў пра мора (у т.л. ролі эрганоміі, узаемадзеяння розных дысцыплін, удасканалення будаўніцтва карабельнага і рыбацкага, вывучэння мараплавання ) У ёй спачатку праааналізаваны асветніцкія праграмы, каб далей паказаць працэс удасканалення ў горадзе над Матлавай навуковых зацікаўленняў марской праблематыкай. Шмат мейсца аўтар выдзеліў для праблемы самастойнасці ў канцы эпохі рэнесансу і ў пачатку барока марскіх праблем у афіцыйных пісьмовых матэрыялах такіх дысцыплін, як: філасофія, гісторыя, права, матэматыка, фізіка і прыродазнаўства. Нарэшце паказаў развіццё ведаў пра мора ў эпоху барока і асветы. Праца паклікала да акрэслення мейсца, якое Гданьск займаў у XVII і XVIII стагоддзях у стварэнні ведаў пра мора. Паказ і ацэнка найважнейшых кірункаў зацікаўленняў гданьскіх вучоных, якія займаліся марской праблематыкай, звыш таго ўвядзенне ўсіх разважаняў у еўрапейскі кантэкст, выклікала заахвочванне да далейшых даследванняў, вынікі якіх дазваляюць паказаць цэласць ведаў пра мора ў даўняй Рэчы Паспалітай на фоне астатніх дзяржаў сучаснай Еўропы.

Гісторыя музычнай культуры і асветы Гданьска, а таксама мастацкія і навуковыя кантакты Гданьска з замежжам у XVI - XVIII стагоддзях утвараюць чарговае кола зацікаўленняў Леха Макрэцкага, вельмі багата прадстаўленага ў даследваннях, што знайшло выражэнне ў многіх ягоных працах: **"У коле культуры, музыкі і балету"** (1971), **"40 гадоў Дзяржаўнай музычнай школы начальнай і ліцэйнай ступені імя Фелікса Навагродскага ў Гданьску (1950 - 1990)"**, **"Мастацкія і навуковыя кантакты Гданьска з замежжам у XVI - XVIII стагоддзях"** (1992). Некаторыя з іх маюць першапраходчы характар, як артыкулы пра музычнае выхаванне ў акадэмічных гімназіях Каралеўскіх Прусаў у XVII стагоддзі ці пра музычную культуру горада над Матлавай у эпоху рэнесансу і барока, часта ў агульнаеўрапейскім кантэксце. У коле зацікаўленняў прафесара аказалася таксама музыка ў Вольным горадзе Гданьску. Да каштоўных працаў, найлепшых з тога часу, належыць апрацоўка гісторыі Польскай музычнай кансерваторыі ў Гданьску **"Польская музычная кансерваторыя ў Гданьску (1929-1939)"**, змешчаная ў Гданьскіх гуманітарных сшытках "Паморазнаўчыя працы" (1966, №13). У многіх артыкулах знайходзіць адлюстраванне багатае культурнае жыццё Троймяста, паказана дзейнасць Дзяржаўнай оперы і Балтыйскай філармоніі ў Гданьску, а таксама музычных школ.

За пацверджанне эрудыцыі прафесара Л. Макрэцкага, пасведчанне яго шырокіх даследчых гарызонтаў, а таксама параўнаўчага ўспрыяцця гісторыі навукі і асветы можам ўзяць кнігу **"Вакол старапольскай навукі і асветы. Гданьск - Каралеўскія Прусы - Рэч Паспалітая"** (Гданьск, 2001). Змешчаныя ў ёй даследванні, артыкулы, канферэнцыйныя рэфераты ўжо друкаваліся раней, але цяпер паўторны друк аддаў належнае даробку прафесара, яго эўрыстычнай і апавядальнай кампетэнцыі. Аўтар дапоўніў многія ўласныя ранейшыя даследванні і завяршыў творчыя рэінтэрпрэтацыі сваіх канцэпцый. Рэцэнзент кнігі слушна заўважыў, што яна пацвярджае стары погляд на тэму ўніверсальнага характару навукі і міжнароднага вобліку асветы, паказвае, якое важнае месца ў польскай культуры і культуры Еўропы займаў даўнейшы Гданьск і Каралеўскія Прусы. Вывучэннем першакрыніц прафесара Макрэцкага засведчаны веды пра спосабы пранікнення элементаў пратэстанцкай адукацыйнай ідэалогіі і пратэстанцкіх навучальных праграм у каталіцкія школы Рэчы Паспалітай.

Кніга дакументуе таксама ўклад гісторыкаў Каралеўскіх Прусаў у навуку, іхніх працаў на тэму гісторыі Польшчы. Гісторыя Польшчы была прадметам іх жывога зацікаўлення, даследванняў і вывучэння, што Лех Макрэцкі скрупулёзна выпісаў, аздобіўшы кампетэнтнымі і добра адрэдагаванымі каментарамі.

Шматсюжэтная і шматколерная панарама фактаў, з'яваў і адукацыйных працэсаў выступае ў кнізе ў артыкулах, якія датычацца гісторыі асветы. Тут заслугоўвае ўвагі сучасны падход аўтара да асветы, як да феномену сацыяльнага. Леха Макрэцкага цікавяць агульныя кантэксты асветнага руху, калі ён піша пра ролю навукі і асветы ў жыцці гданьскіх мяшчан у XVI - XVIII стагоддзях, калі акрэслівае традыцыі марской асветы і гданьскай навукі ў той самай вобласці, калі раскрывае адукацыйныя праблемы мяшчанскіх сямей у Каралеўскіх Прусах у XVI - XVII стагоддзях. Аналізы крыніц з той эпохі сталі важнымі прычынамі для роздуму аб зменах метадалогіі гісторыі адукацыі і методыкі гістарычна - адуацыйных даследванняў у Польшчы.

Лех Макрэцкі абнародуе свой даробак на шматлікіх сімпозіюмах і навуковых канферэнцыях. Выступаў у большасці еўрапейскіх краін. Не раз прафесара запрашалі для выступлення з рэфератамі на прынагодных

сімпозіюмах, як юбілей прафесара Ф.А. Дыстэрвэга ў Берліне, ці на канферэнцыі з аказіі надання ва ўніверсітэце ў Балоні ступені доктара honoris cause Чэславу Мілашу. Біяграфія прафесара ад 1993 года пададзена ў некалькіх прэстыжных слоўніках тыпу ”Who is Who in the World” (апублікаваны выдавецтвам “Marquis” у ЗША).

Лех Макрэцкі з’яўляецца сябрам многіх айчынных і міжнародных навуковых арганізацый, у тым ліку: L’Association Internationale pour l’Histoire de l’Education (Бельгія), Commission d’Histoire de l’Histoiographie пры Comite’ International des Sciences Historiques (Італія), History of Science Society (ЗША), чальцом Камітэту гісторыі навукі і тэхнікі Польскай акадэміі навук, старшыня Камісіі гісторыі грамадскіх навук Камітэту гісторыі навукі і тэхнікі Польскай акадэміі навук, Камісіі гісторыі паўночных мораў Еўропы КГН ПАН, Камісіі метадалогіі гісторыі і даследванняў гістарыяграфіі КГН ПАН, Краёвай камісіі дыдактыкі гісторыі, Польскага гістарычнага таварыства, Гданьскага навуковага таварыства і іншых. Прафесар засядае ў рэдакцыйных радах або рэдакцыях такіх навуковых часопісаў, як: „Przeglad Historyczno-Oswiatowy”, „Rozprawy z Dziejow Oswiaty”, „Lubelski Rocznik Pedagogiczny”, „Biuletyn Historii Wychowania” (Poznac), „Ars Educandi” czy „Rocznik Gdanski”.

Прафесара Макрэцкага ўзнагароджвалі міністр культуры і мастацтва, міністр адукацыі (двухразова), а таксама рэктар Гданьскага ўніверсітэта (25 узнагарод). Прафесар атрымаў адзнаку 1 ступені Польскай акадэміі навук. Шматбаковая дзейнасць прафесара была шматкратна адзначана ўладнымі структурамі, у тым ліку: Ганаровая адзнака заслужанага дзеяча культуры (1971), Ганаровая адзнака “За заслугі перад горадам Гданьскам” (1972 і 1979), Ганаровая адзнака “Заслужаны Гданьскай зямлі” (1973), Залаты крыж заслугі (1977), Срэбная адзнака ”Заслужаны працаўнік мора” (1979), Медаль Нацыянальнай адукацыйнай камісіі (1980), Кавалерскі крыж Ордэна адраджэння Польшчы (1984), Афіцэрскі крыж Ордэна адраджэння Польшчы (2004), Медаль 1000-годдзя Гданьска (1998) і Медаль прэзідэнта горада Гданьска (2005).

Найноўшыя даследчыя зацікаўленні прафесара Макрэцкага зноў павяртаюцца да акадэмічных традыцый Гданьска. Вучоны заўважыў, што ў Каралеўскіх Прусах ужо ў XVI стагоддзі мелі месца моцныя імкненні да стварэння ўніверсітэта для шляхты і мяшчанства пратэстанцкага веравызнання, аднак па меры нарастання цяжкасцяў у арганізацыі такой установы, рабіліся высілкі для грунтоўнай перабудовы школьніцтва. Адсутнасць вышэйшай навучальнай установы імкнуліся часткова кампенсаваць акадэмічнымі гімназіямі.

Далейшая навуковая дзейнасць прафесара падтрымліваецца рэктарам Гданьскага ўніверсітэта Андрэем Цайновым. Спецыяльна сабраны камітэт выбітных даследчыкаў, які ўзначальвае Лех Макрэцкі рыхтуе акрамя іншага шматтомавае выданне першакрыніц, якія фармавалі ўніверсітэцкія традыцыі Гданьска.

Прафесар Лех Макрэцкі шмат разоў наведваў Ліду і Лідчыну - радзіму сваіх дзядоў - прадзедаў і перадаў шмат матэрыялаў, скарыстаных для напісання гэтага артыкула.


***Лех Цехановіч і Лех Макрэцкі ў Лідзе, 2004 г.***

**Крыніцы:**

1. Kazimierz Puchowski, Jozef Zerko. Profesor Lech Marian Mokrzecki – badacz historii nauki, kultury i oswiaty. Uniwersytet Gdanski.

2. Kazimierz Puchowski. Profesor Lech Mokrzecki – historyk nauki i oswiaty. Uniwersytet Gdanski.

3. J. Zerko, Promocje doktorskie w Uniwersytecie w Linkoping (Szwecja), „Ars Educandi”, t. I, 1998, s. 181-188.

4. Ogolnopolska sesja naukowa pt. Wklad Pomorza Gdacskiego do rozwoju nauki i oswiaty, Gdansk 1983.

5. Zob. J. Maternicki, Cz. Majorek, A. Suchonski, Dydaktyka historii, Warszawa 1993.

6. Swiadomosc historyczna jako przedmiot badan historycznych, socjologicznych i historyczno-dydaktycznych. Materiaiy z konferencji naukowej – Warszawa, 13.06.1985, pod red. J. Maternickiego. Centralny Osrodek Metodyczny Studiow Nauk Politycznych, Warszawa 1985, s. 165-169.

7. Regionalizm w badaniach i nauczaniu historii wychowania [w:] „Rozprawy z Dziejow Oswiaty” 1989, t. 32, s. 197-203 (wspylnie J. Zerko).

8. Zob. recenzje J. Serczyka, „Zapiski Historyczne” 1977, t. 42, nr 1, s. 103-115.

9. Zob. A. Krawczyk, Historiografia polska epoki Baroku. Stan i potrzeby badac, [w:] Metodologiczne problemy syntezy historii historiografii polskiej, pod red. J. Maternickiego, Rzeszow1998, s. 106,

10. Zob. K. Puchowski, Edukacja historyczna w kolegiach jezuickich Rzeczypospolitej, Gdansk 1999.

11. Zob. rec. Czeslawa Majorka, „Lubelski Rocznik Pedagogiczny”, T. XXII – 2002, s. 245-247.

12. Zob. L. Mokrzecki, Dawne i nowsze tradycje gdanskiej nauki i edukacji, [w:] M. Andrzejewski, L. Mokrzecki, J. A. Wlodarski, Zarys dziejow Uniwersytetu Gdanskiego. Szescdziesiat lat tradycji polskiego szkolnictwa pedagogicznego na Wybrzezu, Gdansk 2006, s. 9-24.

*Матэрыялы скампанаваў*
***Станіслаў Суднік.***

# Немцы ў Лідзе. 1941-1944.

Па меры таго, як я распытваў людзей, якія жылі пры нямецкай акупацыі, маё выхаванае ў савецкай школе і на савецкіх кнігах стаўленне да немцаў паступова ссоўвалася (дрэйфавала) у кірунку большай памяркоўнасці. У некаторай ступені дапамагла вызваліцца ад германафобіі савецка-афганская вайна, у якой слаўнае савецкае войска бамбіла аулы, паліла дамы і пазбаўляла жыцця ні ў чым не вінаватых людзей, так-сама, як і фашысцкае. Вайна ператварае чалавека ў звера, патрэбна велізарная ўнутраная сіла, каб не зламацца.

Гэтая праца пра тое, якімі былі немцы ў Лідзе.

У ліпені 1941 г. у адпаведнасці з указам Гітлера ад 17 ліпеня " Аб кіраванні ў ізноў занятых усходніх абласцях" быў утвораны рэйхскамісарыят "Остлянд". Сталіцай "Остлянда" немцы прызначылі Коўню (ліпень-жнівень 1941), затым перавялі сталіцу ў Рыгу. У склад рэйхскамісарыята ўвайшлі 4 генеральныя акругі (гэнэральбэцырк) Weissruthenien, Латвія, Літва і Эстонія. У генеральную акругу "Вайсрутеніэн" былі ўключаныя передваенная Баранавіцкая вобласць, у тым ліку Лідчына, частка Вілейскай і Менскай абласцей, паўночныя раёны Берасцейскай, Пінскай і Палескай абласцей - прыблізна адна трацiна передваеннай тэрыторыі БССР з насельніцтвам каля 3 млн. чалавек.

1 верасня 1941 г. камандуючы тыламі групы войскаў "Цэнтр" Макс фон Шэнкэндорф перадаў уладу ў Генеральнай акрузе Вайсрутэніэн пад начала цывільнай адміністрацыі на чале з генеральным камісарам гаўляйтэрам Вільгельмам Кубэ. Тэрыторыя генеральнай акругі была падзеленая на 11 акруг (гэбітаў): Баранавіцкі, Барысаўскі, Вілейскі, Ганцавіцкі, Глыбоцкі, Лідскі, Менскі, Наваградскі, Слонімскі, Слуцкі і г. Менск. У акругі прызначаныя гэбітскамісары, у гарады - штадтскамісары, у раёны (паветы) - ортскамісары. Былі створаныя гарадскія, раённыя і валасныя ўправы, у вёсках прызначаныя старасты (солтысы або войты), арганізаваная густая сетка вайсковых і паліцэйскіх залогаў.

Лідская акруга (гэбітскамісарыят) уключала сем раёнаў: Васілішскі, Жалудоцкі, Іўеўскі, Лідскі, Радунскі, Шчучынскі і Юрацішскі. Былі арганізаваныя цывільная адміністрацыя - акруговая, гарадская, раённыя і валасныя ўправы, гарадская паліцыя ў Лідзе, парадкавая паліцыя, пастарункі паліцыі (шутцпаліцай) у раёнах. У кожным раёне нахадзіўся зондэрфюрэр, які займаўся гаспадарчымі справамі, жандармерыя, ортскамендатура (вайсковыя справы) і арбайтсамт (ведамства працы). Гэбітскамісарыят складаўся з 6 аддзелаў: адміністратыўнага, палітычнага, эканамічнага, працоўнага, лясного і сельскагаспадарчага.

**Казка.**

*"Захапіўшы Ліду і Лідскі раён, яны стварылі тут моцны апорны вузел, насычаны жывой сілай і тэхнікай. У горадзе знаходзілася да 5 тысяч гітлераўцаў, 140 паліцэйскіх, 108 жандараў, 120 эсэсаўцаў» (Памяць. Ліда. Лідскі раён. Мінск. 2004. С. 192).*

**Рэчаіснасць.**

З дакладу фон Ганвега на нарадзе ў Менску 8 красавіка 1943 г.: "*На тэрыторыі акругі Ліда насельніцтва складаецца з 76 немцаў, 66657 беларусаў, 192474 палякаў, 2963 літоўцаў, 225 украінцаў, 531 татарына, 4419 яўрэяў, 268 чалавек розных нацыянальнасцяў. Усяго 270570". (Лідскі летапісец. № 3(15) 2001. С. 15).*

Такім чынам, у Лідскай акрузе стала пражывалі ўсяго толькі 76 немцаў. Палова з іх вядомая па прозвішчах.

**Герман фон Ганвег** (Hanweg) (25.08.1907 - 1944?).

Лідскай акругай кіраваў 35 - гадовы гэбітскамісар (акруговы камісар) маёр Герман фон Ганвег, буйны прускі абшарнік. Аднойчы мне паказалі фатаграфію ваенных часоў, на якой былі зафіксаваныя старасты лідскіх вёсак. Сярод старастаў узвышаўся рослы халёны нямецкі афіцэр, гэта і быў фон Ганвег. Жыў ён разам з сям'ёй і сабакам у доме Вітажэнца на вул. Сувальскай (цяпер Савецкая, 32). Быў ён чальцом НСДАП з 1928 г., выконваў указанні вышэй пастаўленага кіраўніцтва, падпісваў растрэльныя загады. Па загадзе фон Ганвега ўзімку 1941-42 гг. у лютыя маразы праз забалочаную пойму Каменкі лідскія габрэі адсыпалі дарогу ад вул. Савецкай да вул. Ламаносава (адрэзак вуліцы Міцкевіча). У студзені фон Ганвег выдаў распараджэнне, паводле якога мясцовае насельніцтва пры сустрэчы з абмундзіраваным немцам павінна было здымаць з галавы шапкі ў знак падзякі за вызваленне краю ад бальшавізму. Увесну 1942 г., калі каля гарнізоннага шпіталя быў смяротна паранены салдат вермахта, фон Ганвег абвясціў гараджанам, што калі забойца не будзе злоўлены, будуць расстраляныя 10 закладнікаў.

Калі стала зразумела, што бліцкрыг не ўдаўся, пачаў мякчэць. Улетку 1942 г. адмяніў распараджэнне аб шапках. У ліпені 1942 г. замяніў польскага бурмістра Баярчыка на беларускага Язэпа Пінкевіча. Былі заменены некаторыя польскія кіраўнікі раёнаў. Увосень 1942 г. у Шчучыне была адкрытая настаўніцкая семінарыя - адзіная сярэдняя школа ў акрузе. Гарадскія, раённыя і валасныя ўправы пачалі пераходзіць на беларускую мову.

Хоць і быў тыповым прадстаўніком нацысцкага сярэдняга звяна, але ў меру - *"прынцыпова мяккі чалавек"*. Аднаго з яўэяў па прозвішчы Камёнскі "дасталі з магілы, ён вазіў мяса для сабакі Ганвега"(14). Падчас масавага растрэлу 8 траўня 1942 г. за спробы адвесці смерць ад як мага большай колькасці яўрэяў атрымаў "строгую вымову за невыкананне ўказаў СС і СД і быў фармальна адхілены ад сартавання, яму загадалі не замінаць правядзенню "акцыі" *(Ньюхаус Ирен. Город Лида, его гражданская администрация*

*и другие ведомства. ).*

У некаторых гараджан склалася перакананне, што Ганвег быў мяккім, добрым чалавекам, свае прафесійныя абавязкі выконваў без празмернасцяў і зневажанняў, спрыяў габрэям. Меў чалавечыя слабасці: цікавіўся маладзенькімі дзяўчатамі, і здраджваў сваёй жонцы з сакратаркай-немкай Лізелот Мэйер. Калі жонка аб гэтым дазналася - сабралася і з'ехала з дзецьмі ў Нямеччыну. Увесну 1944 года быў адхілены ад пасады гэбітскамісара і прызваны ў Вермахт. Знік у жніўні 1944 г.

**Жонка фон Ганвега.**

У Германа Ганвега была жонка і дзве дзяўчынкі, адну з іх звалі Адэлаіда. Жонка ездзіла конна на кані на шпацыры. Часам заязджала ў яўрэйскае гета. Аднойчы конь зваліўся, яна дастала пісталет, прыстрэліла каня і аддала яго яўрэям. *"Мы мелі мяса"* (14). Свой шлюб з Германам Ганвегам па прычыне пралюбадзейства мужа скасавала ўлетку 1944 г. Пасля вайны сустрэла на вуліцы эсэсаўца Віндзіша, які камандаваў акцыяй па расстрэле габрэяў у Лідзе. *"Яна распытала, дзе ён жыве. А хто яшчэ? Ах, Вэрнэр, а ён дзе жыве ? Пасля гэтага пайшла ў паліцыю і распавяла"* (14). Дзякуючы ёй Віндзіш і Вэрнэр, два эсэсаўцы, якія кіравалі масавымі расстрэламі ў Лідзе, Іўі, Воранаве і Васілішках апынуліся ў турме.

**Дрэкслер (Дрэксель, Дрэсель).**

Намеснік гэбітскамісара. Адукаванасцю не вызначаўся, быў нашмат зласлівейшы за фон Ганвега. Насіў карычневую форму без знакаў адрознення і павязку са свастыкай. 9 сакавіка 1944 г. па загадзе камандавання партызанскай брыгады імя Кірава на Дрэкслера быў здзейснены замах. Раман Астрэйка рана раніцай падклаў міну пад яго крэсла. Увайшоўшы ў кабінет, Дрэкслер кінуў шынель на крэсла, крэсла здрыганулася, міна выпала і пакацілася. Прыбіральніца Марыя Сарокіна ўспомніла, што раніцай з будынка выходзіў пабочны. Праз некалькі дзён яна ўбачыла гэтага чалавека ў горадзе і "здала" яго. Гаварылі, што атрымала вялікую суму грошай і з'ехала ў Нямеччыну. Рамана Астрэйку павесілі на Рынкавым пляцы перад поштай.

21 сакавіка каля 24 гадзін партызаны - былыя работнікі аддзела прапаганды гэбітскамісарыяту Аляксандр Пінчук і Мікалай Мельнікаў кінулі дзве гранаты ў пакой, дзе праходзіла застолле з удзелам Дрэкслера. Занавескі затрымалі гранаты. Дрэкслер быў паранены.

**Леапольд (Ханс) Віндзіш (Windisch) (-1985).**

Памочнік гэбітскамісара, начальнік палітычнага аддзела, эсэсавец, штабляйтар з верасня 1941 да вясны 1943 г. Поскудзь у чыстым выглядзе. Фанатычны фашыст, агрэсіўны, пыхлівы, жорсткі, дыстанцаваўся ад іншых работнікаў гэбітскамісарыяту. Скардзіўся гаўляйтару Кубэ на фон Ганвега і імкнуўся заняць яго месца. Ажыццяўляў падрыхтоўку і рэалізацыю масавых растрэлаў габрэяў у Лідзе 8 траўня, у Васілішках 10 траўня, у Іўі -12 траўня, у Воранаве 14 траўня 1942 г. На ім кроў некалькіх тысяч габрэяў. *"Я была сведкай, я бачыла сваімі вачамі Віндзіша, як ён зверстваваў. У гета ў хату, дзе мы жылі, пасялілі двух маладых габрэяў, якія неўзабаве ўцяклі ў лес. Віндзіш спытаў у маёй мамы: "Дзе яны?" Мама адказала, што не ведае. Тады ён выцяў маму бізуном па галаве. Праз некаторы час у мамы забалела галава. Прыйшоў лекар і сказаў - тыфус. Я адна сядзела з мамай. Потым прыйшоў іншы доктар і сказаў, што гэта не тыф, а запаленне мазгоў. Неўзабаве яна памерла. ¨н яе забіў".* (14). У судовых паседжаннях не раскайваўся, да канца заставаўся сапраўдным фашыстам. У 1967 г. прысуджаны да пажыццёвага зняволення.

**Рудольф Вэрнэр (-1971).**

Старшы адміністрацыйны сакратар Лідскага гэбітскамісарыяту, начальнік аддзела экономікі і прамысловасці з верасня 1941 да канца 1942 г. Любіў добра паесці. Яго сакратаром была **Каця (Кэці) Хэрбст**. Памочнік Віндзіша па частцы растрэлаў. Грубы, дзікі чалавек, адрозніваўся асобай жорсткасцю. Збіваў габрэяў, якія працавалі на вуліцы. Меў сабаку, якога нацкоўваў на людзей. *"Вэрнэр і фон Ганвег стаялі на балконе хаты з сабакам. Габрэі ішлі калонай з працы. Вэрнэр сказаў сабаку: "Аплаці ім працу". Сабака з балкона скокнуў ў натоўп і пачаў драць людзей"* (14). *"Вэрнэра перавялі ў Менск. Калі яго арыштавалі ў Нямеччыне, ён быў у такім стане, што нічога не разумеў"* (14). У 1967 г. Вэрнэр быў прызнаны псіхічна непрыдатным для аддання пад суд.

**Ганс Кардэс (Cordes).**

Начальнік аддзела працы гэбітскамісарыяту з 1 сакавіка па 31 ліпеня 1942 г. Яго змяніў Вітынг.

**Кахлер.**

Начальнік ляснога аддзела, старшы ляснічы. *"Маленькі, таўставаты, румяны, ганарлівы, заўзяты гітлеравец у зялёным багата ўпрыгожаным срэбрам мундзіры нямецкай лясной службы. Свае фізічныя недахопы папаўняў няўрымслівасцю і рухамі вымуштраванага салдата. Гаварыў хутка з дыялектам "платдойч" кароткімі гарлавымі воклічамі. Выцягнутай рукой і воклічам "Хайль Гітлер" вітаў усіх сустрэчных у калідоры гэбітскамісарыяту нямецкіх афіцэраў ...і толькі афіцэраў". (Dramowicz W. Wspomnienia. // Ziemia Lidzka. № 36 s. 11-15).*

**Вольф.**

Ляснічы. У Ліду прыбыў у студзені 1942 года. *"Белы і худы, рабіў уражанне ачуняўца, якога раней часу выпусцілі са шпіталя." (Dramowicz W. Wspomnienia. // Ziemia Lidzka. № 36 s. 11-15).* ¨н павінен быў у Лідскай акрузе сфармаваць лясную ахову (Форшутц-каманда).

**Эдгар Гэрмэр.**

Аграном, начальнік сельскагаспадарчага аддзела. Загінуў падчас вайны.

**Ранэ (Поль) Дзіц (Дош).**

Начальнік падаткавага пададдзела. Паранены 21

сакавіка 1944 г. адной з гранат кінутых А. Пінчуком і А. Мельнікавым.

**Ляўдэн.**

Ортскамендант, гаўптман. Ад'ютантам у яго быў Віленбэрг. Персанал камендатуры складаўся з 4 жандараў, скарбніка і 20-25 салдат.

**Вальтар Гамбург** (- 4.05.1956, Гісэн).

Начальнік жандармерыі. Начальнік акруговай паліцыі да канца красавіка 1942 г.

**Георг Вільгельм Гойзар** (Heuser, Хэртал)

Старшы дарадца крымінальнай паліцыі. Начальнік нямецкай паліцыі.

**Альберт Вэстар (Wester).**

Начальнік акруговай жандармерыі з кастрычніка 1941 па сакавік 1942 года

**Герман Юк (Ueck).**

Оберлейтэнант. Начальнік акруговай жандармерыі ў 1942-43 гг. За нейкую правіннасць быў паніжаны па пасадзе да памочніка начальніка акруговай паліцыі. *"Быў нейкі нямецкі жандар, які пакахаў прыгажуню габрэйку Люду Карчмар (Карчмер), і калі яе адправілі ў Майданак, ён нейкім чынам здолеў яе выратаваць. Пасля вайны Люда прыязджала ў Ліду." (18).*

**Брут.**

Начальнік гарадской паліцыі, старшыня Саюза беларускай моладзі. Немец па нацыянальнасці, асаднік, каталік, у ліпені 1941 г. пайшоў да фашыстаў на службу. Здаў звыш трыццаці камуністаў, камсамольцаў і грамадскіх работнікаў раёна. Прымаў удзел у забойствах мясцовых жыхароў. *(Ампилов В…С.47, 63-66.)*

Быў забіты ў 1943 г. Існуюць тры версіі: а) забілі яго на вул. Лётнай Міхаіл Віннічак і "Жорка"; б) забіў Роберт Сасноўскі пры выходзе з касцёла; в) забіў нехта з польскіх падпольшчыкаў.

**Гільдэнбрандт** (? - 4.04.1944, Ліда).

Камендант лідскай паліцыі, унтэрафіцэр. Прыгажун, заваёўнік жаночых сэрцаў. Забіты 4 красавіка ў 18 гадзін на вуглу вуліц Перамогі (Беларускай) і Гагарына (Маладварцовай) чалавекам у кажуху.

**Ежы Рыпер** (6.08.1924, Ліда -).

Камендант белай паліцыі, затым шэф агентуры СД. Бацька - аўстрыец, служыў у легіёнах Пілсудскага, у лётным палку ў Лідзе, на пенсію пайшоў у званні маёра, некаторы час працаваў настаўнікам, стварыў бюро па напісанні прашэнняў (заяў), прыняў удзел у вераснёвай кампаніі, у 1940 г. вывезены ў Сібір. Маці - немка або руская.

Скончыў Лідскую дзяржаўную гімназію, быў харцэрам. У 1942 г. уступіў у белую паліцыю, якая была створаная для аховы гэбітскамісарыята і яго працаўнікоў. Камендантам белай паліцыі ў 1942 г. быў Кіслы, у 1943 г., калі яго ліквідавалі, камендантам стаў Рыпер. Прымаў удзел у растрэле габрэяў 8 траўня 1942 г, збіваў арыштаваных партызан, на вуліцы касцетам біў мінакоў, застрэліў чалавека на вуліцы. Арыштаваў палову штаба АК, застрэліў у камеры сувязнога АК Мар'яна Енчака і двух зняволеных - палякаў; мяркуюць, што ён знішчыў кашталяна Лідскай Акругі АК інжынера Babакомскага. Разграміў партызанскую базу АК у Бянькевічах, 60 чалавек былі арыштаваныя. Пасля забойства Гільдэнбрандта расстраляў некалькіх зняволеных. Затэрарызаваў горад і навакольлі. Польскае падполле наладзіла на яго паляванне, пры замаху быў забіты канфідэнт Мазь, Рыпер быў паранены ў шчаку і грудзі. Абодва ліквідатары загінулі. Пасля вайны ў кастрычніку 1945 г. яго пазналі ў Ольштынскім ваяводстве. Перабраўся ў Ня-меччыну, працаваў у Боне ў брытанскай амбасадзе. *(Kupisz W. Bialogwardzista. // Ziemia Lidzka. № 23-24. S. 25; ліст Рышарда Казубоўскага. //Ziemia Lidzka. № 25. S. 15.)*

**Курт Бютнар (Buettner).**

Начальнік турмы. 25 снежня 1942 г. адпусціў адслужыць ранішнюю службу першага дня Каляд арыштаваных ксяндзоў Бароўскага, Лобана і Мрачкоўскага. Браў хабары, стала карыстаўся паслугамі маладых жанчын.

**Вальтар.**

Дыспетчар чыгуначнага вузла. Збіваў кіем з жалезным стрыжнем ваеннапалонных і працоўных, збіў Андрэя Багмута, душыў Жаданаву. Захапляўся дрэсіроўкай сабак. Зацкаваў сабакамі трох ваеннапалонных. Удзельнічаў у расстрэле цыганоў. Быў забіты: а) партызанскай куляй на месцы выбуху цягніка, куды ён прыехаў для агляду; б) ваеннапалоннымі працаўнікамі дэпо Чарнаскутавым і Саўчанкам. Па Вальтара прыбыў адмысловы жалобны вагон з Нямеччыны. *(Ампилов В…С.34,48,50-51.)*

**Квательбаўм.**

Працаваў на чыгуначным вузле. Тоненькі, хліпкі, усе пальцы ў пярсцёнках, сынок уплывовага таткі, разгульваў па платформе ў белых пальчатках. *(Ампилов В…С. 17,34.)*

**Герберт Фааль.**

Начальнік вугальнага склада. Немалады з вялікімі рагавымі акулярамі, хваравіты. Аматар музыкі. Да вайны граў на скрыпцы ў аркестры чыгуначнікаў. Ненавідзеў вайну, Гітлера і спагадаў мясцовым жыхарам. Падкормліваў ваеннапалонных і дазваляў ім адлучвацца ў горад. *(Ампилов В…С. 34-35.)*

**Пэтар.**

Салдат баншуца. Ахоўнік, антыфашыст. Дэзертыраваў у лес, да партызанаў, пасля вайны некаторы час працаваў шафёрам у райаддзеле міліцыі, вярнуўся ў Нямеччыну. *(Ампилов…С.34.)*

**Зонс.**

Начальнік электрастанцыі інжынер. "Кульгавы немец са знешнасцю аскета,… твар хударлявы і мёртвы, як маска". Загінуў пры выбуху электрастанцыі 14 сакавіка 1943 г. *(Ампилов …С. 78.)*

**Іяахім Лёхбілер (Lochbiller).**

Блокфюрар Лёхбілер прадстаўляў нямецкую адміністрацыю на піўным заводзе, меў інжынерную адукацыю. Быў *"прыстойным чалавекам далёкім ад атрутнай нацысцкай ідэалогіі. Тэрыторыя завода аказалася для нас аазісам. Тут мы жылі і працавалі нармалёва….8 траўня, калі ў гета праводзілася крывавая "акцыя", Іяахім не пусціў на завод эсэсаўцаў, якія хацелі нас забраць. У далейшым яго адправілі на фронт. У 1943 г. на завод прыехаў Іяахім атрымліваць піва для сваёй вайсковай часткі. ¨н папярэдзіў нас, што пагражае смерць і трэба ўцякаць у лес…".*

*"Па прыбыцці ў Нямеччыну ў Бад Райнгоф мы дазналіся, што тут жыве сям'я інжынера Іяахіма, былога "блокфюрара" піваварнага завода. Аказалася, што ён сядзіць у амерыканскай турме, як ваенны злачынец. Мы параіліся з габрэйскімі арганізацыямі і пасля гэтага далі сведкавыя паказанні амерыканскім вайсковым уладам аб яго паводзінах падчас акупацыі ў нас у Лідзе. Неўзабаве пасля гэтага Іяахіма вызвалілі". (Sepher Lida.Tel-Aviv.1970. P. 311-312.)*

**Ханэбэрг.**

На месца Лёхбілера прыслалі Ханэбэрга (Ганэнбэрга). Ханэбэрг быў горшым за Лёхбілера. Буйны, высокі, здаровы мужчына, які прайшоў рускі фронт, *"інвалідам быў, правай рукой не пісаў. Ханэбэрг і яго ад'ютант Мэркаль на завод прыходзілі ў 7 гадзін раніцы. Бралі коней, надзявалі сёдлы і каталіся па Расляках"* (4). Калі ў верасні 1943 г. апошніх лідскіх габрэяў адпраўлялі ў Майданак Ханэбэрг кляўся: *"Клянуся Богам і фюрэрам, што вас перавозяць для працы ў іншым месцы."* (18.)

**Мэркаль.**

Ад'ютант і перакладніца ў Ханэбэрга. *"Яна ў піўной справе цяміла"* (4). ¨й было гадоў 20. Ханэбэрг трымаў яе як палюбоўніцу. Былы рабочы піўзавода Вансевіч назваў яе садысткай па натуры. Сталавіцкая Бэла Львоўна адзывалася пра яе станоўча: *"Я сябравала з Мэркаль, я ёй сяброўкай была. Мэркаль перажыла вайну. Пасля вайны выйшла замуж за майстра піўзавода ў Нямеччыне."* (17).

**Рапальер.**

Прадпрымальнік. Высокі, грузны, з адвіслымі шчокамі сівы немец у веку 60-65 гадоў. Хадзіў у доўгім да самых пят шынялі, на нагах - жоўтыя крагі. Арганізаваў у Лідзе шавецкую, кушнерную і гадзіннікавую майстэрні, швейны і лакафарбавы цэхі, дзе працавалі габрэі з гета. Нядрэнны чалавек. Не крычаў, не збіваў, заплюшчваў вочы на дробныя парушэнні. За яго дабрыню габрэі яму прыносілі падарункі. Да яго прыязджала жонка. Забрала два чамаданы габрэйскага дабра і ўкаціла. Забіты ў Лідзе 8 ліпеня 1944 г. *(Мазо Е. А на том берегу… (река жизни). Мінеаполіс. 2003.)*

**Франц Манэ.**

Камендант шпіталя, доктар, маёр. У пачатку 1944 г. зрабіў аперацыю параненаму пад Філонаўцамі Віктару Дашкевічу "Забаве". Куля спынілася каля аорты і блакавала рухі галавы. Польскія хірургі адмовіліся праводзіць аперацыю. Па просьбе маці Межвы Франц Манэ зрабіў аперацыю і выратаваў Дашкевіча.

**Матэвус Іосіф Лекнэры (Лехнар).**

Обер-лейтэнант, інжынер на аэрадроме. *"Выходзіў у ¨дкі да жыхароў і добра з імі абыходзіўся. Вёў гешэфт, мяняў цыгарэты на прадукты. ¨н будаваў аэрадромы па ўсёй Еўропе. Яго падсачылі Кісялеўскі з хлопцамі, застукалі, узялі, ён не супрацівіўся. Узялі яго ў нейкай хаце, ён пажылы, з сабакам. Абняў сабаку і гаворыць: "Калі мяне хочацце расстраляць, то першым расстраляйце сабаку. ¨н пойдзе і прывядзе людзей". Добра гаварыў па-французску, па-італьянску. Вучыўся ў Парыжы, канчаў Сарбону. Лекар зубны, дантыст. Яго разам з сабакам павезлі ў пушчу, і адправілі ў Маскву на самалёце"* (16).

**Дус.**

Обер- лейтэнант камандзір Першай рускай усходняй эскадрыллі.

**Вэлькар Бранц (Фрыц)**

Яфрэйтар, перакладнік на аэрадроме.

**Тыдо (Радо).**

Дырэктар Лідсельмаша. *"Хадзіў у вайсковай форме, насіў падвойныя акуляры і палку ад памідораў, біў гэтай палкай, аднойчы і мне дасталася."* (11)

**Рыбзадан.**

Кіраўнік Лідскай ячэйкі нацыянал- сацыялістычнай працоўнай партыі Нямеччыны, меў штаб, дзе працавалі 3-4 чалавекі.

**Альфрэд Фрыес "Бэз"**

Оберфельдфебель. Немец 1920 г.н. Бацька яго - кайзераўскі салдат - застаўся ў 1919 г. у Лідзе, ажаніўся на польцы, валодаў электрастанцыяй, калі электрастанцыю нацыяналізавалі, з'ехаў і павёз сына ў Нямеччыну.

Альфрэд скончыў нямецкую школу малодшага афіцэрскага складу. Увосень 1943 г. прыехаў у Ліду да маці на пабыўку з Усходняга фронту і пайшоў у партызаны АК разам з сябрам - радавітым немцам. У складзе 2 батальёна АК удзельнічаў у нападзе на ортскамендатуру ў Стальмахах; у вызваленні 69 зняволеных з Лідскай турмы. Увесну 1944 г. узнагароджаны Крыжам "Валечным". *(Chlebowski C. Reportaz z tamtych dni. 1986.)*

У аповядах і пісьмовых матэрыялах згадваюцца таксама гэбітскамісар Лідскай акругі ў 1944 г. **Артур Гэнінг (Хэнінг)**, начальнік чыгуначнага вузла **Кукелка**, ортскамендант гаўптман **Ляўдэн**, гаўптманы **Майер** і **Гун**, обер-лейтэнант **Рыхтар**, афіцэр паліцыі **Фрыдрых Ленгэн**, лейтэнант жандармерыі **фон Гайдэ (Хайдэ)**, сакратар гэбітскамісарыяту **Адлер**, кіроўца аўтамабіля гэбітскамісарыяту **Адольф Кнірш (Knirsch), Кляйнганс, фон Гагэмайстар, Воньяр, Вільгельм Хоман,**

**Віктар Ягэр (Jaeger)**, начальнік СД **Хоэн**, начальнік СС **Эрляйгэн**, заг. агульнага аддзела гэбітскамісарыяту **Буш**, штурмфюрар **Койцан**, перакладнік **Ньюман**, **Бэкар, Сэльзэнар, Фрохвайн, Зашак (Saschek), Байэрман (Beiermann)**, начальнік лагера ваеннапалонных будаўнікоў **Вільд**, яго намеснік **Бараньяк**, следчы Абвергрупы-307 **Шуба**, перакладнік **Мюлер**, сакратарка **Віндзіша Дэльман (Dellmann)**, кіраўнікі Лідсельмаша **Рудольф Дубіс, Гротэ.**

**Маленькія аповяды пра невядомых немцаў**

**Выпадак 1.**

“Аднойчы на млын з часткі, якая размяшчалася ў Паўднёвым гарадку, зайшоў п’яны нямецкі афіцэр. Запатрабаваў, каб яму тэрмінова выдалі “маладога партызана”, які па яго разуменні тут жыў. Немец, размахваючы пісталетам, настойліва патрабаваў, каб “партызан” з’явіўся перад яго вачамі, а маці Яніны з бабуляй пераконвалі яго ў тым, што партызана тут няма, падліваючы ў шклянку самагонку. Афіцэр, як след напіўшыся, вырашыў пайсці. Не змог пераадолець плот, лёг і заснуў. Малання баялася, што гэта можа скончыцца кепска, і пабегла на цагельню ў Шайбакі, каб салдаты аховы забралі п’янага афіцэра. Ахова на заводзе складалася з бельгійцаў. Яны спачатку адмаўляліся дапамагчы, спасылаючыся на тое, што яны з немцамі не кантактуюць. Але ўсё-такі пайшлі ў двор, дзе ляжаў п’яны афіцэр. Калі бельгійцы ляснулі засаўкай вінтоўкі, немец прачнуўся. Яму здалося, што з’явіліся партызаны. І ён па балоце пабег у бок Шайбакоў, страляючы з свайго пісталета ўверх. Раніцай на млын ізноў прыйшоў той афіцэр з просьбай дапамагчы яму знайсці пісталет, які ён згубіў учора. За страту зброі яму пагражала адпраўка на Ўсходні фронт. Пісталет не знайшлі.” *(Тамашка Яніна Вільгельмаўна.)*

**Выпадак 2.**

“Немцы з бункераў каля чыгуначнага маста цераз Нёман падтрымлівалі чалавечыя адносіны з жыхарамі в. Сялец. Гэта былі ў асноўным франтавікі, якіх адпраўлялі на ахову з мэтай акрыяння. Многіх з іх сілком забралі ў войска, і яны распавядалі аб сваіх сем’ях, паказвалі фота дзяцей, і, калі давяралі, гаварылі “Гітлер капут”. У сакавіку 1944 г. партызан Іван Дубовік забіў немца Паўла, які хадзіў па суседніх вёсках, здабываў яйкі, алей, сыр і краў курэй. Гаспадыні білі яго венікамі за тое, што лазіў па куратніках. І вось гэтага курашчупа Дубовік забіў. Немцы арыштавалі некалькі чалавек у закладнікі. Сялецкія жанчыны сабралі падарункі, аднеслі кменданту бункера, закладнікаў адпусцілі, і ніхто не пацярпеў.” *(Дзікевіч Мікалай Мікалаевіч.)*

**Выпадак 3.**

“Гестапавец сядзеў на крэсле, паклаўшы рукі на стол - спаў. Я выскачыў у акно, маці падала мне пінжак, затым брата. Калі стала брата падымаць - ён запішчаў, яму было 5 гадоў. Яна яму зацiснула рот. Я цягнуся яго забраць, а яна руку трымае. ¨н ізноў запішчаў. Я яго метраў на 20 адцягнуў. У мяне такое ўражанне, што гестапавец мяне адпусціў.” *(Ігнатаў Мікалай Міхайлавіч.)*

**Выпадак 4.**

“На вул. Перамогі аднойчы мяне сустрэў немец, які нарыхтоўваў прадукцыю: “Ком, кіндар” - памыла, шкарпэткі пацыравала. Даў біклажку і талончык, у сталовай мне налілі поўную біклажку супу. Пачала хадзіць прыбіраць. Выпадкова зламала кветачку. ¨н збіў мяне нагамі і зламаў тры рабрыны. Яго забілі - пахаваны на польскіх могілках.” *(Кудаш Яўгенія Баляславаўна.)*

**Выпадак 5.**

“Немцы забралі маці. Прывялі да начальніка гестапа, ён гаварыў па-руску. Яна сказала, што не ведае, дзе муж. Начальнік гестапа даў мацеры дзве булкі хлеба і адпусціў. Выйшла на вуліцу і стала рагатаць з дзвюмя булкамі хлеба. Не ўсе немцы былі подлымі. Простыя салдаты добра ставіліся да мясцовых.” *(Пятрова Лідзія.)*

**Выпадак 6.**

“Мы хадзілі ў лагер, які быў паміж Маладварцовай і Ленінскай. Немцы кожную суботу прыязджалі ў лагер - давалі лагерным дзецям цукеркі. Ідуць немцы, забяжым наперад - прывітаемся, лезе ў кішэнь, шамаціць, цукерак дасць.

Закалолі вяпрука - немцы дазналіся. Прыходзілі ў дзень па 10 раз. Прыйдуць - сядуць - сядзяць. Трэба частаваць. Які там вяпрук быў.” *(Мірановіч Ірына Вікенцьеўна.)*

**Выпадак 7.**

“Аднойчы да Ляшко бандыты лезлі рабаваць, аднаго з іх ён забіў сякерай. Патэлефанавалі немцам, прыехалі немцы ў скуры, у пальчатках. Распыталі, падыходзяць да гаспадара: “Гут, пан, можаш закопваць.” *(Лазоўскі Мікалай Фёдаравіч.)*

**Выпадак 8.**

“Падчас вайны ў Ліду прыязджаў спецыяліст з Нямеччыны, каб разабраць і вывезці арган з Лідскага касцёла. Мая мама заплаціла яму золатам, грошы былі сабраныя сярод надзейных лідскіх людзей. Спецыяліст напісаў дакумент і сам запэўніў у камісарыяце, што арган з-за старасці разабраць немагчыма і ніякай каштоўнасці ён не ўяўляе.” *(Малашкевіч Крыштаф Марцінавіч.)*

**Выпадак 9.**

“Муж - выпівоха, калі моцна напіваўся - біў мяне. У 1942 г. у нашу хату пасялілі немца, які валодаў польскай. Аднойчы ён убачыў у мяне сіняк пад вокам, распытаў, чаму. Я прызналася, муж добры, але калі напіваецца - б’е. Загадаў: “Прынясі 3 літры шнапсу і баханку хлеба”. Увечар пасадзіў мужа насупраць сябе, дастаў пісталет, наліў у тазік самагонкі і накрышыў туды баханку хлеба. Прымусіў гэтую мяшанку есці, мужа рвала, ён прымушаў яго ізноў і ізноў, пакуль той не з’еў

усё. Пасля гэтага муж не піў ніколі. Калі чуў пах самагонкі - выскокваў на вуліцу.” *(Яніна Ўладзіславаўна.)*

**Выпадак 10.**

“Нейкі немец зайшоў у хлеў, які днём быў звычайна адчынены і выйшаў адтуль з нашым дамскім роварам. Мама пачала прасіць немца па-нямецку, каб той не забіраў ровар, бо ён належыць яе дачцы. На здзіўленне, умяшанне мамы скончылася паспяхова, і ровар яшчэ доўгія гады заставаўся ў нашай сям’і.” *(Ярмонт Евгения. В тени замка Гедимина. Ліда. 1995. С. 120.)*

**Выпадак 11.**

“Па дарозе мы нечакана сустрэлі эсэсаўца і страшна спалохаліся. На наша вялікае здзіўленне ён нас не затрымаў. Супакоіў, сказаўшы: “Гэта робяць іншыя”. Папярэдзіў, што надыходзяць цяжкія часы, распавёў пра транспарты з габрэямі, якія ідуць на захад. Параіў уцякаць. Даў нам тры баханкі хлеба і адпусціў. Праз некаторы час пасля гэтай сустрэчы мы дабраліся да лагера камандзіра Бельскага.” *(Sepher Lida.Tel-Aviv.1970. P. 312.)*

**Выказванні:**

“Немцы нас не чапалі. Мы хадзілі ў Ліду, масла, мёд вазілі на продаж. Маркамі плацілі. Быў нямецкі пашпарт, каб я была старэйшай - забралі б у Германію.” *(Новік Феліцыя Бенедыктаўна.)*

“Немцы ў нашай вёсцы Бенявічы нічога дрэннага не зрабілі. Сяляне ездзілі ў Ліду, здавалі збожжа, бульбачку. Ва ўзнагароду за здадзенае давалі рондалі, чаравікі на драўляным хаду з добрай скурай. Мода такая была.” *(Абазоўская Валянціна Ўладзіміраўна.)*

“Немцы не абкладалі ніякімі падаткамі. Давалі збожжа і насенне. За немцамі не пацярпелі.” (*Стралюк Мікалай Мікалаевіч.*)

**Палонныя немцы 1944-45 гг.**

“У ліпені 1944 пайшлі немцы з акружэння пад Менскам. Проста перад дзвярамі зямлянкі з’явіўся нямецкі афіцэр. У нас быў старшына з вінтоўкай, а ў вінтоўцы адзін патрон. Немец яму здаўся. Налавілі чалавек 800-900. Мы насілі ім яду ў зямлянку. Сілаў не было весці гэтых палонных, падарвалі зямлянку. Было гэта ў Пушчы ля р. Бярозы. Там самалёт мог садзіцца. Так, некалькі сотняў чалавек. Падарвалі зямлянку з палоннымі. Прыехалі тры маладыя дзяцюкі і гэты старшына чацвёрты.” *(Анацка Марыя Іосіфаўна).*

Пасля вайны ў Лідзе быў нямецкі лагер, там дзе чыгуначнае дэпо. Я аператыўна абслугоўваў гэты лагер. Яны чысценькія, 2 разы ў месяц у лазні мыліся. Каменданта лагера аднойчы пакаралі, не ўгледзеў - зварылі няякасную рыбу. Я прывёў у міліцыю двух немцаў - печы палілі, пілавалі дровы ў гарадзеле. Прыехаў начальнік кіравання: “Ну, хлопцы, вы паступілі гуманна, але нельга іх тут трымаць”. *(Дзямідаў Валянцін Аляксеевіч.)*

Перад сельгасбазай перад вул. Маркса была крамачка з блокаў. Там жылі палонныя немцы пасля вайны. Побач стаяў трухлявы драўляны будынак - казарма. Іх кожны дзень ганялі на рампу разгружаць вагоны. Яны для дзяцей рабілі цацкі, зайчыкаў, выразалі матылькоў. Фарбавалі і нам прадавалі за баханку хлеба. Было іх пад 100 чалавек. Яны галадалі. Казарма была метраў 50 даўжынёй. Іх ахоўвалі 4 або 5 салдат.

Пад канец вайны туды прыгналі палонных італьянцаў. Ачапілі калючым дротам. “Сакрамента”. Жанчыны супы ў рондалях насілі. Лагер быў з сабакамі, вышкай. У вялікдзень іх пусцілі на вуліцу. *(Бельскі Мікалай Уладзіміравіч.)*

***Валеры Сліўкін.***

**Першакрыніцы:**

**Успаміны, запісаныя ў 1994 -2209 гг.:**

1. Абазоўская Валянціна Ўладзіміраўна, 1918 г.н.
2. Анацка Марыя Іосіфаўна.
3. Бельскі Мікалай Уладзіміравіч, 1931 г.н.
4. Вансевіч Тадэвуш-Казімір Казіміравіч, 1929 г.н.
5. Дзямідаў Валянцін Аляксеевіч, 1917 г.н.
6. Дзікевіч Мікалай Мікалаевіч, 1924 г.н.
7. Ігнатаў Мікалай Міхайлавіч, 1935 г.н.
8. Кудаш Яўгенія Баляславаўна, 1929 г.н
9. Лазоўскі Мікалай Фёдаравіч, (1926-2009).
10. Малашкевіч Крыштаф Марцінавіч.
11. Мікалайчык Фелікс Уладзіслававіч, (1928-2002).
12. Мірановіч Ірына Вікенцьеўна, 1936 г.н.
13. Новік Феліцыя Бенедыктаўна, 1925 г.н.
14. Навапрудская -Лапідус Рут, 1925 г.н.
15. Пятрова Лідзія.
16. Сасноўскі Роберт Юр’евіч, 1916 г.н.
17. Сталавіцкая Бэла Львоўна.
18. Сталавіцкі Міхаіл Львовіч.
19. Стралюк Мікалай Мікалаевіч, 1913 г.н.
20. Тамашка Яніна Вільгельмаўна, 1936 г.н.
21. Яніна Ўладзіславаўна, 1916 г.н.

**Апублікаваныя крыніцы:**

Ампилов В., Смирнов В. В маленьком городе Лиде…Москва, 1962.

Demesek E. The german occupation. // Sepher Lida.Tel-Aviv.1970.

Dramowicz W. Wspomnienia. // Ziemia Lidzka. № 36 s. 11-15

Kupisz W. Bialogwardzista. // Ziemia Lidzka. № 23-24. S. 25;

Мазо Е. А на том берегу… (река жизни). Миннеаполис. 2003

Памяць. Ліда. Лідскі раён. Мінск. 2004. С.192

Ліст Рышарда Казубоўскага. //Ziemia Lidzka. № 25. S. 15.

Chlebowski C. Reportaz z tamtych dni. 1986.

Ньюхаус Ирен. Город Лида, его гражданская администрация и другие ведомства.

Ярмонт Евгения. В тени замка Гедимина. Лида. 1995. с.120.

***Да 100-годдзя з дня нараджэння Ларысы Геніюш***

# Гаварылі аб творчасці і ... наменклатуры

У сярэдзіне 60-х гадоў мінулага стагоддзя журналісцкі лёс закінуў мяне ў Масты. Тут у красавіку 1965 года ў нядаўна зноў утвораным раёне я стаў рэдактарам мясцовай газеты “Зара над Нёманам”. Неўзабаве вакол рэдакцыі згуртавалася група няштатных аўтараў выдання, якія прапаноўвалі ёй для публікацыі свае матэрыялы. У ліку такіх памочнікаў быў і настаўнік Гудзевіцкай школы Алесь Белакоз, непахісны змагар за беларускую мову. Помню, з якой радасцю Алесь Мікалаевіч дзяліўся са мною прыемнай навіной, калі ў Менску выйшла з друку кніга Ларысы Геніюш “Невадам з Нёмана”. А праз некаторы час па запрашэнні А. Белакоза ў Гудзевічы прыехалі літаратары з Гародні на чале з Васілём Быкавым і Ларыса Геніюш з Зэльвы. На той сустрэчы давялося пабыць і мне з жонкай Валянцінай.

Гэта была важная падзея ў жыцці ўскраіннай вёскі Мастоўшчыны. Разам з Васілём Быкавым прыехалі вядомы літаратуразнавец і навуковец Аляксей Пяткевіч, маладыя паэтэсы Данута Бічэль і Вольга Іпатава. Творцы цёпла віталі Ларысу Геніюш. Віншавалі пісьменніцу з выданнем яе паэтычнага зборніка. Тым самым творчасць Ларысы Антонаўны у недалёкім мінулым нявольніцы ГУЛАГу, чалавека, які не прыняў савецкага грамадзянства, усё ж атрымала прызнанне ў тагачаснай дзяржаве. Гэта была свайго роду перамога.

Шчырая говорка, вядома не абмяжоўвалася літаратурным набыткам Л. Геніюш. Гаварылі і аб творах іншых аўтараў і не толькі прысутных. Працягам размовы аб духоўных каштоўнасцях з’явілася наведванне створанага Алесем Белакозам музея. Ларыса Геніюш, як і іншыя госці, ганарылася бясцэннымі музейнымі скарбамі. Потым мы наведалі вясковыя могілкі, дзе пакланіліся магілам сваякоў паэткі і яе землякоў.

Заключная частка сустрэчы адбылася ў прыватным доміку Веры і Алеся Белакозаў. Яны наладзілі для гасцей, як заўважыў Васіль Быкаў, шляхетную і шыкоўную вячэру. У час застолля была прадоўжана шчырая гутарка. Ларыса Антонаўна раптам прыгадала, што



***Сустрэча з пісьменнікамі ў Гудзевічах (Мастоўскі р-н) 14 траўня 1967 г. Праводзілі яе Алесь Белакоз і рэдакцыя раённай газеты “Зара над Нёманам”. На здымку злева направа: Валя Жалкоўская, трэцяя Вольга Іпатава, Аляксей Пяткевіч, Данута Бічэль, Вера Белакоз, Алесь Жалкоўскі; на заднім плане ў цэнтры Васіль Быкаў, Ларыса Геніюш, Алесь Белакоз.***

атрымала недаўна ліст ад Максіма Танка. Кіраўнік Саюза пісьменнікаў, па словах Л. Геніюш, запрашаў яе прыехаць у Менск, абяцаў разам з ёю наведацца ў ЦК партыі да С. Марчалёва, каб прабіць чарговую кнігу пісьменніцы. (С. Марчалёў тады ўзначальваў у ЦК аддзел культуры і курыраваў выдавецтвы). Пачуўшы такое паведамленне, Васіль Уладзіміравіч адказаў рэплікай: “Едзь, едзь да Танка. ¨н цябе зводзіць і да Марчалёва, і да Рудака”, пасля чаго ў некаторых з нашай кампаніі з’явіліся кіслыя ўсмешкі. “А хто такі Рудак?” – запытала пісьменніца. “Адзін з шэфаў беларускага КДБ”, – пачулася ў адказ. Пасля гэтага Ларыса Антонаўна разгублена спыніла размову.

Не ведаю, ці ездзіла Ларыса Геніюш на прапанаваную М. Танкам сустрэчу. Але факт застаецца фактам: пазней у дзяржаўных выдавецтвах выйшлі яшчэ два яе зборнікі паэзіі і дзве паэтычныя кніжкі для дзяцей. Адна з іх пабачыла свет пасля смерці паэтэсы.

Але вернемся на Мастоўшчыну, у склад якой у 1962-1966 гг. уваходзіла частка скасаванага, а пазней аднаўленага Зэльвенскага раёна. Натуральна, жыццё далучанага рэгіёна асвятляла мастоўская “Зара над Нёманам”.

З рэдакцыяй плённа супрацоўнічаў старшакласнік Зэльвенскай СШ Юрка Голуб. Мы атрымлівалі допісы ад настаўніка Дзярэчынскай школы Пятра Марціноўскага, рускамоўнага паэта з Ваўкавыска Івана Юшчанкі. Гэтыя і іншыя аўтары высока ацэньвалі творчасць Ларысы Геніюш і віталі яе публікацыі Зямляк паэтэсы П. Марціноўскі , будучы на пенсіі, напісаў пра пісьменніцу ўспаміны.

Апошні раз я сустракаўся з Ларысай Геніюш вясною 1968 года. З карэспандэнтам раённага радыёвяшчання Аляксеем Галаўнёвым мы былі ў камандзіроўцы ў недалёкіх ад Зэльвы мастоўскіх калгасах і завіталі ў драўляную хатку Геніюшаў. Тады мне пісьменніца ўчыніла на кнізе “Невадам з Нёмана” аўтограф, у якім выказала надзею на маю вернасць зямлі беларускай. Гэты зборнік много перададзены Лідскаму гістарычна-мастацкаму музею для экспазіцыі ў яго літаратурныя філіяле.







*Рукою Ларысы Геніюш напісана:*

**“Зельва, 26/III 68 г. Сёння ў хаце сваёй старой беларускай падпісваю гэту кнігу Алесю Жалкоўскаму з павагай і надзеяй на яго вернасць Зямлі беларускай. Аўтарка.”**

*Гэты аўтограф, напісаны амаль што ў дзень 50-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі, грамадзянкай якой Ларыса Геніюш заставалася да канца жыцця, публікуецца ўпершыню.*

Напрыканцы лічу неабходным сказаць пра добрае ўражанне, якое засталося ў маёй душы пасля нядаўняй паездкі ў Зэльву на ўрачыстасці з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння Ларысы Геніюш. Мне прыемна было бачыць там прыхільнікаў яе паэзіі з Менска і Гародні, Беластока і Ліды, Баранавіч, Гомеля, Ганцавіч і іншых мясцін. Успамінаючы змястоўную праграму юбілейных імпрэзаў, з пачуццём гонару ўслед за ўдзельнікамі тых незабыўных сустрэч вымаўляем святыя словы “ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!”

***Алесь Жалкоўскі,*** *г. Ліда.*

*Алесь Хітрун*

# БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ЭПАС ЛІДЧЫНЫ: МАТЫВЫ І ВОБРАЗЫ

## УСТУП

Актыўнае збіранне фальклорных і этнаграфічных матэрыялаў пачынаецца ў Беларусі з часу заснавання ў Пецярбургу ў 1845г. Ру скага геаграфічнага таварыства. Праграма этнаграфічнага раздзела гэтага таварыства, распрацаваная ў 1847-1848 гг., была разаслана і ў беларускія губерні. Яна вызначала змест па выкананні работ этнаграфіі і фальклору. У 1853-1858 гг. з гэтай мэтай выходзіў "Этнаграфічны зборнік", у якім быў змешчаны артыкул І. Юркевіча "Астрынскі прыход Віленскай губерні Лідскага павету".

Багаты Лідскі край на вусную народную творчасць, абрады і звычаі. Уласціва Лідчыне і збіранне духоўнага скарбу дзеля передачы ў культурную спадчыну нашчадкам. Вядома, што ў канцы 1880 года па Лідчыне вандравалі людзі, якія збіралі народныя песні, абрады, запісвалі іх з адзінай мэтай - данесці скарбніцу народнай творчасці да будучых пакаленняў. Багацці матэрыяльнай і духоўнай культуры жыхароў Лідскага павету ў канцы XIX стагоддзя збіралі ў асноўным тры этнографы і краязнаўцы: Вандалін Шукевіч (1852 - 1919), Уладзіслаў Вярыга (1868 - 1916) і Амелія Даравінская (Бірута) (1863-1891).

У фальклорнай спадчыне Шукевіча вядома этнаграфічная праца"Некаторыя вераванні, прымхі і забабоны нашага норода, легенды і паданні" (змяшчае 15 легенд і паданняў, у якіх расказваецца пра каралеву Бону, пра ваенныя дзеянні з татарамі, шведамі, французамі і інш., 159 вераванняў і прымхаў).

На народным эпасе па фальклорных сюжэтах былі напісаны Бірутай паданні "Сосны ў Лідзе", "Пра касцёл святой Ганны ў Вільні", "Паданне пра Пілакальскую гару".

У канцы XIX - пачатку XX ст. некалькі публікацый беларускіх твораў апавядальных жанраў з'явіліся ў польскім друку. Яны належалі Я. Карловічу, У. Вярыгу, Э. Кліху, О. Кольбергу, М. Федароўскаму. У 1887 г. была апублікавана праца вядомага даследчыка, выдаўца часопіса "Вісла" Я. Карловіча, у якой змешчана звыш 80 твораў, запісаных пераважна ў Віленскай і Менскай губернях. Самы вялікі збор беларускіх казак і паданняў, запісаных у Наваградскім і Лідскім паветах, Карловіч апублікаваў у 1887-1888 гг. у "Народных паданнях і казках, сабраных у Літве".

У 1889 г. у Львове быў выдадзены зборнік У. Вярыгі з вялікай прадмовай Я. Карловіча, які асноўную ўвагу сканцэнтраваў на характарыстыцы асаблівасцей беларускай мовы, параўноўваючы яе з рускай і ўкраінскай. Усяго твораў 23, а не 33, як указвае С. Саўчанка, друкуюцца лацінкай з захаваннем асаблівасцей мясцовай гаворкі - ваколіц Новага Двара і Астрыны Лідскага пав. Між іншым, у зборніку У. Вярыгі пераважаюць чарадзейныя казкі розных сюжэтных тыпаў, асобныя творы кантамінаваныя.

На мяжы XIX-XX стст. былі апублікаваны тры тамы аднаго з найбуйнейшых у гісторыі беларускай фалькларыстыкі збораў вуснапаэтычнай творчасці - шматтомнага выдання М. Федароўскага "Люд беларускі". Адзін з тамоў меў падзагаловак "Вера, вераванні і забабоны люду з аколіц Ваўкавыска, Слоніма, Ліды і Сакулкі", які ў пэўнай ступені вызначыў мэты збіральніка і характар матэрыялаў тома: яны павінны былі адлюстроўваць духоўнае жыццё людзей, асаблівасці іх светапогляду, стаўленне да рэлігіі, уяўленні пра Бога, чорта, розных духаў і г.д. У гэтым томе пранумаравана 2835 тэкстаў, сярод якіх толькі нязначная частка (каля сотні тэкстаў) можа быць аднесена да казак, анекдотаў, паданняў і легенд.

Збор народнай спадчыны - эпасу Лідчыны даволі багаты. На шчасце нашчадкаў шматвекавы сацыяльны і нацыянальны прыгнёт не выкараніў у лідзян пачуцця нацыянальнай годнасці, да канца не размыў іх нацыянальную свядомасць. Безумоўна, страт было многа, і на развіццё традыцыйнай культуры быў зроблены адмоўны ўплыў, але народ адстаяў сваё месца ў гісторыі. Вышэй узгаданыя матэрыялы, артыкулы, нататкі толькі захоўваюць памяць, як нацыянальную культуру. Але ж даследаванне ацалелай спадчыны практычна не праводзілася, ці па крайняй меры даследчыя працы ў параўнальна шырокім коле адукаванага грамадства не дастаткова распаўсюдзіліся, ці, на жаль, не захаваліся, перашкодай чаму была цэнзура.

Неабыякава адносяцца да вусна-народнай творчасці і ў наш час. Бытаванне фальклору на Лідчыне не адыходзіць у нябыт. У пацвярджэнне гэтаму можна прывесці ў прыклад выхад новых твораў, у аснову якіх пакладзены фальклорныя сюжэты з асноўнай адзнакай вуснай народнай творчасці - варыянтнасці. Доказам паслужыў зборнік вершаў "Мой любы горад Ліда", выдадзены Лідскай цэнтральнай раённай бібліятэкай імя Янкі Купалы ў 2008 годзе. Празаічны варыянт таксама не затухае, доказам яму служыць выдадзезная ў Гародні кніга "Міфы і легенды: ад Нёмана да Буга", у якую ўвайшло каля 30 літаратурна апрацаваных аўтарскіх легенд на фальклорныя сюжэты. Багатымі зборамі вусна - народнай творчасці з'яўляецца кніга "Гродзеншчына ў легендах і паданнях" складальніка А. Ненадаўца, а таксама "Беларускі фальклор Гродзеншчыны: народны эпас, замовы, варажба" складальніка Р. Казлоўскага.

Тым, што Заходняя Беларусь - край з цікавымі народнымі гісторыямі, якія бытуюць у народзе перада-

ючыся з пакалення ў пакаленне ўпэўніўся сам аўтар гэтай працы, сабраўшы вялікую колькасць (каля 20!) матэрыялаў народнай спадчыны на тэрыторыі Лідскага раёна, а таксама змясціўшы свае знаходкі ў “Лідскай газеце”: “А было гэта так...”, і “Яе называлі і Крупеня. Чаму?”

**ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ ЛІДЧЫНЫ: ІДЭЙНА-ТЭМАТЫЧНЫ ЗМЕСТ І ВОБРАЗЫ**

На Лідчыне добра вядомы легенды і паданні пра горад Ліду і ўзнікненне рачулкі Лідзейкі. Але ў народзе распаўсюджана мноства варыянтаў такога ж вуснага празаічнага апавядання. Адны з іх гістарычнага, а іншыя - мясцовага тыпу.

Вобраз прыгажуні - дзяўчыны Ліды ўвабраў у сябе легендарныя рысы, навечна адбіўшыся ў сэрцы народа, і знайшоў шырокае адлюстраванне ў мастацкай літаратуры мясцовых майстроў прыгожага пісьменства.

Фальклор - гэта творчасць, якая ствараецца калектыўна. Але ж пазней, калі матыў і тэма твора распаўсюдзіліся ў народзе, з калектыву вылучыліся асобныя таленавітыя творцы, якія не толькі дадалі творам новыя вобразы, матывы, канкрэтныя абставіны і ўмовы, але прыдалі адшліфаванасць, падпарадкаванне эстэтычным густам слухачоў. Адбыўся творчы працэс калектыўнай апрацоўкі. Так і ўзніклі шматлікія варыянты фальклорных жанраў.

Існуюць розныя пункты погляду пра ўзнікненне горада Ліда. Прагматычныя ж гісторыкі сцвярджаюць што назва горада мае балцкае паходжанне, а славянскі адпаведнік “ляда” азначае “высечка, участак, раскарчаваны ад лесу”. Лес тут, сапраўды быў вялікім, а яшчэ наваколле атачалі непраходныя балоты. Уласна кажучы, гэтым і можна патлумачыць рашэнне таго ж Гедзіміна будаваць у міжрэччы Лідзейкі і Каменкі замак - уявіць лепшыя перашкоды для шматлікіх крыжацкіх паходаў у цэнтральную Беларусь здавалася немагчымым.

Адна з легенд распавядае так: *“Прыйшоў князь на тую зямлю, дзе цяпер Ліда стаіць. У самым цэнтры пабудаваў вялікі замак прыгожы. Пачаў князь думаць, як яму свой горад назваць. А была ў яго дачка Ліда. Вось і вырашыў назваць ён горад так, у гонар сваёй дачкі - Лідай”* [5, с. 70].

Варта заўважаць, што спробы “звязаць” назву гэтага горада з вядомым жаночым імем будуць марнымі. Насуперак вышэй пададзенаму аповеду аб заснаванні месца ў гонар дачкі князя Гедзіміна, усё выглядае больш празаічна. Некаторыя з легенд раскрываюць назву іншым сюжэтам - пра замураваную дачку князя Гедзіміна Ліду, імем якой быццам бы названы горад. Гэтая гіпотэза з’явілася ў часы Расійскай імперыі. Але ж ... у Гедзіміна не было дачок па імені Ліда, тым больш не стаў бы ён забіваць сваю дачку. Ды і наогул, спачатку пакрыўдзіцца - разгневацца - забіць, а пасля назваць горад імем распуснай дачкі - неверагодна! А па язычаскіх вераваннях, забойства і пралітая кроў, тым больш родная, паганіць зямлю (на такой зямлі ўжо нельга нічога будаваць).

У важным для эпасу Лідчыны пытанні пра паходжанне назвы горада характэрна арыентацыя на гістарычныя факты, абставіны якія адраджаюцца праз фальклорную “падпітку”, запазычваючы не толькі вобразы і сімвалы, але і жанравыя формы. Вялікі ўплыў аказалі легенды, у якіх на першы план вылучаюцца рамантычныя матывы: каханне, звычайна трагічнае, ахвяраванне ўласным жыццём у імя людзей, дзеля шчасця свайго і шчасця Радзімы. Тут і вобразы лютых паноў, і ліхадзеяў, і сялянскіх хлопцаў, і прыгажунь дзяўчат.

Адна з легенд, між іншым, разгортваецца ў іншай кампазіцыі, але з захаваннем прыродна-ландшафтнага зместу. У аснову сюжэту ляглі міфалагічныя элементы казачнага характару.

*У адной невялічкай вёсцы, якая тулілася на беразе безыменнай рэчкі, сярод густога - густога лесу, жыла дзяўчына - сірата Лідзея (Лідзейка). Закахалася яна ў хлопца Андрэя, які аказаўся на самай справе нячысцікам. Каб вызваліцца ад яго, дзяўчына акрапіла каплічку, дзе ён хаваўся, чароўным узварам. Хлопец ператварыўся ў нячысціка і памёр, але Лідзея ад убачанага спалохалася і пабегла не ў бок вёскі, а ў супрацьлеглы. Па дарозе азірнулася, упала ў палонку і адразу захлынулася. З таго часу мясцовыя жыхары пачалі зваць рэчку Лідзеяй (Лідзейкай), а ўзнікшае пазней паселішча - Лідай.*

Як ужо заўважана, што гэты твор ужо з самага пачатку робіць заяўку на тое, што ён фальклорнага тыпу: *“Зімой да позняй восені ў бабулінай хаціне хлопцы ды дзяўчаты наладжвалі вячоркі”* ...[6, с. 244]. Шмат сюжэтных момантаў апісваецца з боку казачна-фантастычнага ўяўлення. У першую чаргу сама бабуля прадстаўлена нібы чараўніцай, якая ўручае дзяўчыне клубок чорных нітак, што паказвае дарогу да жытла каханага. Ды яшчэ гэтыя чароўныя ніткі клубка - “*нібы кій, якім можна было і абараніцца ў выпадку чаго*”. Калі бабуля ў хаце - ніякі чорт не палезе.

Далей усплывае эпізод з міфалагічнай вобразнасцю. *“Нечакана з цемры паўсталі вялікі крыж, а за ім драўляная каплічка, якую звычайна ўзводзяць на могілках сяляне, каб там пазваніць у звон, калі нябожчыка хаваюць, ці яшчэ якую нагоду справіць...”* [6, с. 247]. Калі гэтае невялічкае знешняе апісанне першапачаткова надае будынку рэальныя ўспрыманні, то пасля ўбачанага вачыма гераіні ўнутранае “абсталяванне” прыводзіць да супрацьлеглых уражанняў з боку фантастычна-міфічнай умоўнасці. *“Калі святло выхапіла з цемры сцены і куты невялічкай будыніны, то дзяўчыне ажно галаву закружыла - з усіх бакоў на яе пазіралі, страшна ашчырэўшыся, чарапы. Іх было многа, можа, пяць дзесяткаў, а можа, і сотня. Як ламанула Лідзея адтуль бегчы, то толькі вецер у вушах засвістаў”* [6, с. 247].

Выразна апісана магічнае дзеянне як сродак анімістычнага светапогляду да навакольнай рэчаіснасці, бачыцца магічнае маніпуляцыйнае ўздзеянне знахара, як вера ў чараўніцтва - зжыць нячысціка. *“Дам табе пару карэнняў вялікіх, пару голек кусцікаў..., ды ўсякіх зёлак. Звары... на малым агні ў трох водах. Злі вар у пасудзіны, астудзі, перамяшай... Дачакайся, калі*

*заспявае трэці певень, і ў той самы момант пакрапі жытло нячысціка... Нельга спачуваць нячысціку, бо канаць ён будзе ў чалавечым абліччы."* [120, с. 248-249].

Выкананы магічны абрад Лідзеяй з прытрымліваннем парады чарадзея паказаў праўдзівасць яго сілы выконвальнікам і яшчэ адну з характэрных міфалагічных рысаў першабытнага мыслення - татэмізм - веру ў пэрэваратня. *"Ішоў ён невясёлы, але спяшаўся, бо крык пеўня для яго быў, што смерць. Ухапіўся за клямку і адразу ж закрычаў: А - а - а! Высачыла! Да смерці мяне давяла! - і тут у таго, хто зваўся Андрэем, вопратка з плеч апала і валасістая шкура праглянула. Спалохалася Лідзея... і пабегла не ў той бок вёскі, а ў супрацьлеглы, а галоўнае - азірнулася. А гэтага нельга было рабіць! Не паспела яна пад ногі глянуць і шуснула ў палонку..., захлынулася адразу"* [6, с. 249-250]. Вынік магічнага абраду пашкодзіў магчымаму яшчэ "не спеламу" каханню паміж двума героямі, і дзякуючы яму не адбыўся вясельны абрад.

Легенда, як мы бачым, пабудавана на шматлікіх асаблівасцях мастацкіх сродкаў з захаваннем усталяваных эпізодаў, пэўных папулярных герояў, як гістарычнага, так і казачна-міфічнага эпасу з такой жа вобразнасцю. Тут можна вылучыць з сюжэтнай лініі мастацкі метад як метад рамантычнага тыпу з паказам выдумкі (чароўны клубок нітак, незвычайнае асяроддзе - каплічка з адмоўнымі з'явамі рэлігійнасці), ацэнка герояў і з'яў рэзка даецца супрацьлеглая: станоўчасць і адмоўнасць. Заўважаецца гэта нават у эпізодзе: *"...Спачатку хлапчына кіраваў на суседнюю вёсачку, якая таксама ў лесе знаходзілася, але праз колькі крокаў нітачка пацягнула зусім у адваротны бок, туды, дзе раскінулася Гнілое балота, а на выспе, не даходзячы блізка да яго ляжалі вясковыя магілкі..."* [6, с. 247]. З гэтага моманту і пачынаецца супрацьлеглы і адмоўны паказ тэкста. Пасля ўжо мы бачым што са станоўчага героя - хлопца Андрэя - ўтвараецца адмоўны герой - нячысцік - пярэварацень. Ды і само асяроддзе падаецца як мяжа - пераход з "белага свету" у іншасвет: станоўчае ў адмоўнае. Адмоўны бок не даў магчымасці перайсці гераіні Лідзейцы ў станоўчы: ад сполаху яна пераблытала дарогу - пабегла ў супрацьлеглы бок вёскі з трагічным вынікам.

Найвялікшае пачуццё чалавека — каханне з'яўляецца нейкім выпрабаваннем часу ў дасягненні пастаўленай мэты. У названым творы адлюстравана каханне, за маскай якога знаходзіцца рэзка адмоўны фактар, які раскрываецца ў жорсткім абліччы, быццам бы закаханага героя Андрэя. Важнай жыццёвай адзнакай вылучаецца асабістае ахвяраванне сваім жыццём гераіні з мэтай знішчыць жорсткасць. Тое, што іншасветныя чарадзейныя сілы мацнейшыя за яўныя чалавечыя паказаны ў творы ў адваротным кірунку. Смеласць і рашучасць прыдаюць пераможнасць нават у сітуацыі пры сутыкненні слабога (дзяўчыны) з моцным (пярэваратнем). У творы праяўляецца матываванае імкненне да справядлівасці, якая адраджаецца пры дасягненні перамогі над адмоўнымі сіламі сацыяльнага жыцця.

А пра тое, як неасцярожна паступаюць некаторыя даследчыкі, адносячы да легендаў, г.зн. да фальклору, наватворы пад фольк сучасных аўтараў сведчыць уключэнне ў кнігу "Міфы і легенды: ад Нёмана да Буга", твора "Арлінае гняздо" лідзяніна С. Бэркуса. У сваім творы С. Бэркус звязвае імя язычаскага жраца часоў Гедзіміна Ліздзейкі з назвай рэчкі Лідзейка і назвай горада Ліда.

Паданне пра тое, як Гедзімін знайшоў хлопчыка ў арліным гняздзе і назваў яго Ліздзейкам запісана ў "Кроніцы..." Мацея Стрыйкоўскага, якая выйшла ў 1582 годзе. Але ніхто на працягу больш, чым 400 гадоў не звязваў Ліздзейку з Лідай. Гэта зрабіў Станіслаў Суднік у вершы Ліздзейка з-над Лідзейкі, апублікаваным на вокладцы часопіса "Лідскі летапісец" № 1 (21) за студзень-сакавік 2003 года.

## ЛІЗДЗЕЙКА З-НАД ЛІДЗЕЙКІ

*Аднойчы на паляванні князь Гедзімін знайшоў у арліным гняздзе малога хлопчыка. Яго назвалі Ліздзейкам. (Lizdas па-балцку - гняздо). Пазней Ліздзейка стаў галоўным вешчуном ВКЛ. Зусім верагодна, што назва горада Ліда паходзіць ад гэтага слова Lizdas.*

Раз у пушчу, за даліну
На краі Дайновы
Почат князя Гедзіміна
Выехаў на ловы.

І на дубе, на высокім,
Між крывых галінаў
Нешта ім упала ў вока
На гняздзе арліным.

Князь паслаў туды пахолка,
І ён з дуба тога
Ўніз даставіў спрытна-лоўка
Хлопчыка малога.

- Бачыш ты, як ён высока
Ўжо "ўзляцеў" з радзінаў,
Будзе шлях яму далёкі
Побач з Гедзімінам...

А з таго, што на гняздзе тым
Хлопца адшукалі,
Імя годнае Ліздзейка
Ўраз яму надалі.

І мясціну тую Ліздай
Нараклі адразу,
Праз гады тут стане Ліда
З вышняй волі князя.

А пасля пачнуць калейкай
Баяць казкі людзі...
... Пра Ліздзейку з-над Лідзейкі
Згадкі ў іх не будзе.

Гэты верш ніякім чынам не прэтэндуе на фальклорнасць, ці легендарнасць. Паэтычная версія легендарнай падзеі, і ўсё.

Але 5 студзеня 2008 года фактычна гэты верш у празаічным пераказе з'яўляецца пад назвай "Легенда пра Ліду" ў газеце "Принеманские вести" за подпісам Т. Асіпенкі і С. Бэркуса. Гэта першая версія "Арлінага гнязда" С. Бэркуса. Такім чынам у кнігу "Міфы і легенды: ад Нёмана да Буга" ўключылі легенду, якой ажно **два** гады.

Наступная легенда "Бярозаўка" Аляксея Ненадаўца быццам бы раскрывае сакрэты паходжання назвы паселішча - аднаіменнага горада Бярозаўка.

*"Некалі нашы продкі пакланяліся паганскім багам. Многа іх было, і буйных, і дробных, адным словам на ўсе выпадкі жыцця. Чалавек выбіраўся ў лес — маліўся таму Богу, які апекаваў над лесам і ляснымі звярамі, каб добра ўсё у гэты дзень атрымалася, каб не было ніякіх ліхіх здарэнняў. Выпраўляўся на рыбалку - адпаведна маліўся Богу вады, каб той ненарокам не раззлаваўся і не забраў яго ў падводнае царства. Так і жылі, так і пакланяліся... Але прыспелі новыя часы, і паўсюдна пачалі ўводзіць новую веру - хрысціянскую... Першым князь са сваёй сям'ёй стаў праваслаўным, затым яго прыбліжаныя пачалі новаму Богу маліцца, а ўжо потым сталі астатніх прымушаць у цэрквы да ў храмы хадзіць, на каленях стаяць і Усявышняму паклоны адбіваць..."*[10, с.252]

Гаспадаром гэтай зямлі быў вяльможны княжацкі ваявода, які толькі жорстка і прымушаў людзей каб насілі на шыі крыжык ды ўсе з іх ад вялікага да малога былі ахрышчаны ў праваслаўнай царкве. Але аднойчы ваяводу прынёс пасланец вестку, што непадалёку ад яго замка жыве яшчэ чалавек, які прытрымліваецца паганскай веры і лечыць людзей ад усялякіх хвароб. Па загаду ваяводы гэтага паганца - лекара даставілі ў замак. Прычыну ў веру старадаўняга паганства бядняк прамовіў так: *"Я пакланяюся тым багам, якіх мае бацькі і дзяды прызнавалі. І нікога я не баюся, бо нікога не забіваў, нічога не краў... Людзей вылечваў нямоглых, але платы ніколі не браў"* [10, с. 252].

Тое што праўдзіва высказаўся бедны лекар, падцвярдзіў стары дзесяцкі. Гэта яшчэ больш узлавала ваяводу, але ўсё ж з гневам адпусціўшы старога, загадаў бедняку каб той кідаў паганскую веру. А ён зноў аўказаў: "*Смерці я не баюся, бо пасля смерці цела прарасце мая душа. Яна не адляціць на неба, яна застанецца тут, на зямлі, і прарасце белай бярозай, бо ніколі я не рабіў людзям благога. Ты таксама не трапіш на той свет — асінай гнуткай і гнілой пасля скону станеш..."* [10, с. 254].

Здарылася бяда - у ваяводы моцна захварэў адзіны сын, хваробу яго вылячыць не мог ніхто. Напомнілі гаспадару пра тога лекара, якога хацеў калісьці ён пакараць. Не адмовіў яму той бядняк - лекар. Хлопец праз нейкі час вылечыўся на радасць і шчасце бацькі.

Расчулены ваявода, ведаючы што цудадзейны лекар за сваю працу грошай не бярэ, загадаў слугам на тым месцы дзе жыў бядняк пасадзіць шмат бярозак: *"Хай яны нагадваюць пра таго вешчуна і ягоных землякоў, якія яны светлыя і чыстыя душою..."* [10, с. 256].

Адзіным слабым месцам гэтай легенды з'яўляецца тое, што гэта - таксама літаратурны твор. Ніхто ніколі такой легенды не чуў і не расказваў. А сама Бярозаўка мае назву ад бярозавага гаю ў маёнтку Астроўна, у якім у 1896-98 гадах размясцілася новая гута А.Ф. Квяцінскага і К.

Гэтую легенду можна прышпіліць да любога бярозавага гаю, да вёскі з глыбокай і цмянай гісторыяй, але прышпіляць да населенага пункта з гісторыяй у 125 гадоў - не карэктна.

Тапанімічнае паходжанне вёскі Крупава з аднаіменнай легенды мае цікавы сюжэт, які вызначаецца выразным сацыяльным матывам і апяваецца каханнем.

Аснова твора пабудавана на раскрыцці вобраза аднаго з герояў твора. Крупеня - хлопец з заможнай сям'і, якая была самай адметнай у паселішчы, мела неблагі запас грошай з сялянскіх прыбыткаў, дзякуючы багатаму кавалку зямлі і вятраку. А сам Крупеня быў адзіным сынам у сям'і, ды пры гэтым вельмі хітрым і што галоўнае, ахвочым да жанчын. Спадабалася яму мясцовая, непрыгожая і незадаволеная жыццём Гэлька, з якой вырашыў ажаніцца. Але яго бацькі не далі згоды жаніцца з гэтай дзяўчынай, маўляў, толькі не з ёй. Варагаванне з паўгода з бацькамі прымусіла іх даць згоду. Але супраць гэтага была сама Гэлька, казала сваім бацькам, што калі выдадуць за яго замуж, то ўтопіцца. У час сватання ў садзе сустрэлася Гэлька з яе каханым Іванам, які і сказаў каб яна выходзіла за Крупеню - за багацейшага, чым ён сам. Але ж дзіця яна хацела мець ад Івана, для чаго і знайшлі месца ў лазенцы. Даведаўшыся пра гэта, Крупеня падпаліў будынак і ўцёк... Пажар не стрымалі, а маладую пару выпусцілі. Агонь спаліў усю вёску. Крупеню выгналі з паселішча, яго бацькі памерлі. А вёску, якая аднавілася з уцалеўшай лазенькі назвалі Крупенева, а пасля Крупава.

Увесь твор праходзіць у рамантычна-традыцыйнай абмалёўцы, у супярэчнасці ўсіх герояў, з іхнімі эвалюцыйнымі светапоглядамі на навакольнае асяроддзе. Амаль уся кампазіцыйнасць пабудавана на гнеўным пратэсце супраць непаразумення дзейных асоб. Гэтае адлюстраванне праяўляецца і ў наш час.

Вобраз галоўнай дзейнай асобы - Крупені, раскрываецца ў псіхалагічнай характарысхцы і разам з тым з адмоўным супрацьпастаўленнем: *"Сам з сябе нічога такі ўрадзіўся: высокі, плячысты, не асілак, але і не слабы, калі трэба было за сябе пастаяць ці дзе якую справу кулаком даказаць, то і гэта мог зрабіць без чужой дапамогі;... урадзіўся хітрым і надта жвавым, а ўжо такі падкі да жанчын быў, што і бацькі не ведалі, у каго ён пайшоў..."* [10, с. 256].

Вобраз хлопца ў легендзе не ідэалізаваны. ¨н малюецца несправядлівым, жорсткім і дэспатычным: *"Узяў здаравеннае палена, падпёр ціхенька дзверы і падпаліў лазеньку, а сам адбегся да Гэльчынай хаты"*. [10, с. 258].

Паказаны незразумелыя адносіны хлопца да

дзяўчыны: *“Была яна зусім непрыгожая, дробненькая, змізарнелая, здавалася, што яе нехта пастаянна крыўдзіў, ... была вечна незадаволена і жыццём, і тым, што адбывалася навокал...”* [10, с. 256].

Але перад бядой - непажаданым замуствам - ціхасць Гэлькі (*“сядзела сабе ціхенька, і нельга было зразумець ці радуецца яна, ці пра нешта іншае думае...”*) пераходзіць у пратэстны стан (*“упала перад сваімі бацькамі на калені і запрасілася..., пачала галасіць, валасы на галаве рваць...”*).

Апісанне знешнасці і ўнутранага стану герояў, супрацьлегласць характараў - вобразаў, іх станоўчасць і адмоўнасць вызначаюць мастацкі метад фальклору рамантычнага кірунку.

У творы ўздымаецца праблема недружалюбнасці, непаразумення ў сямейным асяроддзі, дастатковасць і непрымушанасць пылкага чалавечага пачуцця, якое прыходзіць як ратаванне ад гэтага непаразумення.

Аднак і пра гэтую легенду мы можам сказаць, што яна не тутэйшага паходжання і, калі пра Крупава, то не пра лідскае, бо кожнаму вядома, назвы Крупеня вёска ніколі не насіла. Спрадвечная назва вёскі - Крупа, якая выводзіцца ад імені баярына Крупаса.

Наступнае паданне - паходжанне вёскі Лідскага раёна - Моцевічы будуецца ў іранічным кантэксце на вобразе станоўчага героя Мацея. Ужо ў пачатку твор раскрываецца ў гумарыстычных элементах у спалучэнне з слоўным майстэрствам.

*“Ад Мацея, які некалі жыў тут, пайшла назва вёскі. Такі ўжо штукар быў, што людзі яго з замілаваннем згадваюць. А калі хто якую штуку выкіне, то і зараз скажуць: Няйначай Мацеевы ўнукі пастараліся, іншыя да гэтага не дадумаліся б”* [10, с. 264].

Штукарствы Мацея - высмейванне, нечаканае раскрыццё вобразнасці - выказвання той ці іншай асобы паказаны на працягу ўсяго твора.

У нечаканым становішчы аказаўся сусед, якога за працу гаспадары вырашылі пачаставаць смачным абедам. Пакуль з ім былі гаспадары, то паесці яшчэ змог, а калі выйшлі, то і “лыжку да рота так і не данёс”. А “дзякуючы” гэта гаспадароваму сыну Мацейку, які вызначыўся слоўным падколам: *“—Ты дзядзька, есці еш, але не забывайся пра тое, што і мне пакінуць трэба. Ды не самага горшага і не таго, што сам ужо паспрабаваў...”* [10, с. 264].

Разгублены мужчына так і застаўся не паеўшы і не прызнаўся гаспадарам, у чым прычына адмаўлення ад яды. У наступным штукарстве Мацей паказаны як спрытны жартаўнік - селянін, высмейвальшчык багатых і бацюшкі.

Аднойчы штукар украў у бацюшкі “двух самых лепшых коней” і прадаў іх цыганам. У выніку *“у вёсцы перапалох: гамана, крыкі, матушка плача, валасы гатова на сабе рваць, а бацюшка напіўся з раніцы...”* [10, с. 265]. А Мацей адляжаўшыся ад добрага падпітку вырашыў пасмяяцца над бацюшкам і замаліць свой грэх - кражу ў яго самога (бацюшкі) коней. “У бацюшкі ледзьве вочы не павылазілі” ад пачутага, але каб грэх сышоў з душы, святар прапанаваў Мацею прызнацца аб гэтым пры ўсім народзе ў самой царкве пасля малебна. Бацюшка дачакаўшыся гэтага дня “задаволена нешта спяваў, не вельмі падобнае на божыя малітвы”, папярэдзіўшы сялян аб выступленні Мацея пасля малебна, маўляў, што ўсё “што скажа ваш аднавясковец, чыстая праўда!” Гэтыя словы яшчэ больш прыдалі смаку для выхадкі Мацею, ён і прамовіў: “Усе дзеці ў нашай вёсцы, якія рыжыя - гэта бацюшкава работа” [10, с. 266].

Калі вобраз, які створаны ў мастацкай творчасці з’яўляецца тыпазаваным, то тут характэрная сатырычна-гумарыстычная форма фальклорнай тыпізацыі з яе ironіяй. Вобраз Мацея як станоўчага героя паказаны ў абліччы простага селяніна, смелага, упэўненага ў сваіх учынках над ашуканцам - бацюшкам. Мацей, лічачы бацюшку, як і пана - багацея несумленным чалавекам, паказаў яго з негатыўна-адмоўнага боку, у камічным выглядзе (“матушка валасы рвала”, “бацюшка напіўся з раніцы”, “бацюшка спяваў не божыя малітвы”). Дасціпны сялянскі гумар, антыклірыкальнасць знешне набліжаецца да казачнага эпасу, што характэрна ў абмалёўцы сатырычнай казкі. Тут станоўчы герой вабіць сваёй смеласцю, рашучасцю, розумам, непрымірымасцю да несправядлівасці. Адмоўны персанаж створаны шляхам раскрыцця неадпаведнасці паміж вонкавай веліччу і ўнутранай нікчэмнасцю.

Географа-тапанімічныя легенды звычайна прымеркаваны да пэўных урочышчаў, рэчак і азёр і з дапамогай паэтычнай выдумкі, умоўнасці тлумачыць іх паходжанне, паходжанне назваў. Узнёсласць, уласцівая легендам, выяўлена ў творы “Крыніца” [10, с.258-261]. Тут характэрна яшчэ і такая асаблівасць, як прыкрасць, што затуляе прыгажосць і дабрадзейнасць зместу прыроднага асяроддзя. Легенда пра крынічку толькі з самага пачатку ва ўступе павернута да чытача са станоўчага боку, а астатняя частка насычана адмоўнасцю зместу, маральнай і фізічнай нявыхаванасцю герояў, дурасцю, жорсткасцю.

Змест легенды наступны: працякала “тут недзе, зусім недалёка, крыніца”, з якой людзі пілі ваду летам і зімой. Яна не замярзала, была халодная ды сцюдзёная, чыстая і сілы аднаўляла. За яе карысць, зрабілі людзі ля яе зруб, павесілі гарлачык. (Вось гэта і ёсць станоўчая асаблівасць твора). Далейшая гісторыя такая. Двое падарожных — старэйшы і маладзейшы, крочылі паўз крынічкі. Вырашылі папіць і адпачыць каля яе. Малодшы быў злейшы, не рабіў людзям дабро, ды *“не толькі нораў больш суровы меў, але і сілы ў яго было болей, ... то кухталёў і надае”*. [10, с. 260].

І ўшчувальныя словы старэйшага яму не дапамагалі, то і заставалася, як толькі падпарадкавацца. Вырашыў малодшы ў адказ за добры ўклад людзям па аздабленні крынічкі выканаць паскудную справу: кінуць на дно капейчыну. *“Кіну яе ў ваду - яны і пачнуць ад грошай шалець. Скончыцца іх мірнае жыццё, будуць яны адзін на аднаго скоса глядзець, ваўкамі зырыць. Яны ў мяне спазнаюць, што такое ліха!... Каб яны ў нечым вінаватыя былі, дык я ім не так жыццё сапсаваў*

*бы!"* [10, с. 259].

Першай натрапіла на хітрасць маладзіца, якой закарцела даведацца, што там так свеціцца і "перагнулася цераз край і гопнулася ў ваду - толькі пырскі паляцелі". Наступным "пашанцавала" двум дзяцюкам, якія ад убачанага "раты ад здзіўлення раззявілі", і пасля ад уласнай сквапнасці адзін аднаго пабілі, "крычалі, енчылі, стагналі ад болю". У знак задавальнення з удалага выбрыку, малодшы вандроўнік сказаў, што ўсе "яны мяне да скону жыцця памятаць будуць". Валтузня местачкоўцаў была пасля зноў страшэнная, дваіх чалавек да смерці забілі. Але прыпыніўшыся, сяляне задумаліся пра сваю бойку, якая зняважыла ўсю крынічку. І вырашылі ад гэтай бяды пазбавіцца праз бацюшкавае асвянчэнне. Святар уміг развёў гэтую праблему: дастаў з дна капейку і забраў яе сабе. Прапанаваў ён выйсце з магчымага новага ліха: пабудаваць ля крыніцы святую капліцу, "тады Усявышні над усім наваколлем апекаваць будзе".

Легенда пранізана матывам прагнасці, якая вядзе да злачынных учынкаў. Прычынай нязгоды з'яўляецца матэрыяльная неабходнасць - стыхійны матэрыялізм. "Грошай, відаць, да гэтага часу не бачылі і не ведаюць што гэта такое," - так вырашае адзін з персанажаў. Пасля гэтага адбываецца перавага злога над добрым. Толькі заключная частка і растаўляе ўсе адмоўныя супярэчнасці на месца — як толькі *"бацюшка капейку забраў сабе ў кішэню, потым асвяціў зруб, ваду..."* Тут адчуваецца ўплыў рэлігійнага вучэння - як мэта паказаць сілу святарскага дзеяння ("асвяціў зруб, ваду"). А разам з тым паказваецца - прага да багацця, грошай не толькі простых людзей, але і бацюшкі. "Калі той (дзяк), ляскаючы зубамі ад холаду, вылез (з крыніцы), то бацюшка капейку забраў сабе ў кішэню" [10, с. 261]. Але гэта выглядае, як збавенне простым людзям ад усіх людскіх заганаў.

Наступны географа-тапанімічны твор тлумачыць пра паходжанне назвы вёскі Гуды. На гэты раз у аснове падання "Ці гудзеў гуд у Гудах?" з дамінантна-пазнавальнай функцыяй ляжыць апаэтызаваны вобраз.

Станоўчасць пануе на працягу ўсяго апавядання, што даказваюць вобразы двух неразлучных сяброў, якія мелі адно і тое ж імя і, што цікава, яшчэ пакахалі адну і тую ж дзяўчыну Ганну ды і нарадзіліся Міколы ў адзін і той жа дзень і год з аднолькавымі характарамі. Адна толькі розніца ў іх. Адзін меў дзіўны музычны слых, граў на розных інструментах, а ад спеваў "усё навокал замірала ад яго боскага голасу". Другі працаваў у мясцовай гуце, дзе вырабляў цуда - вырабы са шкла і крышталю, "што немагчыма было адарваць ад іх вачэй".

У адзін і той жа дзень яны заслалі сватоў да дзяўчыны. Вызначыць лепшага з іх павінна была перамога аднаго з закаханых у трох выпрабаваннях. У якасці аратага на раллі, у спаборніцтве пабегу былі яны роўныя. Наступным майстэрства павінна сваё павінны былі вынесці на суд жыхароў вёскі. Мікола — пясняр "запеў так, што лёгка стала на сэрцы ва ўсіх людзей... [16, с. 3].

Мікола - гутнік захапіў сваім відовішчам - клеткай. З яе выпырхнула незвычайная дзіўная птушка, якая перад усімі "такія каленцы сваім пошчакам пачала вырабляць, нібыта тыя салаўі", а потым яна села на плячо Ганны "ды так забілася, зашчоўкала" што людзі радасна "падвялі Міколу - гутніка да любай Ганначкі, абвязалі іх самым раскошным ручніком" [16, с. 3] і сыгралі гучнае вяселле, ад якога гуд ішоў навокал. А Міколка - пясняр жаніўся на сястры Ганны — Марысьцы, заснаваў іншае паселішча, і там вырабляў шкляныя рэчы, але не лепшыя чым у яго сябра.

Нажаль і ў гэтай легендзе, якая нам вядома ў апрацоўцы М. Маліноўскага з Баранавіч (а магчыма і чыста ім прыдуманая), больш літаратуры, чым фальклору. Прынамсі, і гэтую легенду на Лідчыне ніхто ніколі не чуў, а назву Гуды славянская вёска атрымала ад суседзяў балтаў, гудамі і сёння літоўцы называюць усіх беларусаў.

Да мясцовага фальклорнага аповеду-падання можна аднесці звесткі пра ўзнікненне Лідскай музвучэльні, на месцы якога размяшчаўся жаночы манастыр. Многія манашкі грашылі, а немаўлят - свой грэх, яны закопвалі каля сцен манастыра. Аднойчы, адзін з святароў, праязджаючы побач сказаў: *"І будзе граць музыка на могілках немаўлят"* [4, с. 14]. Усё б тут добра - ды быў на гэтым месцы мужчынскі кляштар, а не жаночы.

Калі казаць пра звышнатуральнасць і міфічнасць, то бытуе паданне пра Лідскае возера. Першапачаткова, тлумачыць аповед, тут знаходзілася яўрэйскія могілкі, праз якія ішла дарога. Перад тым, як запаўнялася возера, чалавечыя парэшткі перазахавалі, але не ўсе з родных адклікнуліся на гэты рытуальны абрад. І пасля гэтага ўзнікшае возера падняло на паверхню косці, саваны, розныя рэчы. А дарога, якую памятаюць лідзяне, так і засталася там.

Бадай, такі сюжэт і ў легенды пра Вялічкаўскае возера, але з характэрнымі канкрэтнымі асаблівасцямі. Аповед ідзе пра адну ўдаву, якая выдзялялася ў вёсцы Вялічкі беднасцю, маючы дзяцей. Калісьці яе сям'я жыла ў згодзе, пакуль не выехаў на заробкі сам гаспадар хаты дзеля падняцця сямейнага капіталу і ў выніку чаго не вярнуўся.

Адным разам у вёску прыйшоў стары жабрак. Але ж прытуліцца яму тут не было магчымасці: яго гналі з хатаў. Толькі ў беднай удавы ён знайшоў сабе кут для начлегу і нават падсілкаваўся нішчымнай заціркай. Назаўтра жанчына здзівілася: у хаце было многа хлеба і ўсяго іншага. Дзед ёй на адыходзе прамовіў: *"Выйдзі з дзецьмі з хаты і ідзі не аглядаючыся, хоць што-небудзь і пачуеш. Як аглянешся, то на месцы тваёй хаты варасце груша"* [21, с. 33].

Выканаўшы загад дзядка, яна пачула за спіною трэск, шум, енк. Усё ламалася, вёска прапала, а на яе месцы ўтварылася возера, а замест хаты ўдавы на беразе стаяла груша. Як толькі жанчына павярнулася, то адразу ператварылася ў камень.

На другі дзень суседнія жыхары бачылі як выплывалі дзверы, аконныя рамы і іншае. Дазнацца пра глыбіню возера сялянам не ўдалося. Калі яны апусцілі жэрдку, то з дна данеслася: *"Не мерай тычынаю, бо памераеш галавою!", а калі вырашылі вяроўкай, то: "Не*

*мерай вяроўкаю, бо памераеш галоўкаю"* [21, с. 33]. *(Глыбіня возера - 15 метраў.)*

Так і здарылася. Калі адзін з вяскоўцаў схіліўся паглядзець у возера, то адразу і гопнуўся ў ваду, яго не сумелі выратаваць ды і само цела не знайшлі. А на беразе гэтага возера і цяпер расце груша, а ля яе ляжыць камень з адбіткам, падобным на жаночую руку.

Гэтаму твору ўласціва паэтычная выдумка, трагічнасць, а таксама замацавана адна з шырока выкарыстаных формаў мастацкай тыпізацыі як фантастычна-міфічная ўмоўнасць. Але разам з тым ёсць рэальны факт геаграфічнага размяшчэння возера і тлумачэнне сутнасці каменя і мясцовага дрэва - грушы.

Груша і камень - гэта быццам пераўвасабленне, сімвал людскасці, чуласці, вытрымкі лёсу, але разам з тым станоўчасці і стойкасці ў выпрабаванні часу. Словы жабрака *"Дай вам Бог, каб за ласку да мяне ўзнагароджаны лёсам заўсёды былі... Кожны будзе ўзнагароджаны. Прыйдзе той судны час, калі ўсім будзе раздавацца тое, што заслужана"* [21, с. 33] сімвалізуюцца праўдзівасцю, вернасцю і з'яўляюцца адплатай як быццам вернутай бумерангам - кармай: дабро — дабром, ліха — ліхам.

Возера - таксама пераўвасабленне і сімвал, але ўжо ў ацэнцы адмоўнасці як вынік - асуджэнне бестурботнасці, абыякавасці, нялюдскасці ў адносінах да вандроўніка.

Падобныя сюжэты з правальваннем вёскі пад зямлю і ўзнікненне на яе месцы возера сустракаюцца і ў іншых рэгёнах Гарадзеншчыны. У прыклад гэтаму могуць паслужыць паданні "Пра паходжанне назвы возера Бяздоннае" (Зэльва) і "Пра ўтварэнне возера Свіцязь" (г. Навагрудак). Адзінае адрозненне ў гэтых творах праяляецца ў тым, што разам з вёскай узгадваецца царква. Вёскі аднатыпна праваліліся пад зямлю і на месцы іх утварыліся азёры са своеасаблівымі назвамі. А доказам затануўшай царквы з'яўляецца праяўленне царкоўных крыжоў на сярэдзіне возера ды чаплянне рыбалоўнай сеткай за яе вежы. А ў якасці гераіні аповедаў - чулай жанчыны ўзгадваецца яе пераўтварэнне ў каменную пліту ці ў сам камень. Характарыстыка зместу таксама пакідаецца ў мастацкім асяроддзі з тым жа матывам і вобразам з паказам трагізму, як у знак бестурботнасці - адмоўнасці і чуласці - станоўчасці. З гэтага ўсяго вынікае, што дадзены твор "Вялічкаўскае возера" мае дачыненне да галоўнай адзнакі вусна-народнай творчасці - варыятнасці, і ўзнік ён папярэдне ў калектыўнай групоўцы.

Эпізод з ператварэннем чалавека ў камень можна сустрэць не ў адным фальклорным творы. Да аднаго з іх "Князёўна"[5, с. 92] датычыцца наступны аповяд пра князёўну - чараўніцу і каралевіча, якія кахалі адно аднаго. Хлопец прыяжджаў да дзяўчыны на кані, а яна прывязала да конскай нагі зачараваны клубок нітак з мэтай каб каралевіч яе не кінуў. Аднойчы клубок скончыўся, зляцеў і хлопеў ператварыўся ў камень - як пакаранне за чары князёўны. Дзяўчына малілася ля каменя з просьбай вярнуць назад свайго каханага, абкрапіла жывой вадой і прачытала замовы. І цуд: камень стаў чалавекам. Вярнулася каханне, справілася вяселле.

Вышэй сустракаўся твор на міфалагічна-магічную тэму (легенда пра Ліду з персанажам пра пярэваратня). Тут такі ж самы прыём чарадзейства, магічнага дзеяння — клубок нітак як сродак не ўпусціць каханага, але ў выніку ён толькі пашкодзіў. Адным словам, бачна, што ў час нараджэння легенды панаваў анімізм з магічнымі ўяўленнямі, як вера ў існаванне духаў (у дрэве, каменні), якім людзі пакланяліся, верылі ў іх сілу, прамаўлялі розныя замовы, наклянці. Твор паказвае неасцярожнасць князёўны пры звароце да магічных сродкаў, але ж разам з тым праяўляецца і сіла магічнага слова і цудадзейная жывая вада прыйшла на дапамогу веры ў моцнае чалавечае пачуццё - каханне.

Легенда - фальклорны жанр, які мае скіраванасць у гістарычнае мінулае, але яна не поўна і не паслядоўна ўзнаўляе гістарычныя і бытавыя абставіны той падзеі, пра якую ў ёй апавядаецца. Іншым разам у ёй бывае шмат мастацкай выдумкі з набліжэннем яе да казкі з фантастычнымі сюжэтамі з сацыяльна-утапічнай класіфікацыяй.

Характэрнае ў гэтым плане легендарнае паданне "Адкуль зязюля ўзялася".

Дзяўчына (унучка), якая дала абяцанне вужу выйсці за яго замуж толькі каб ён дазволіў набраць вады з калодзежа для хворых дзеда з бабай, прымушаецца да здзяйснення сваёй клятвы. Пераадаленне выпрабаванняў, якія ставіць сам вуж (адчыніць яму дзверы ў яе хату, павячэраць з ім; пасцаць пасцель і легчы з ім разам) вядуць да разгадкі сакрэту - тайну гэтай чарадзейнай асобы. Ператварэнне вужа ў прыгожага хлопца кажа пра рысу, якая характэрна для першабытнага мыслення - татэмізму, як вера ў пярэваратня і ў магічнасць слова, як праклянцце (у гэтым выпадку "дзякуючы" праклянццю бацькоў за непаслушэнства). Казачны эпізод - спальванне бабуляй смужкі вужа ў печы разглядаецца ў міфалогіі як памежжа розных светаў і нават сімвалізуе іншасвет, што і характэрна для мноства казачных твораў. Сутнасць змея (вужа) у казках успрымаецца як варожая сіла, як увасабленне ўсяго адмоўнага, зла і несправядлівасці. У гэтым выпадку змей (вуж) паказаны больш са станоўчага боку. ¨н пазбаўлены чалавечага жыцця, пракляты бацькамі, нажыў з жонкаю (унучкай) хлопчыка і дзяўчынку. ¨н варожа ставіцца да сваіх бацькоў, якія прычынілі яму пакуты. Варожасць ягоных родзічаў даказана ў эпізодзе ў пазбаўленні жыцця іх сына -вужа (адрэзалі яму галаву), дазнаўшыся пра сакрэт подзыву яго да сябе. Сакрэтны подкліч "плыві - плыві, тупеначка, плыві - плыві да берага, калі прыплыве белая, то паеду, а як чырвоная, то тут буду" прымусіў дзяўчыну застацца на радзіме яго жорсткіх бацькоў. Але ж лёс склаўся іначай: *"хлопчыка перамяніла ў дубочак, а дачку - у асінку, а сама стала зязюлькаю"* [5, с. 83].

Гэта яшчэ раз гаворыць пра чарадзейныя з'явы з татэмістычным ухілам. А з міфалагічнага погляду вынікае, што птушка тыпу зязюлі з'явілася з-за страты свайго мужа - вужа, што часам паруецца з ім як пераўтварэнне станоўчасці ў адмоўнае, якое бытуе заўсёды побач, але на гэты раз у адным вобразе - літаратурным прыёме, алегорыі.

Пра паходжанне бабы, як чалавека здольнага на сваркі, распавядае этыялагічная легенда "Дзе чорт не мог звесці пасварыцыся, то бабу паслаў". Асноўнае ў сюжэце - падштурхоўваннне бабы да канфлікту - спрэчкі паміж мужам і жонкай. І ўсё гэта адбываецца дзеля просьбы звышнатуральнай міфічнай істоты - чорта, які "не мог ніяк звесці пасварыцеся" спагадлівую пару пражыўшую ўсё жыццё ў згодзе. Прывабіўшы бабу лапцямі, без якіх яна нават зімою хадзіла босая, чорт дасягнуў сваёй мэты.

Баба давяла гэтую справу да таго, што мужык "давай жонку біці, а яна стала адбівацися, давай яны ўжо сварыціся і біціся" [5, с. 88].

Як бачна, што чорт - гэта хоць і звышнатуральная істота, якая здольная нарабіць нямала няшчасцяў, але ж адначасова - гэта істота, слабая розумам. Чорт у міфалагічна-фальклорным творы паказаны ў амбівалентным вобразе: валодаючы магутнай звышнатуральнай сілай, значна большай, чым баба, ён бяссільны ў супрацьстаянні чалавечага розуму.

Баба ў творы - адыёзная асоба, якая здольная паўплываць на лёс людзей з нечаканага негатыўнага боку для адчужэння блізкіх адносін нявінна-спагадлівай пары. Гэты персанаж, які бытуе ў сацыяльных з'явах паказаў праўдзівую рэальнасць грамадскай рэчаіснасці, гэта значыць непрымірымую супярэчнасць. Баба адлюстравана як вобраз з алегарычным адценкам ("і ўжо цяпер лепей чорту вер, як бабе"), з іншачалавечымі светапоглядамі непадобнымі ні да жаночых ні да мужчынскіх уласцівасцяў.

Згодна з міфалагічнай трактоўкай можна зрабіць вынік, што звонку баба - прадстаўнік жаночага полу, жанчына, а з унутранага яна выступае як прадстаўнік іншага свету і таму можа ўплываць на лёсы людзей. Персанаж паказаны з рысамі скрытай гіпербалізацыі ("І ўжо лапці перадаваў бабе цераз раку на патыку, бо ўжо і чорт баяўся да бабы даступіцца" і з гратэскавым успрыманнем [5, с. 88].

Асаблівасцю ўвасаблення рэчаіснасці твора з'яўляецца сцвярджэнне станоўчага ідэалу праз іранічна-гумарыстычны паказ архаічных з'яў у народным побыце. Кантраснае чаргаванне эмацыянальных малюнкаў, спалучэнне фантастыкі і рэалій, дынамізму дзеяння з'яўляюцца структурнымі адзнакамі твора. Раскрываючыся ў творы, яны ўздымаюць матывацыю знешніх, этнаграфічна-бытавых праяў жыцця, адлюстроўваюць праўдзівасць сацыяльнага досведу народа, ракрываюць яго ўнутраны стан, пачуцці і імкненні да несправядлівых учынкаў, здзейсненых шляхам ганебных спраў.

Асноўнай адзнакай народнай творчасці, вядома, з'яўляецца варыянтнасць твораў, якія нават апрацоўваюцца літаратурным почыркам вядомымі беларускімі творцамі-паэтамі. Твор Францішка Багушэвіча "Гдзе чорт не можа, там бабу пашле" з'яўляецца доказам вышэй аналізаванага твора.

Рэальную каштоўнасць для беларускай культуры ўяўляюць легенды, запісаныя да пачатку XX стагоддзя, з вялікай нацяжкай - запісаныя ў першай палове XX стагоддзя. Легенды, якія пачалі з'яўляцца ў друку ў другой палове XX стагоддзя выклікаюць глыбокі недавер, бо ў большасці сваёй з'яўляюцца тварэннямі малапісьменных аматараў. Задачай гэтых псеўдалегендаў было замаскаваць рэальную гісторыю, падмяніць гістарычныя публікацыі байкамі і казкамі, бо заглушыць само імкненне да гістарычных ведаў аказалася немагчымым. Пры савецкай уладзе гэтыя тварэнні насілі ярка выражаны класавы характар і лёгка распазнаюцца З пачатку 90-х класавы характар знік, але аматарам стварыць нешта пад гісторыю стала лягчэй друкавацца, і колькасць псеўдалегендаў значна павялічылася. Таму вельмі важна адрозніваць фальклор і фолькбелетрыстыку.

Неправільныя веды - горш за няведанне. Псеўдалегенда - гэта значна горш, за адсутнасць усякай інфармацыі.

## МАСТАЦКІЯ АСАБЛІВАСЦІ НАРОДНЫХ КАЗАК ЛІДЧЫНЫ

Казка - адзін з апавядальных жанраў фальклорнай спадчыны. Узнікненне казак адносіцца да глыбокай старажытнасці, як і самога фальклору ў цэлым.

Існуе ўмоўная класіфікацыя, падзел казак на казкі аб жывёлах, чарадзейныя, або міфічныя і сацыяльна-бытавыя. Кожная з груп мае ўласную спецыфіку ў асаблівасцях зместу, сістэме вобразаў, прыёмах мастацкага адлюстравання рэчаіснасці пры дапамозе выдумкі і заключае ў сабе дыдактычна-павучальны сэнс. Як пазначана ў пачатку працы, выдатным руплівым збіральнікам фальклору на Лідчыне быў Уладзіслаў Вярыга, які ў сваёй кнізе "Беларускія паданні" (г. Львоў, 1889 год) змясціў 23 беларускія казкі з Лідскага павету. Большасць іх адносіцца да класу чарадзейных.

"Лёкай - камень" - казка з гратэскавым адлюстраваннем герояў. Вядучую ролю займае вобраз лёкая як выратавальніка, ахоўніка купца, а пазней - панскага сямейства. Аднойчы яму, калі ён плыў на караблі разам з гаспадарамі (панамі) да іх родзічаў, прысніўся сон, што, "хто на акрэнце (караблі) пераначуе тры ночы, будзе шчаслівы". Дазвол купца на просьбу лёкая, каб выканаць гэты сон на працягу трох начэй быў дадзены. І вось раскрываецца сюжэт казкі. На карабель тры ночы запар прылятае птушка і раскрывае тайну - перасцярогу прыезду гаспадароў да сваіх родзічаў. Адна акалічнасць, якая гучыць на працягу трох начэй у гэтых таемных сцвярджэннях *"хто чуе гэтае слова і перакажа, той па калена, ... то па пояс, ...то саўсім каменем абвернецца"* [24, с. 357] тлумачыцца як праяўленне аднаго са старажытных жанраў фальклору - замовы.

Праўдзівасць сказанага прарочай птушкай ўбачыў і адчуў сам лёкай, перасцерагаючы купца з жонкаю ад злых учынкаў жорсткіх слугаў. Намаганні іх пачаставаць атручанай гарбатай прымусіла лёкая наўмысна ўпасці і разбіць шклянку; падвоз купца раз'юшаным канём таксама перасцярог лёкай, які вядучы, прабіў каня мячом. Усё атрымалася б у сакрэце, калі бы не трэцяя злая ноч - адпачынак купца з жонкай, у пакоі з дванаццацігаловай змяёй пад падлогай Змага-

ючыся з гэтай злюкай - адсёкшы ёй галавы, лёкай запырскаў змяінай крывёю ўвесь пакой.

Вырашыўшы пакінуць усё у сакрэце - змыць усю кроў, ён убачыў крывяную кроплю на ілбе пані, якую хацеў злізаць языком, і гэта ўбачыў сам купец. Думаючы, што лёкай цалаваў яго пані сказаў да смяротнага пакарання іх ахоўніка. Адчуваючы сябе ў безвыходным становішчы, лёкай прызнаецца ў прарочым сне з усімі падрабязнасцямі. І хоць бачачы, што птушынае прадказанне збываецца, ён не здаючыся распавёў усё да апошняга. *"І як казаў усе гэтыя словы, так і заўсім абвярнуўся ў камень"* [24, с. 358]. Шкадаванне купцом вернага служкі прымусіла забраць гэты камень. Але праз некалькі год купцу прысніўся сон і таксама прарочы, у якім тлумачылася вяртанне лёкая толькі праз смерць дзяцей самога пана — купца, кроўю якіх патрэбна абмазаць камень. Пан выканаў гэты жорсткі абрад, лёкай стаў чалавекам. Але ж у канечным выніку і самі дзеці былі жывыя.

Сюжэт казкі пераносіць слухача ў казачны свет, у якім асэнсоўваецца не сон лёкая, а сон самога купца, дзе казачнасць - у неверагоднасці ажыўлення яго дзяцей і сапраўднай удзячнасці да слугі.

У аснове казкі ляжаць праблемы маральна-этычнага плану. Барацьба дабра і зла, праўды і маны складае асноўны змест. Эпізоды з прадказаннем птушкі, прарочасць сна купца, пераўтварэнне лёкая ў камень надаюць твору таямнічасці і чароўнай прыгажосці. Марай аб чалавечым шчасці напоўнены сэнс твора. Сакрэт яго набыцця - начлег на караблі тры ночы. Цікавыя, але ў той час трагічныя прыгоды пераносяць слухача ў нябачанне яе неспраўданасці, але эпілог твора ставіць кропку над пакутамі герояў і трывогамі слухачоў.

Характэрнымі асаблівасцямі твора з'яўляюцца такія прыёмы, як рэтардацыя. Трохразовае пўтарэнне дзеяння, паэтычная формула для перадачы падабенства ("падобны да падобны"), што і надае характарыстыку дзейным асобам.

Казкі "Дурны сын" і "Іванушка - дурачок" характарызуюцца як творы, вытокі якіх ляжаць не толькі ў працавітасці нашых продкаў, у іх вераваннях і звычаях, але і ў сацыяльных адносінах, уласцівых пэўным эпохам. Сюжэт гэтых твораў мае шматлікія варыянты. Як і ў большасці з іх ён раскрываецца з сямейнага апісання. *"Адзін цар (бацька) меў тры сыны: адзін дурны, а двох разумных. Як уміраў іх бацька, казаў ім прыходзіць па адной ночы каждаму начаваць на магілу"* [24, с. 395].

Гэты эпізод гучыць матывам, як будучае атрыманне сваёй долі спадчыны і аналізуецца захаваннем рэшткаў культу продкаў. Малодшы сын, які адзін выконвае бацькоўскі загад прыходзячы на магілу замест двух разумных братоў і за гэта шчодра ўзнагароджаны бацькам (атрымлівае цудадзейную палачку; у другім варыянце - сакрэт незвычайнага дуба, у якім стаіць трое коней), з'яўляецца асноўным захавальнікам гэтага культу.

Дзякуючы цудадзейнаму прадмету, у творы выпрацаваны свой адметны стыль, замацоўваецца казачная абраднасць, якую складаюць мастацкія формулы - апісанні знешняга падабенства героя (*"Брат іх той дурны, выйшаў за браму і махнуў палачкай: і яму конь асядланы, і ён убраны"* [24, с. 395], *"Іван схадзіў да таго каня, улез яму ў адно вуха, вылез праз другое і зрабіўся прыгожым хлопцам"* ) [5, с. 23]. Сярод мастацкіх вобразаў, галоўнае належыць гіпербалізацыі (*"Прыехаў да крулеўны і скочыў на... пентра* (паверх, другі паверх) *з канём"*).

Вобраз героя - дурня паказаны не як вобраз чалавека без розуму, а як чалавека кемлівага, разумнейшага за яго братоў, за тых, з кім сутыкаецца. Гэтым яшчэ раз даказывае эпізод аб раненні яго нагі ў час змагання, злыгаўшы, што "сёк у жыда дровы і ўсёк ногу" [24, с. 396], ці ў другім варыянце пры сарванні пярсцёнка з пальца царэўны, адказаўшы, што палец яго абвязаны па прычыне "зрэзаў крышку палец" [5, с. 23].

Цудоўны памочнік - палачка, атрыманая ад бацькі, дапамагае герою ажаніцца з каралеўскай дачкой, перахопліваючы сваіх братоў (*"даганіў сваіх братоў, па тры разы бізуном даў і сам паехаў напярод"* [24, с. 395]; перамагчы непрыяцеля ў змаганні з царом, атрымаць цэлае каралеўства: і ўсё гэта здзяйсняе без усякіх выпрабаванняў і цяжкасцяў - толькі махнуць палачкай (ці сказаць "Дубе, дубе, адамкніся"). Адсюль яшчэ вынікае, што твору належыць рыса магічнага ўспрымання.

Аднатыпны сюжэт казкі "Воўк" адлюстроўваецца на гэты раз рысамі першабытнага мыслення - татэмізму. Малодшы брат - дурны, які таксама выдзяляўся сярод сваіх двух братоў паказаны вынаходлівым у пільнаваннyясаду ("Шчотку падпёр пад бараду, за нагу прывязаў да яблыні сам сябе і зачаў драмаць") [24, с. 473]. Першапачаткова доля дурня паказана ў пазбаўленні шчасця на прыкладзе эпізода з пошукамі птушкі на разгалінаванні дарог (*"адзін пайшоў на дарогу, дзе шчасце, другі пайшоў таксама, а трэцяга, дурня, выправілі на такую дарогу, што смерць"*) [24, с. 473]. Сустрэча з галодным ваўком, які стаў для дурня цудоўным памочнікам стварыла ўвесь далейшы сюжэт.

Вобраз татэмнай жывёлы - ваўка, паказаны не толькі як падказальніка ў якасці парадаў дурню, але і памочніка ў пошуках пастаўленай мэты - выкрыцця Жар - птушкі. Пераўтварэнне ваўка ў лодку, у каня, у паненку выводзіць на яшчэ адну рысу мастацкай асаблівасці - татэлізацыйнае пераўвасабленне (татэм у татэм). .

Учынкі дурня апраўдваюцца дакладным выкананнем загаду, але па сваёй логіцы яны бяссэнсоўныя. Парады ваўка, каб выкрасці Жар - птушку (не браць яе з клеткай, а толькі без яе; не браць каня з аброцямі, а толькі без іх) пераконваюць дурня, за што ён трапляе ў незвычайнае становішча, а ў дальнейшым наогул гіне ад рук яго братоў. У рэшце - рэшт дапамога памочніка выратоўвае чалавека і жэніць з дзяўчынай.

У мастацкую тканіну ўвайшлі частыя прамаўленні ў дыялогу двух персанажаў:

"— Я цябе з'ем. Еш, маеш волю. Сядай на мяне і паедзем", [24, с. 474] ці: "Ах, мой шэры воўк, дзе ты астаўся?" Яны выконваючы пэўную роль у развіцці сюжэта, раскрываюць ідэйную задуму твора.

Распаўсюджаным вобразам у беларускіх народных казках, знойдзеных на Лідчыне, з'яўляецца вобраз пакрыўджанага сіраты ў аднаіменным творы "Сірата".

Тыповая канфліктная сітуацыя паміж мачахай і сіратой развіваецца ў пачатку сюжэта. Абдзяленне дзяўчынкі ў адзежы, у ядзе мачахай прыводзіць сірату да плачу. Рванне кветак пад "пустою хаткаю" тлумачыць што будынак падобны да лёсу і пустаты дзяўчыны, а само рванне характарызуецца пазбаўленнем справядлівасці сіраты як кветкі - прыгажуні. Але ж гэты эпізод з'яўляецца характэрнай часткай твора. Пакрыўджаная лёсам дзяўчына атрымлівае ад двух асоб дараванне — перлы замест слёз у час плачу.

У творы праяўлена народныя сімпатыя і антыпатыя, асуджэнне несправядлівасці і спачуванне нявінна пакрыўджаным. Супрацьпастаўленне мачахі падчарыцы, бабінай дачкі дзедавай узмацняецца ў сацыяльным і эстычным плане. З боку бабінай дачкі ўласцівы адмоўныя якасці: несправядлівасць, злосць, зайздрасць, а з боку дачкі дзедавай паказана адваротная станоўчая характарыстыка: дабро, справядлівасць, сціпласць. Нават у сітуацыях, у якіх паводзяць дзве асобы падкрэслена супрацьлегласць характараў. За ветлівасць, спагаду сіраціна атрымлівае па заслугах перлы з вачэй замест слёз, а за знявагу, ляноту бабіная дачка заслужыла жабы з роту замест смеху.

Калі казаць пра ўнутранае ўспрыманне з псіхалагагічнага асэнсавання герояў, то могуць узнікнуць недакладныя супярэчнасці. Але ж эпізод з партрэтам сіраты, які паказаў яе брат цару ўпэўнена растаўляе ўсе асаблівасці і рысы, як знешняга, так і ўнутранага свету персанажаў. У параўнанні з прыгожай сіратой яшчэ больш непрывабнымі, нават з пачварным адлюстраваннем паказаны абліччы мачыхі як ведзьмы і яе дачкі. Матывам твора з'яўляецца перамога дабра над злом - пакаранне адмоўных герояў прыпыняе распаўсюджванне такіх персанажаў і асуджае здраду, няўдзячнасць, але сцвярджае вернасць, адданасць, сумленнасць.

Адметныя рысы чарадзейных казак распаўсюджваліся не адразу. Папярэднікам ім былі першасныя апавяданні, прасякнутыя пафасам барацьбы нашых продкаў з рознымі таямнічымі сіламі прыроды. Аб моцнай сувязі з працоўнай дзейнасцю чалавека, з яго марамі аб падпарадкаванні сіл прыроды сведчыць казка "Слуга стаў каралём", у якой народная фантазія стварыла чароўныя цуды - з'явы, прарочыя рэлігійныя ўспрыманні, прымхі.

Прарочае выказванне "хто які сон прысніць на Божа нараджэнне, то выйдзе на праўду" [25, с. 407] раскрывае ўсю задуманую ідэю твору. Прысніўшы сон, герой не распаўсюджвае яго ў сямейным асяроддзі, за што ён прадаецца бацькамі каралю. Не дазнаўшыся праўды і ў гэтых абставінах, хлопец трапляе ў турму. Але вызваліўшыся тэрмінова, герой становіцца слугой каралю дзякуючы сустрэтым чарцям, якія аддалі яму боты, "шапку - відомку" і каня — самалёта. Фантазаванасць твора паглыблена пашырылася ў далейшым разгортванні падзей. Атрымаўшы магічныя сродкі, герой выконвае цэлы пералік загадаў, адрасаваных каралевай для караля з мэтай, каб ён паказаў свае здольнасці перад тым, як стаць яму жонкай. Слуга ў якасці караля дастаўляе дзве пары чаравікаў, хусцінак, нават жменю валасоў з дзедавай барады і галавы ды дванаццаць аднолькавых хлопцаў для такой колькасці дзевак.

Высвятленне праўдзівасці ў выкананні пастаўленых задач злыганага караля падштурхнулі збыццю прыснітага сна слугі, які ў выніку і стаў мужам каралевы, г. зн. каралём.

Матывацыя твора тлумачыць справядлівасць, заслужаную ўласнымі намаганнямі, хоць і скіраванымі з дапамогай праяўленага спрыту і лоўкасці. Выкрываючы сапраўдную сутнасць прадстаўнікоў пануючых класаў, твор не толькі адмаўляе тагачасную рэчаіснасць, заснаваную на няроўнасці і прыгнёце, але і сцвярджаюць свой ідэал народнага героя - простага чалавека, смелага і кемлівага, упэўненага ў пастаўленай мэце.

Будова твора вылучаецца захаванымі асноўнымі элементамі кампазіцыі. Экспазіцыя твора пераносіць слухача ў трэцяе царства. Завязкай дзеяння служыць атрыманне чароўных прадметаў як сродкаў знайсці далейшае шчасце. Характэрнымі прыёмамі з'яўляюцца трохразовыя паўтарэнні дзеяння (загады каралевы), паэтычныя формулы для перадачы падабенства (волас у волас, голас у голас), незвычайнага хуткага руху (за тры гадзіны).

Аптымізм працоўнага люду, іх непакорнасць цяжкаму лёсу, прыстасаванне да ўмоў нялёгкага жыцця, заваёўванне свайго месца "пад сонцам", спрытнасць у пошуку выхаду з цяжкага становішча гучыць матывам у казцы "Лёкай і крулеўна". Захаванасць рэштак анімістычнай даўніны, водгукаў існаваўшага некалі культу продкаў не дала пазбегнуць уплыву рэлігійнай ідэалогіі, вучэння хрысціянскай царквы. Пры ўзаемадзеянні чарадзейнай казкі і міфа існуе адпаведная платформа, а падобнасць агульных пунктаў сутыкнення фальклору і рэлігіі паказана значна менш, хаця вера ў існаванне звышнатуральнай сілы прысутнічае і там, і тут.

Цікавая карціна паўстае ў вышэй названай казцы. Лёкай, адслужыўшы ў пана 25 гадоў, за кожны год які атрымліваў 25 рублёў, звольніўся. Але ж панская натура заўсёды выдзяляецца, пан "вылічыў за пабітыя талеркі і шклянкі" і слузе засталіся толькі 3 рублі. Пайшоўшы ў свет, лёкай аддаў свае грошы за памерлага, які вінен быў калісьці людзям. Калі ў лёкая засталася толькі дробязь, ён сустракае чалавека, які становіцца яму памочнікам і дарадцам у дарозе па свеце. Знаходка грошай у час вандравання дапамагае ім пражыць, але з адной умовай: дзяліцца ўсім нажытым пароўну. Парада, якая даецца лёкаю ягоным сябрам - камратам "не бауся як тры гадзіны, бо як забавішся больш, то будзе пакута вялікая" [25, с. 494] разгортвае новую сюжэтную карціну. Лёкай трапляе на начлег у касцёл — гэта пакаранне для кожнага, хто не паспявае ўправіцца за гэты пазначаны час. *"У том касцёле была крулеўна заклента (зачараваная) і той крулеўне адпускаўся чалавек на з'ядзенне"* [25, с. 494]. Удачнае прабыццё ў храме на

працягу трох начэй прытрымліваючыся парадаў камрата і дзякуючы маленню каля алтара (хаванне пад бэлькай, у склепе з касцьмі, у труне замест каралевы) дапамагае выжыць і не быць з'едзеным. Апошняя ноч не толькі пакідае жывым лёкая, але і выратоўвае саму каралеўну ад закляцця. А пры тым загад самога бацькі каралеўны, дазвол камрата здзейснілі вяселле. Умова, якая была заключана ў час знаёмства лёкая з камратам патрабавала дзяленне ўсяго нажытнога і нават як паказана ў чарговым выпадку - раздзіранне напалам жонкі лёкая, змыванне з яе закляцця, а пасля - ажыўленне.

Казка дае цікавы ўзор арганічнага спалучэння фантастыкі з рэальнымі замалёўкамі побыту і працы людзей, іх звычаяў і абрадаў, што робіць твор каштоўным матэрыялам для далейшага варыянтнага напісання і даследавання.

Казкі, у якіх адбываюцца неверагодныя геройскія прыгоды ў незвычайных абставінах вабяць чытача дасканаласцю формы, ды яшчэ, калі адбываюцца розныя чарадзейныя з'явы з пераўтварэннем персанажа ў розныя прадметы, напрыклад, у камень. Датычацца гэта і казкі "Купецкі сын і панскі сын".

Як ужо бачна з назвы казкі, што перавага ў саслоўным стане некага з сыноў практычна адсутнічае, а асаблівасцю тут з'яўляецца падабенства і сяброўства паміж героямі. Сюжэт, у якім два сыны стрэлілі ў слуп, з мэтай ведаць пра жыццёвыя абставіны аднаго з іх у час вяртання дадому: "Калі з твае дзірачкі будзе кроў цячы, значыць ты загінуўшы, а калі з маёй - значыць я" [5, с. 26]. Тлумачыць гэта яшчэ адной фальклорнай уласцівасцю - забабонамі, анімістычнасцю ці проста фантазіяй - выцяканне крыві са слупа, як з цела жывой істоты.

У творы цікава апісаны эпізод, у якім сцвярджаюцца станоўчыя якасці: вернасць, адданасць, сумленнасць. Адзін важны матыў, у якім тлумачыцца па якой прычыне не стралялі два сыны ў сустрэчных жывёл, з'яўляецца спачуванне ім, хоць нельга не прыняць пад увагу і іх абяцанне спатрэбіцца яму ў прыгодзе.

Адмоўным персанажам у казцы з'яўляецца старая (бабулька), якая сваёй чароўнай палачкаю ператварыла панскага сына і яго цудоўных памочнікаў - звяроў у каменні. Але ж чуласць і кемлівасць другога станоўчага героя - купецкага сына, а таксама верная служба ў адказ на дабрыню жывёл, выратоўваюць сябра і яго памочнікаў.

Калі казаць пра сістэму вобразаў і пра мастацкі стыль, то адпаведнікам ім з'яўляюцца характар канфлікту і асаблівасці фантастыкі. На гэты раз героямі з'яўляюцца не прадстаўнікі з ніжэйшага саслоўнага асяроддзя, якія шукаюць сабе шчасця і лепшай долі, а тыя, хто забяспечаны гэтым і, што на дзіва, са станоўчымі якасцямі, з якімі рэдка сустракаюцца такія асобы ў казках.

Асноўным матывам у творы з'яўляецца аптымістычнасць, патрыятызм і адданасць роднаму краю, пачуццё павагі да чалавека, рысы, якія павінны знаходзіцца не толькі ў простага люду, але і ў больш высокасаслоўных асобаў.

Шмат казачных твораў насычана міфалагічным зместам з адпаведнымі персанажамі тыпу Бабы-ягі, Кашчэя Бессмяротнага, Ведзьмы, якія жывуць у месцах звязаных з іншасветам: у глухім, цёмным лесе, у хаце на курыных лапах, у балоце, у падзямеллі. І практычна гэтыя асобы дзейнічаюць з адмоўнага боку з мэтай нашкодзіць ці знішчыць станоўчага героя, прынёсшы яго як ахвяру для з'ядання.

Шматлікасць варыянтаў з казачным сюжэтам тыпу "Васілёк і ведзьма"[5, с.15] распавядаюць пра падман ведзьмы, якая заманьвае хлопчыка Васілька ў час яго рабалоўства на рэчцы. Даведаўшыся пра падзыўныя словы, ведзьма пад выглядам бабулі падманівае хлопца прынесеным снеданнем і зачыняе ў сваёй хаце, даўшы загад сваёй дачцы распаліць печ і сасмажыць дзіця. Але ж спрыт і кемлівасць Васілька дазваляюць абдурыць ведзьміну дачку, і тая замест яго сядае на лапату і трапляе ў печ, а сам Васілёк застаецца жывым. Ведзьма, паеўшы свежаспечанага мяса, даэнаецца што Васілёк жывы, але ж спроба зноў яго схапіць была дарэмнай.

Аднатыпная казка "Чарнушка - дачушка"[5, с. 28] з тым жа матывам і амаль з той жа сюжэтная лініяй раскрывае паралель станоўчага і адмоўнага мастацкага кірунку з татэмным уяўленнем.

Карай, якую "прысудзілі" дзед з бабай сваёй дачушцы па прычыне яе немыцця, сталася студня, як часовае месца пражывання. Калі Чарнушка там мылася, яна атрымлівала сняданак. Спроба ваўка заманіць дзяўчыну сняданкам атрымалася, але ў двухкратным паўторы дзеяння, як і ў тым вышэйшым казачным варыянце. Зачыніўшы Чарнушку ў сваёй лясной хаце, воўк загадвае ёйварыць ежу да яго прыходу.

Важнай адзнакай у творы, што характарызуе казачны эпас са знешняга боку, з'яўляецца наяўнасць сказаў, якія рыфмуюцца ў дзеясловах унутры сказа: *"Хто ў лесе начуе, чый голас чуе, прыйдзі вячэраць", "Я ў лесе начую, твой голас чую, іду да цябе вячэраць"* [5, с. 28].

Калі казаць пра рысы ваўка, якія з'яўляюцца важнай асаблівасцю ў казках аб жывёлах, то яны вызначаны ў прагнасці і дурасці з гіпербалізаваным мастацкім сродкам падкрэсліваючы непрывабнасць і агіднасць падобных якасцей у іх носьбітаў.

На гэты раз у ідэі твора заключана ўжо не барацьба з сацыяльнай несправядлівасцю, а павучанне аб чысціні, якая павінна панаваць у грамадстве. Казка матывавана адлюстроўвае рэальнае жыццё, уласцівыя людскія ўчынкі, чалавечыя слабасці і недахопы. Як і ва ўсёй групе казак аб жывёлах, тут ёсць шмат агульнага і ў характары мастацкай выдумкі і ў спосабе адлюстравання рэчаіснасці.

Своеасаблівая казка "Лісічка - хітрычка" таго ж тыпу аб жывёлах, вылучаецца мастацкай дасканаласцю і лагічнай канцоўкай. Вядома, як і ўсе казачныя вобразы, жывёлы не маюць выразнай дэталізацыі, а звычайна падкрэсліваецца адна галоўная рыса характару персанажа.

Як ужо зразумела з назвы казкі, галоўнай дзейнай

асобай з'яўляецца лісіца. Асноўнай яе характэрнай рысай і літаратурным прыёмам - алегорыяй, безумоўна лічыцца хітрасць, як носьбіт пэўнай чалавечай якасці ў адлюстраванні вобраза. Доказам гэтаму паслужылі паводзіны ў сітуацыі з дзедам, які вёз рыбу і пасля стаў падманутым гераіняй твора з мэтай пад'ехаць на возе. Дабрата селяніна не дазволіла адмовіць у просьбе. Але ж лісіныя штукарствы здольныя, як на выдумкі, так і на ашуканствы, нягледзячы на аказаную ёй дапамогу ці просьбу. Жвава падмануўшы дзеда, яна скінула амаль усю рыбу, скочыла з воза і падабрала ўвесь свой "заробак".

Сустракаюцца казкі, дзе ліса нягледзячы на яе хітрасць, застаецца пераможанай, але ж яна не пазбаўляецца сваёй якасці, у якой заўважаецца і несумленнасць на мяжы са здрадніцтвам.

Калі казаць у агульным значэнні, то казкі Лідчыны класіфікуюцца па сваёй умоўнасці. Большасць іх падзяляецца на казкі пра жывёл ("Лісічка - хітрычка", "Смерць пеўніка", "Варона і рак"; чарадзейныя ("Лёкай - камень", "Дурны сын", "Воўк", "Лёкай і крулеўна", "Сірата", "Васілёк і ведзьма") і іншыя.

Кожная з іх выдзяляецца асаблівасцямі зместу: героі то ператвараюцца ў камяні, то вызваляюць сяброў, то трапляюць у розныя прыгоды. Сістэма вобразаў таксама мае разнабаковы характар: персанажы то адмоўныя, то станоўчыя, то хітрыя, то выклікаюць спачуванне. Уласцівы казкам і своеасаблівыя прыёмы адлюстравання рэчаіснасці, характар паказу мастацкай выдумкі, выкарыстанне анімізму і татэмізму як рысаў старажытнага мыслення.

## КАЗКІ І ПАДАННІ, ЗАПІСАНЫЯ НА ЛІДЧЫНЕ Ў ПЕРШЫЯ ГАДЫ XXI СТАГОДДЗЯ

### Рагаты пасажыр або вера ў Бога

Былі часы, калі нейкая частка людзей не верыла ў існаванне Бога. Яны лічылі, што гэтае вера – проста звычайнае глупства. Абразы, іконы яны не вешалі ў хаце, ды і наогул іх кідалі пад ногі, а крыжы распілоўвалі на дзве часткі. І вось аднойчы позна вечарам мужчынанябожнік ехаў на ровары. А дарога гэтая праходзіла ля могілак. І тут ён адчуў што ў задзе на багажніку хтосьці заядла сапе, і гэтае сапенне прыбліжалася ўсё бліжэй і бліжэй. Калі нябожнік аглянуўся, то ўбачыў што з ім едзе чорт. Гэты нячысцік скокнуў яму на плечы і пачаў пазіраць таму ў вочы, не даючы далейшага руху кіроўцу.

Але ўсё ж з гэтага страху, раварыст маланкай дакруціў да сваёй хаты. З аднаго маху ён плячом выбіў дзверы з вушакамі, і кінуўся пасівелы нябожнік на калені да маці з просьбай каб тая паставіла свечку і павесіла ў кутах святыя абразы, якія ён здымаў да гэтага часу са сцен і таптаў нагамі, не дазваляючы тады маці вешаць іх зноў. І з тога часу гэты чалавек стаў верыць у існаванне Бога.

*Запісана ад Хітрун (дзяв. Руцкая) Тарэсы Багуславаўны. Нарадзілася 13.11.1959 г. у вёсцы Відаўка Шчучынскага р-на.*

### Зыход душы

Гэтую дзіўную з'яву мне расказала сама маці. Аднойчы яна ішла позна вечарам з суседняй вёскі Верх-Крупава ад бацькоў мужа дамоў у вёску Крупава. Дарога ляжала непадалёк ад вясковых могілак. І тут маці ўбачыла, як на могілках паўстаў белы, празрысты высокі слуп. А гэтая відавочна-неверагодная з'ява, як кажуць, з'яўляецца толькі вечарам, напярэдадні якога прайшло пахаванне нябожчыка. Гэты слуп і ёсць душа чалавека, якая пакідае цела ў зямлі. А калі трапіш у гэты момант пад вышэйназваны слуп, то сваёю сілаю ён імгненна засмоктвае і забівае чалавека.

*Запісана ад Хітрун (дзяв. Руцкая) Тарэсы Багуславаўны. Нарадзілася 13.11.1959 г. у вёсцы Відаўка Шчучынскага р-на.*

### Чортаў запальнік і Божы тушыльнік

А гэтая гісторыя адбылася ў вёсцы Калясішча Лідскага раёна ў сям'і бацькавай сястры... Была вялікая навальніца, бліщчала маланка. І раптоўна ў хаце штосьці засвяціла. Праз аконную фортку ўляцеў вогненны клубок і пачаў знішчаць полымем фіранкі. А за гэтай шарападобнай з'явай следам рухаўся такі ж самы клубок які ўжо толькі тушыў з'явіўшаеся полымя. Усё адбылося так хутка, што і разгубіцца не паспелі.

*Запісана ад Кенць (дзяв. Хітрун) Ядвігі Казіміраўны. Нарадзіўся 10.01.1950 г. у вёсцы Верх-Крупава Лідскага р-на.*

### Божы напамінак

Тую прымету, якая азначае што ў час бліскавіцы нельга нічога трымаць вострага, не ведаў брат маёй бабулі. У час добрага надвор'я ён пайшоў на поле раскідаць гной. Праз некаторы час змянілася пагода і заблішчала бліскавіца. А вясковец працягваў сваю працу. І тут раптоўна яшчэ мацней асвяціла маланка. Пад вечар знайшлі працаўніка нежывым – пpаткнёным сваёй прыладай працы – віламі.

*Запісана ад Руцкой Яніны Янаўны. Нарадзілася 17.05.1928 г. у вёсцы Каламыцкія Воранаўскага р-на.*

### Чортавы штуршок

Гэта было ў 1983 годзе, калі мне было паўгода. Мы жылі ля касцёла, і заўсёды ўсё было бачна, што адбываецца ля гэтага святога месца... 8 студзеня тога ж года мама трымала мяне на руках, на якіх я салодка заснуў. Праз вакенца маці ўбачыла што ў касцёл уносяць нябожчыка, а ў брыгадзе ўношчыкаў быў мой хрышчоны бацька. Мама адразу пачала мяне будзіць, таму што пры ўносе памерлага ў храм не можна спаць. Дрэнная прымета. Чуць разбудзіўшы мяне, мама заўважыла, што з касцёла хутка выбег на двор мой хрышчоны бацька. Не зразумела, у чым прычына?

А назаўтра, 9 студзеня, нам дайшло паведамленне што мой хрышчоны павесіўся.

Мяркуюць, што ў той час, калі ён унёс труну з

нябожчыкам у касцёл, то ўжо тады чэрці не давалі яму спакою, і ён вымушаны быў па іх загаду выскачыць са святога будынка.

*Запісана ад Хітрун, дзяв. Руцкая, Тарэсы Багуславаўны. Нарадзілася 13.11.1959 г. у вёсцы Відаўка Шчучынскага р-на.*

**Матуліны выратунак**

Памерла жанчына. Засталася яе маленькая дачка сіратою. Муж – удавец вырашыў прывесці да хаты сабе другую жонку, каб заняць месца памерлай жонкі, якая будзе яшчэ для дачкі ў якасці падтрымкі хоць і мачахай. Але ж прайшоў нейкі час, і мачаха не ўзлюбіла гэтую дзяўчыну і загадала мужу завезці яго дачку ў лес і прывязаць да дрэва, каб тая не ўцякла. Па нейкай невераголнай прычыне, гаспадар згадзіўся на гэтую прапанову, і завёз сваю дачку ў лес, і прывязаў яе да прыдарожнага дрэва.

Побач ля лесу ляжала спакойная бязлюдная дарога, па якой час-ад часу, але ўсё ж хадзілі машыны. На гэты раз імчалася нейкая "іншамарка". Кіроўца яе ехаў паслаблена з вялікай хуткасцю. І тут ён бачыць, што на дарозе стаіць нейкая жанчына, не адступаючая ні кроку на ўзбочыну. Шафёр заранёў націснуў на сігнал, але і гэтага не прывяло да сыходу з дарогі стаяўшай асобы, якая ўсё бліжэй і бліжэй пасоўвалася да набліжаўшагася аўтамабіля. І вось яна перад самым капотам. Разгублены мужчына націскае на педаль тормазу і ... Выбегшы з спыненай машыны, шафёр спужаўся: пад калёсамі нікога няма і, наогул, сляда ад гэтага здарэння таксама. Няўжо падалося? Непадалёку ад гэтага месца пачуўся плач дзіцяці. Мужчына кідаецца на гэты плач. Ля прыдарожнай хвоі прывязана безсардэчным бацькам дзяўчына-сірата . Пазней, калі ішло следства, у рукі гэтага шафёра трапілі фотаздымкі з сямейнага архіву дзяўчынкі. Мужчына адразу пазнаў на адным з іх тую самую жанчыну – смяротніцу, якая трапіла яму быццам бы пад калёсы. Але не можа і гэтага быць. Гэтай жанчыны ўжо даўно няма ў жывых. А калі паглядзела на гэты здымак тая дзяўчына, то яна з радасцю сказала што гэта яе сапраўдная родная мама. Яна і выбегла на дарогу, каб аказаць дапамогу сваёй дачушцы.

*Запісана ад Хітрун, дзяв. Руцкая, Тарэсы Багуславаўны. Нарадзілася 13.11.1959 г. у вёсцы Відаўка Шчучынскага р-на.*

**Вядзьмарскае накляцце**

Пайшлі аднойчы муж з жонкай да адной бабкі – шаптухі. Тая ім кінула на карты, якія прадсказалі будучае кліентам. Пасля бабка ім кажа што на іх накінуты негатыў, накляцце кімсьці з жыхароў вёскі. Пасля яна дабавіла, што калі ў хаце ёсць жабы, то ўзяць і адсекчы ёй лапу. А ад гэтага метаду можна даведацца, хто ў вёсцы вядзьмар ці ведзьма ўбачыўшы ці пачуўшы пасля: хто ў гэты дзень атрымаў цяжкую траўму канечнасці.

Так і зрабілі. Знайшлі ў хаце жабу (якая даўно прыжылася ў хатнім памяшканні), адсеклі ёй лапу. А назаўтра і даведаліся, што ў вёсцы адна жанчына палала сабе руку.

*Запісана ад Банцавіч Валянціны Міхайлаўны. Нарадзілася 7.09.1970 г. у вёсцы Пурсці Лідскага р-на.*

**Божы прадсказальнік**

А быў і такі выпадак. Ішлі тры дзяўчыны – сяброўкі па рынку. Тут іх прыпыняе бедны дзядок-жабрак і просіць у іх міласціну – грошай. Дзве дзяўчыны змілаваліся, а трэцяя пашкадавала свайго рубля. Тады гэты дзядок кажа дзяўчатам:

- Ты (кажа першай дзяўчыне) хутка выйдзеш замуж за багатага мужа і будзеш мець дваіх дзяцей.

- Ты (кажа другой) паедзеш у вялікае падарожжа, убачыш свет.

Пасля ён кінуў вокам на трэцюю дзяўчыну:

- А табе я не скажу.

Тады яе сяброўкі сталі прасіць у дзеда, каб і пра трэцюю штосьці сказаў. Доўга ўгаворвалі дзядка, але ўсё ж ён сказаў:

- Ты трапіш у вялікую аварыю. Загінеш.

У гэты адказ трэцяя сяброўка і выдала:

- Не слухайце яго дзяўчаты. ¨н хлусіць вы яму заплацілі – ён і добрае вам выдаў. А я нічога не дала – так мне і дрэннае выказванне. Хлусня ўсё гэта.

Так і разышліся.

Праз нейкі час, адна дзяўчына выйшла замуж, муж багаты, двое дзяцей. Другая пачала падарожнічаць, ездзіць па свету. А трэцяя загінула ў аварыі.

*Запісана ад Руцкой Яніны Янаўны. Нарадзілася 17.05.1928 г. у вёсцы Каламыцкія Воранаўскага р-на.*

**Божае накляцце**

Было гэта даўно. У адну зажытачную хату зайшоў стары жабрак і кажа яе гаспадару:

- Гаспадар, дай, калі ласка, чаго паесці, хоць крошку хлеба.

Багаты гаспадар паглядзеў з-пад лэбба на гэтага бадзягу і злосна адказвае:

- Няма нічога ў мяне, сам галодны. Няма чаго даць табе.

Так без нічога і выйшаў жабрак з хаты.

Праз нейкі час сюды заходзіць малады хлопец і просіць у гаспадара:

- Гаспадар, дай хоць чаго-небудзь паесці. Без расінкі ў роце.

Той адказвае:

- Нічога няма. Чаго вы ўсе да мяне рынулі? Сам галодны. Што табе даць? Вазьмі хоць вонкаў паеш.

Так і гэты пайшоў без нічога з гэтай хаты.

А на заўтра, пасля ночы, падымаецца гаспадар і з жахам бачыць уся хата – сцены, столь, падлога аблеплены чалавечымі вонкамі.

А кажуць, што ў вобразе гэтых галодных быў сам Бог. ¨н хадзіў па зямлі, каб даведацца, якія жывуць людзі на ёй, і прыводзіў іх у парадак.

*Запісана Ходыш Валянціны Антонаўны. Нарадзілася 10.04.1929 г. у вёсцы Болдацішкі Воранаўскага р-на.)*

**Сон у руку**

Прысніўся сон дзяўчыне, у якім з нябёс да яе спусціўся анёл і паведаміў, што сёння яна развітаецца з гэтым светам, з жыццём і дадаў, што ўсё гэта адбудецца "дзякуючы" Пяруну.

Пасля гэтага сна, яна вырашыла схадзіць у храм – у касцёл і праспавядацца. У споведзі дзяўчына прызналася святару пра прысніўшыся сон. Ксёндз толькі вачыма правёў па ёй і сказаў, што гэта глупства, маўляў што на дварэ цудоўнае надвор'е, цёпла, свеціць радасна сонца, а яна (дзяўчына) чамусьці верыць у нейкія сны, тым больш яна яшчэ маладая, і ёй жыць ды жыць. Але ўсё ж, святар прапанаваў ёй не ісці дахаты, а пабыць гэты дзень у касцёле.

Надвор'е было цудоўнае. На небе ні хмурынкі. Ксёндз з дзяўчынай выйшаў з храма на вуліцу ды зноў яе падбадзёрыў, сказаўшы што ейны сон – пустэча.

Але раптоўна аднекуль з'явілася невялічкая хмарка і павісла над дзяўчынай. Святар вынес стол з абразамі і загадаў дзяўчыне чытаць малітвы, якія ён прапанаваў ёй ад гэтага здарэння. Так тая і выканала. Неба яшчэ больш нахмурылася, пачарнела... Заблішчала бліскавіца, грымнуў дождж. Дзяўчына са святарам не кідалі малітоўнага маўлення. Біскавіца яшчэ мацней стала біць, страляць. Ксёндз тады ўжо сам убачыў гэты стан і згадзіўся са сном дзяўчыны і зразумеў, што не ў яго сілах адолець гэтую непагадзь ды і прамовіў дзяўчыне:

- Здайся, дзеўка, на волю Божую!

Тады яна і перажагналася ў апошні раз, закончыўшы свае малітвы. Над дзеўкай яшчэ мацней заблішчэла бліскавіца, перакрыжавала маланка, здзейсніўшы сваю пастаўленую мэту.

*(Запісана ад Руцкой Яніны Янаўны. Нарадзілася 17.05.1928 г. у вёсцы Каламыцкія Воранаўскага р-на.)*

**Нераздымны крыжык**

Гэтая гісторыя адбывалася ў гады вайны. У той суровы час моцная палова сям'і – мужчына, пакідаў сваю сям'ю на догляд жонкі, з надзеяй што ўсё ж такі ён вернецца жывым дамоў да жонкі і дзяцей.

Гэты жудасны час прымусіў разлучыць цяжарную жонку Алену з маладым мужам Віктарам. Адпраўляючыся на вайну, ён (муж) загадаў сваёй жонцы, што калі народзіцца іхняе немаўлятка, то каб яна дала імя: калі сыну – Віктар, а калі дачцэ – Вікторыя, і працягнуў ёй нашыйны крыжык для будучага дзіцяці з выдрарапаным на ім напамінкам "Віктару ад бацькі Віктара".

Прайшоў нейкі час. Маладая маці нарадзіла сваё немаўля – дачушку. І па намове мужа дала імя Вікторыя. Гады праляцелі ў адно імгненне. Ваеннае ліхалецце стала заціхаць. А весткаў ад мужа – маладога бацькі - так і не прыйшло. Дачушка падрасла і стала матулінай памагатай. Але на вялікую бяду маці Алёна вельмі моцна захварэла. Да лячэнне гаспадыні далучыліся лекары, бабкі-шаптухі. Але, як на ліха, іхняе лячэнне не падняло на ногі хворую, перадсмяротную маці. Матулінай памочніцы дайшлі чуткі – прапановы, што дзесьці ў назначаным паселішчы ёсць святое месца, куды збіраюцца людзі з далёкіх краёў з рознымі хваробнымі недамаганнямі, просячыя дабраславення Божага, шукаючыя паратунку ў жыцці. Маленькая Вікторыя і вырашыла накіравацца ў гэтую дарогу, але не адна... па заснежанай дарозе. Усадзіўшы і ўкутаўшы сваю хворую матулю ў санкі, маленькая выратавальніца пачала прабірацца праз заснежаныя палі і лясы, упрогшыся конікам, шукаючы тое самае святое месца, якое на думку і на надзею дзяўчынкі павінна паставіць на ногі яе самага дарагога і гаротнага чалавека – маці. Стомленнае дзяўчына, прайшоўшы далёкую дарогу, чакала адпачынку. Але дзе яго знайсці? Дзесьці за лесам паказалася святло, агеньчык. У той кірунак і рушылі. На ўскрайку леса стаяла хатка. Змораная Вікторыя пастукала ў дзверы. Дзверы адчыніла сталая жанчына...

Сагрэўшымся цёплай ежай падарожнікам знайшоўся і кут для начлегу. Але, нажаль, дзе добрае там заўсёды побач і злое.

У гэтай хаце (лепш сказаць пры хаце, у гаспадарчай канюшні) жыў яшчэ і парабак - служка па гаспадарцы. ¨н угледзеў на шыі спячай дзяўчыны крыжык і вырашыў выкрасці яго, зняць... Зрабіўшы крадзеж, ён рушыў да сябе ў канюшню.

На досвітку, адпачыўшы, дачушка і моцна хворая маці рушылі зноў у дарогу. Адыходзіўшы, падзякавалі гаспадыні за цёплы кут і паабяцалі па вяртанні з той святыні абавязкова завярнуць да яе. Пасля адходу падарожнікаў праз некалькі гадзін з вартаўніцтва прыйшоў яшчэ адзін жыхар гэтай хаты. Ужо шмат гадоў гэты мужны мужчына дапамагае не толькі сваім заробкам і працай па гаспадарцы, але каб хутчэй і без турбот спраўляцца, наняў яшчэ і памочніка, лепш сказаць, парабка, які дзеля кавалка хлеба і страхі над галавой дапамагаў на гаспадарчым падворку. Але на гэты раз у хляве было надзвычай ціха. Прычыну цішыні ўбачыў старэйшы мужчына: на току ляжаў нерухомы даглядчык гаспадаркі, у руцэ якога быў той нашыйны крыжык, які адразу кінуўся гаспадару ў вочы. А калі ён убачыў на адваротным боку яшчэ і надпіс: "Віктару ад бацькі Віктара", - у яго заняло дыханне і сціснула сэрца. Але чаму памёр гэты чалавек? Пасля ён спытаў у хатняй гаспадыні ці быў тут хто? Яна адразу і распавяла пра дзвюх стомленых вандраўніц – хворую жанчыну маці і клапатлівую дачку-выратавальніцу, якія абяцалі сюды завярнуць пасля... Гэты прыход-сустрэчу мужчына чакаў з нецярпеннем, хвіліны здаваліся гадзінамі.

... Пачало змяркацца. Дзесьці забрахалі сабакі. У хату хтосьці ўвайшоў. На парозе стаялі тыя самыя стомленныя падарожнікі: дзяўчынка Вікторыя з вясёлымі вачыма і яе маці Алена са смелым і здаровым позіркам на твары. З пакоя выйшаў той зачаканы мужчына.

- Алена!.. Дачушка!.. – крыкнуў, як быццам на ўсю моц ён, але сілы радасці перамаглі гэты парыў і атрымаўся прыглушаны ўскрык.

- Віктар! – крыклула Алена.

Худзенькая Вікторыя не зразумеўшы гэты момант, абдымкаў незнаёмага мужчыны з маці,адышла ціхенька ў кут.

- Дачушка, гэта твой тата, - са слязьмі радасці на вачах прамовіла яе маці.

Ціха, баючыся, Вікторыя падышла да бацькі і рэзка як магнітам, радасна ашчаперыла бацькавую шыю.

У гэтыя хвіліны тут панавала радасць, а вочы не пераставалі ад гэтага пачуцця макрэць. Пяшчотна, далікатна бацькавая рука павесіла на шыю дачушкі той самы крыжык з ужо перапраўленым надпісам “Вікторыі ад бацькі Віктара”.

Так і сустрэлася разлучаная вайной, але злучаная крыжыкам уся сям’я, пераадолеўшы пакуты і галечу, ступіўшы на сцяжынку радасці і весялосці.

*(Запісана ад Руцкой Яніны Янаўны. Нарадзілася 17.05.1928 г. у вёсцы Каламыцкія Воранаўскага р-на.)*

**Панскае праклянцце**

Гэтая гісторыя дайшла ад майго дзеда (па маці), якому расказала калісьці яго маці Марыся (мая прабаба). Сведкам гэтай гісторыі быў сам бацька (мой прадзед), які быў фурманам у ксяндза.

Гэта было вельмі даўно, дзесьці ля Васілішак. Палюбіў хлопец дзеўку. І не проста палюбіў, а і дня пражыць без яе не мог. Дзеўка была багатая, хлопец – бедны. Яна яму адмаўляла ў каханні, таму што гэты хлопец не падходзіў ёй па сваім стане. Вырашыў тады закаханы нейкім чынам, але даказаць, што яна яго не за тога прымае, што ён таксама багаты чалавек.

І адным разам насустрач ехаў пан у сваёй кібітцы. Хлопец вырашае зрабіць тады страшную справу: забівае пана. Адразу перасеўшы ў гэтую павозку, ён едзе да дзяўчыны каб даказаць ёй, што ён багаты хлопец... Але тая дзяўчына адразу спытала адкуль у яго, беднага хлопца узялася багатая павозка запрэжаная коньмі. Мяўся хлопец, але сказаў праўду. Тады дзяўчына загадала яму, каб ён схадзіў на тую магілу забітага пана і прытуліў вуха да магільнай зямлі і каб паслухаў, што яму данясецца адтуль. Не хацеў гэта рабіць хлапец, але ўсё ж каханне - яму галоўней за ўсё, як і загад ягонай каханай. Выканаў і гэта ён.

Прыйшоўшы на тую магілу, хлопец прытуліў вуха на надмагілле. А адтуль даносіцца голас пана: “Прыпомню я табе праз 100 гадоў...”.

Ішлі гады. Гэтая закаханая пара і сапраўды была закаханай. У іх сям’і была заўсёды згода і цяпло. Сапраўднае каханне! Нават курыца яйка не губляла з седала. Так і ляцелі гэтыя мядовыя гады да доўгай сталасці.

І вось праз некалькі год, у калядныя дні прыязджае на запрэжанай коньмі павозцы з кіроўцам, у гэтую сям’ю ксёндз на асвячэнне хаты. Так спадабалася гэтая сталая, любячая адзін аднаго пара, што святар за размовай не заўважыў, што на двары сцямнела. Тады гаспадары хаты прапаноўваюць святару пераначаваць тут на месцы. ¨н згаджаецца. Ксянзу стала цікавым даведацца падрабязнасці пра гэтую сям’ю, і запытаўся ў іх, у колькі год яны ўступілі ў шлюб. Па падліках атрымалася што пражылі яны ўдвух ужо 100 гадоў. Гаспадыня вырашыла пачаставаць святара і палезла на хлеўчык, дзе несліся куры. Ды па нейкай незграбнасці ўпусціла цэлы кошык яек. Гэтаму яна не прыдала ўвагі. Пачаставаўшы гасцей – ксянза і фурмана - гаспадары паклалі іх спаць...

Пасярод ночы ксяндзовы памагаты прысніў нейкі страшны прарочы сон, што як-быццам яны гінуць... Схапіўшыся, са спалоху ён разбудзіў святара. І нічога не кажучы гаспадарам, яны рушылі далей у дарогу. Па дарозе яны ўспамінаюць, што ў той хаце на стале забылі святую кнігу – малітоўнік. А без яе – ніяк. Вырашылі вярнуцца. Прыехаўшы, яны жахнуліся. На тым месцы дзе стаяла хата – утварылася сажалка, якая разлілася ўшыр, а на ёй плаваў той стол на якім ляжаў ксяндзовы малітоўнік. Уцалеўшая мэбля падплыла да іх, ксёндз падхапіў тую кнігу, і ўцалеўшага стала як і не было – кулём пайшоў на дно.

З тых пор прайшло нямала часу, а пра ўзнікненне той сажалкі ведаюць многія і кажуць, што яна і да гэтых пор там не высыхае і не замярзае, а толькі зарасла абапал кустамі. Гэтую сажалку бачыў і сам дзед, ды і чэрпаў з яе ваду, калі ездзіў на млын малоць збожжа. Без вады не памелеш, а сажалка там побач.

*(Запісана ад Руцкога Багуслава Альбінавіча. Нарадзіўся 8.09.1924 г. у мястэчку Ражанка Шчучынскага р-на.)*

*(Пераказаная легенда пра возера Свіцязь. Рэд.)*

**Божая падзяка**

Хадзіла па зямлі Матка Боская. Але не ведаў ніхто, што гэта яна. Зайшла ў зажытачную хату і кажа гаспадарам:

- Дайце што паесці, хоць кавалак чаго-небудзь.

¨й адказваюць:

- Няма нічога самім. Усё пуста.

Пайшла яна далей. Заходзіць у бедную хацінку і пытае:

- Ці ёсць у вас што паесці, ці падзеліцеся чым?

Адказвае гаспадыня:

- Няма нічога. Усё пуста. Але дам хоць трохі табе чаго-небудзь, хаця жорны пустыя, і мукі няма.

Пасля Матка Боска адказвае ёй.

- Зайдзі ў свіран і глянь у тыя жорны.

А там у тых пустых жорнах і ў катухах з бочкамі з’явіліся поўныя мяхі мукі.

*(Запісана ад Руцкога Багуслава Альбінавіча. Нарадзіўся 8.09.1924 г. у мястэчку Ражанка Шчучынскага р-на.)*

**Святая нізіна**

Вёска (цяпер хутар) Відаўка Шчучынскага раёна мае сваю неразгаданую таямніцу. Старажылы гэтай мясціны помняць, што калісьці яе жыхары хадзілі ў капліцу пры лесе, у якой спавядаліся ў грэшны час. Але гэтае святое збудаванне да гэтага часу не захавалася. На гэтым месцы ўтварылася нізіна, узнікненне якой па невядомай прычыне не разгадана. А яшчэ кажуць, што на гэтым месцы былі габрэйскія могілкі, і ў маладых гадах жыхары знаходзілі ў гэтым лесе парэштккі (косці, чэрапы) пахованых. А цяпер для грыбніка там знаходка: заўсёды можна знайсці маладых маслякоў.

*(Запісана ад Руцкога Багуслава Альбінавіча.*

*Нарадзіўся 8.09.1924 г. у мястэчку Ражанка Шчучынскага р-на.)*

**Заслуга ад Бога**

Хадзіў Бог па зямлі ў сялянскім апрананні. Бачыць ён - на лузе пасеццца конь. Кажа Бог яму:

- Падвязі мяне, конь.

- Не магу, - адказвае ён, - толькі распрэглі мяне, і галодны яшчэ, хоць травы трохі паскубці.

Паглядзеў на гэтую жывёліну Бог і пайшоў. Бачыць: пасецца вол. Кажа яму:

- Падвязі мяне, вол.

- Ну добра, сядай.

І павезла гэтая жывёліна яго ў патрэбнае месца. Бачыць Бог селяніна, які на жоўтым-жоўтым пяску сее жыта.

- Не сей нічога тут, дарэмна. Не вырасце нічога, - кажа яму Бог.

- Як Бог дасць, так і будзе, - адказаў гэты чалавек у адрас мінака (Бога).

- Пайшоў далей. Бачыць: па чорнай – чорнай тлустай зямлі таксама сее збожжа чалавек.

- Ну тут ужо, напэўна, вырасце багаты ўражай, - кажа яму Бог.

- Я і без Бога ведаю, што вырасце абавязкова тут, - адказаў чалавек.

Калі прыйшоў час уборкі ўраджаю, то той селянін які сеяў па пяску – уражай узяў, дай Божа, быў вялікі, як толькі пацягнуць касу. А ў тога, які сеяў па чарназёме, збожжа ўзышло толькі дзе-нідзе – у тых мясцах, дзе ступаў ён нагой.

Конь і да гэтых пор скубе і скубе, аж да зямлі выгрызае і ўсё роўна галодны. А вол (карова) мае часу і жуйку пажаваць і траву паскубці.

*(Запісана ад Руцкога Багуслава Альбінавіча. Нарадзіўся 8.09.1924 г. у мястэчку Ражанка Шчучынскага р-на.)*

Сучасныя казкі Лідчыны — арганічная частка казачнага эпасу беларускага народа ў цэлым, маюць шмат агульных рыс і сюжэтаў з казкамі іншых мясцін і іншых часоў. Аднак, нават вядомыя сюжэты, якія трапляюць у выніку інфармацыйных кантактаў у новае асяроддзе, набываюць у ім рысы мясцовай адметнасці. Гэтыя рысы заўважаюцца і ў сюжэтным складзе і ў трактоўцы мастацкіх вобразаў, якія моцна звязаны з папярэдняй фальклорнай традыцыяй. Рысы мясцовай адметнасці асабліва выразна выявіліся ў мове і ва ўсім, што акружае герояў казак, у іх занятках. Усе запісаныя казкі маюць рэлігійную, хрысціянскую складовую, нясуць высокую мараль, скіраваны на навучанне дабру, на перасцярогу ад злога. Іхняя асноўная задача і апраўданасць стварэння і захоўвання - дарабіць тое, чаго не зробіць свет, школа, настаўнікі, паправіць тыя хібы ў выхаванні, якія дапусцілі сям'я, зноў жа школа, кіно, тэлебачанне, інтэрнэт. Яны ясныя, добрыя і павучальныя захоўваюць на зямлі векавечныя каштоўнасці, якім даўно не дастае месца ў іншых інфармацыйных парталах і даменах.

**СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ**


1. Асіпенка. Т., Беркус. С. Легенда пра Ліду//Принеманские вести. 2008. 10 января. С. 5.
2. Беларуская міфалогія: Энцыклапед. Слоўн. /С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч і інш. - Мн.: Беларусь, 2004 - 592 с.
3. Беларуская народна-паэтычная творчасць. [Вучэб. Дапаможнік для філал. Фак. ВНУ.] /В.К. Бандарчык, К.П. Кабашнікаў, М.Р. Ларчанка і інш. Мн.: Выш. школа, 1979. - 448 с.
4. Будрэвіч В. Легенды о родном крае. Оникс. 1998. №4(8)-С. 14.
5. Беларускі фальклор Гродзеншчыны: Народны эпас. Замовы. Варажба: Хрэстаматыя /склад, прадмова і апрацоўка тэкстаў Р.К. Казлоўскага. - Гродна: ГрДУ, 2007. ¦
6. Беларускі фальклор: Хрэстаматыя: Вучэб. Дапам. Для філал. Фак. ВНУ /Склад. К.П. Кабашнікаў і інш. - 4-е выд., перапрац. - Мн.: Выш. Шк., 1996. -856 с.
7. Васілевіч У. Збіральнікі. Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. //Мн. Навука і тэхніка. - 1991.
8. Васілевіч У. Панна Бірута. // Краязнаўчая газета. 2006, верасень, №33.
9. Вярыга. У. Беларускія паданні. Львоў. 1889.
10. Грыб. С. Блукае па замку "чорны рыцар". // Лідская газета. 2008. 26 чэрвеня.
11. Дучыч. Л. Што ў паданнях і назва? /Лідская газета. 1989. 21 лістапада.
12. Каспяровіч. Н. Легенда пра Бярозаўку /Н. Каспяровіч // Принеманскне вестн. - 2006. - 5 января.
13. Косцін. М. Фальклорная скарбніца пані Біруты / Лідская газета. - 2007. - 21 чэрвеня.
14. Літвіновіч А.Ф. Этнаграфічнае вывучэнне Лідчыны ў XIX - XX стагоддзях. Бірута. /Лідскі летапісец. №2 (14). с. 32 - 34.
15. Маліноўскі М. Ці гудзеў Гуд у Гудах.//Лідская газета. 1998. 25ліпеня.
16. Мамедава Т.Я., Варанько К. Дз. Беларусь у легендах і паданнях. //Дадатак да "Новых кніг". 1996. №1. С. 1-16.
17. Мацулевіч. А. Легенда аб арліным гняздзе.// Лідская газета. 2008. 9 лютага.
18. Мацулевіч. А. Что в имени твоем... //Лідская газета. - 2007. - 19 мая.
19. Мой любы горад Ліда (зборнік вершаў). Лідская цэнтральная раённая бібліятэка імя Я. Купалы. Ліда. 2008.
20. Ненадавец А.М. Вялічкаўскае возера. //Азёры Беларусі: у легендах і паданнях. Мн. 2003. С. 31-34.
21. Ненадавец А.М. Гродзеншчына ў легендах і паданнях. //Мн. "Беларусь", 1999.
22. Сосны ля Лідскага замка //Легенды і паданні. Мн. 2005. С. 355.
23. Хітрун А. Яе называлі і Крупеня. Чаму? //Лідская газета. 2009. 28 сакавіка.
24. Хітрун А. А было гэта так...// Лідская газета. 2008. 11 кастрычніка.
25. Чарадзейныя казкі: У 2 ч. Ч. 1 /НАН Беларусі, Інт мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; Склад. К.П. Кабашнікаў, Г.А. Барташэвіч, рэд. Выд. В.К. Бандарчык - 2-е выд., выпр. і дапр. - Мн.: Бел. Навука, 2003. (Беларуская народная творчасць).
26. Чарадзейныя казкі: У 2 ч. Ч. 2. - Мн. Бел. Навука, 2003. (Беларуская народная творчасць. - С. 163 - 168, С. 218 - 220, С. 407 - 409, С. 493 - 495.
27. Черноус. Т. В Лидском замке... привидение. //Лідская газета. 2007. 24 сакавіка.
28. Шамякіна Т. Міфалогія. Вытокі нашай свядомасці. "Роднае слова" /"Беларуская мова і літаратура ў школе". 1993. №8(68). Жнівень. С. 58 - 65.
29. Швед. В. Абаронца зямлі беларускай. /Гродзенская праўда. 2004. 3 красавіка.
30. Шкодзіч. Н. Этнаграфічнае вывучэнне Лідчыны ў XIX - XX стагоддзях. Уладзіслаў Вярыга. /Лідскі летапісец. №2(14). С. 31 -32.

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




**У выдавецтве “Архэ-Пачатак” выйшаў зборнік “Летапісы і хронікі Беларусі. Сярэднявечча і раньнемадэрны час”, 902 ст.**




**У выдавецтве “Харвест”, г. Менск, выйшаў зборнік “Предыстория белоруссов с древнейших времён до XIII века”, складальнік і навуковы рэдактар А. Тарас. 544 ст. Наклад па 2000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Архэ-Пачатак” выйшаў нумар часопіса “ARCHE”, прысвечаны Гародні. 722 ст. Наклад 600 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Лемарыус”, выйшаў энцыклапедычны альманах “Асоба і час”, прысвечаны Ларысе Геніюш. 543 ст. Наклад 400 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Літаратура і мастацтва”, г. Менск, выйшла кніга Алеся Карлюкевіча “Радзімазнаўства. Мясціны. Асобы” 352 ст. Наклад па 1600 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларусь”, г. Менск выйшла кніга Б.Л. Лазукі “Гісторыя сусветнага мастацтва. XVII - XVIII стагоддзі”, 252 ст., 3000 асобнікаў.**



**Касцёл Святой Сям'і.** Горад Ліда, вуліца Тухачэўскага.

*Фота Станіслава Судніка.*